

# Маладосць

# 5

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(678) МАЙ, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 12.05.2010. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,48. Тыраж 2656 экз. Заказ 1172.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# На Беларусі Бог жыве



*Міжволі згадаўся гэты крылаты радок класіка пасля першай жа вясновай вандроўкі па Міншчыне. Нават ранішнія прымаразкі не развейвалі светлага настрою: усмешлівыя твары людзей, што, нарэшце, дачакаліся вясны, жоўтыя галоўкі нарцысаў ледзь не ў кожным гародчыку, чысціня, упарадкаванасць — насустрач лету, спадзеву на добрую ўрадлівасць ва ўсім.*

*Гэта дзесьці бушуюць ураганы, неўтаймоўныя паводкі, а наша зямля, як і неба над намі, да нас, беларусаў, у прынцыпе даволі лагодная. Гэтаму трэба ўмець радавацца, а галоўнае, цаніць гэта. Мы і цэнім, кажуць жа пра нас — працавіты народ, дзе ніколі ў пашане не былі лайдакі. У працы — знаходзілі сябе і адкрываліся свету. Але не толькі ж на зямлі мы працуем. Свой плён ёсць у любой працы. З гэтага і складаецца гармонія чалавечага быцця, не хлебам жа адзіным жывы чалавек. Як, скажам, мне было не парадавацца, калі пабачыла сігнальны экземпляр кніжкі для дзяцей «Першая Прыгажуня» Алены Масла, якая зусім нядаўна выйшла ў нашай рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва» ў цудоўным афармленні мастачкі Тамары Шэлест. «Сок з альясу», «Балотная «кансерваторыя», «Крыўда старога Вадзяніка», «Сава на царстве», «Кітайскія ліхтарыкі», — гэтыя і іншыя казкі адкрыюць маленькаму чытачу той чароўны і непаўторны свет, які дапаможа яму ўвайсці ў дарослае жыццё з самымі лепшымі пачуццямі любові, высакароднасці, дабрыні. Яны паспрыяюць нашым хлопчыкам і дзяўчынкам глыбей зірнуць на жыццё і задацца самымі рознымі пытаннямі, на якія будуць шукаць адказы ў навакольным свеце. Казка стане арыенцірам у гэтым пошуку, яна дакладна акрэсліць, дзе дабро, а дзе зло, з чым трэба змагацца і на што раўняцца. Прыгожая, цудоўная ва ўсіх адносінах кніжка, якая, заўважу (што вельмі важна), раскупляецца! Гэта абвяргае думкі, якія складваліся гадамі, што, маўляў, няма ў нас цікавай літаратуры для дзяцей. Тут усё вызначаюць самі дзеці!*

*Напрыканцы мінулага года, ды і вясной у мяне было шмат сустрэч са школьнікамі. Кожная з іх — адкрыццё… 10-я, 12-я, 7-я мінскія гімназіі, некалькі сталічных дзіцячых бібліятэк, дзе і настаўнікі, і бібліятэкары дапамаглі мне глыбей разабрацца, што сабой уяўляюць сучасныя школьнікі. Гэта ўжо дзеці XXI стагоддзя, выхаваныя на Інтэрнеце ў добрым сэнсе гэтага слова. Яны інфармацыйна падкаваныя, яны — у патоку інфармацыі, разабрацца ў якой ім павінны дапамагчы ўласная душа і сэрца. Інфармацыю мы прапускаем праз сябе, адбіраючы тое, што нас зацікавіла, а жывём — сэрцам! У ім — і нашы трывогі, і нашы радасці, і наш боль… Усялякая літаратура — для сэрца! Маленькаму сэрцу, якое павінна вырасці ў вялікі сасуд прыгожых пачуццяў, патрэбна таленавітая, цікавая дзіцячая літаратура, якую, дарэчы, і ствараюць многія нашы сучасныя пісьменнікі. Пра гэта сведчаць выданні нашай установы, што ўсё больш і больш робяцца заўважнымі.*

*Ну, а што ж часопіс «Маладосць»? Як ужо нашы чытачы ведаюць, распачалася новая падпісная кампанія, ідзе падпіска на другое паўгоддзе гэтага года. Мы, вядома ж, спадзяёмся на поспех. У сваёй рэкламцы шырока выклалі звесткі пра тыя творы нашых пісьменнікаў, якія мяркуем надрукаваць. Акрамя мастацкай літаратуры з'явяцца і цікавыя інтэрв'ю. Некалькі гадоў таму я атрымала ад Ядвігі Юльянаўны Раманоўскай, пляменніцы Янкі Купалы, «Паўлінку», выдадзеную асобнай кніжкай. У сваім аўтографе Ядвіга Юльянаўна напісала прозвішча дзяўчыны, якая стала прататыпам Паўлінкі. Таму і думаем наладзіць з Ядвігай Юльянаўнай вялікую гутарку для часопіса, падчас якой і раскрыем гэтае імя. А яшчэ будуць цікавыя інтэрв'ю з Рагнедай Раманоўскай, дачкой Кузьмы Чорнага, і Леанідам Лыньковым, сынам Міхася Лынькова, які ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі загадвае кафедрай абароны інфармацыі. Думаю, што гэтыя публікацыі асабліва цікавымі будуць для настаўнікаў-філолагаў і шмат што дададуць да вобразаў нашых класікаў. Застаўайцеся з «Маладосцю»!*

З найлепшымі пачуццямі
і павагай — Ф. Баравікова



*Аляксей Арцёмаў нарадзіўся ў 1991 годзе ў Туле, дзе цяпер і жыве. Піша вершы на рускай мове з 2000 года, з 2008 года піша таксама па-беларуску. Займаецца мастацкім перакладам. Аўтар зборніка вершаў «Двойная звезда» (Тула, 2007—2008). Лаўрэат і прызёр тульскіх гарадскіх і абласных моладзевых літаратурных конкурсаў. Атрымаў прыз конкурсу імя Карласа Шэрмана (2009). У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Аляксей АРЦЁМАЎ

# КАРАЛЕЎСТВА ВОДАРАЎ

## МУЗЫКА

Усё прайшло. Альбо прайшло амаль.
Вяртаецца каханне да вытокаў.
Я ноту ўзяў, але маўчыць раяль,
Нядрэмнае глядзіць за мною вока.

Акорд жадання — музыка мая,
Ды сіл няма, ужо сціхаюць словы.
Апошні раз я бачу сонца дня…
Скажыце, хіба гэта не цудоўна?

Бо свет пакіну з думкай аб табе.
І хай пражыў, на жаль, завельмі мала,
Але з табою, лепшаю з кабет,
Маё каханне музыкай гучала…

* * *

Навобмацак да праўды ідучы,
Блукаю я сярод праклятых соснаў.
Святлом зіхоткім вабіць далячынь,
Звіняць цудоўна залатыя росы,

Гладзь возера празрыстая, як шкло,
Пшанічныя бурштынавыя хвалі...
А дзе спакой? Напэўна, ўсё было,
Дык што мы прапусцілі, што праспалі?
Нашто я зразумеў, што лёс — падман?
Далёка дзесьці ходзіць лэдзі-ўдача —
Вакол хлусні вялікі акіян:
І плыняў шмат, і берагоў не ўбачыць.

Ніхто не можа мне дапамагчы,
Але світанак хутка прыйдзе босы,
І зноў святлом завабіць далячынь,
І зазвіняць вясёлай песняй росы...

* * *

Пацёртыя вокладкі кніг —
Салдаты ў палку на паліцы.
Забыць бы аб гэтай крыніцы,
Адмовіцца б толькі ад іх!
Пацёртыя вокладкі кніг.

Аддаць іх у краму назад
Ці полымю ў дар, як ахвяру?
На жаль, не адбудуцца мары,
І кнігі памілуе кат.
Не здаць іх у краму назад.

Старонкі тамоў не памруць,
Спаліць, загубіць — немагчыма,
Бо вечнасці пільнай пачынак
Няўлоўны, як вадкая ртуць.
Старонкі тамоў не памруць.

І словы мудрэйшых за нас,
І думак іх хітраспляценні
Лунаюць над намі, як цені,
А мы, як раней, увесь час
Баімся мудрэйшых за нас…

## КАРАЛЕЎСТВА ВОДАРАЎ

Ты падарыла каралеўства водараў,
Мяне ператварыла ўміг у волата,
Я ўбачыў нечакана ў мутных водах Ра,
А ў вогнішчы заходу — россып золата.

Да зорак падымаліся — не бачылі,
Што вокамгненна ўвесь сусвет
руйнуецца.
Мы верылі: не будзе больш няўдачаў і
Зноў свята зазірне на нашу вуліцу.
Але жыццё надзеі гоніць марныя,
Мы ў каралеўстве водараў не першыя...
Муз, пэўна, не завабіць мемуарамі.
Што застаецца?
Толькі крэмзаць вершыкі.

* * *

Чаго няма? Маліцца ўсім багам
Не сорамна — я маю ўсё, што трэба,
Хоць мітусні дарэмная вага
Не дазваляе падымацца ў неба.

Што далячынь, калі сярод людзей
Багата слёзаў, і журбы, і стратаў.
А шчасця скарб ляжыць, ды толькі дзе?
Жыццё без змен, як клятва Гіпакрата.

Штодзёншчыны і вэрхалу саюз...
Усё далей да прывіднага раю.
Нібы пад спіну палажылі друз,
І скура кожны камень адчувае.

## КАЎКАЗ

Ноччу а другой гадзіне ціха выйшаў на гаўбец,
А ўспаміны зноў бруяцца — хай рака цячэ сабе.

Не забыць такога, зрэшты: я ў той час набыў квіток,
І мяне цягнік выносіць у густы каўказскі змрок.

Удалечы горад родны, шэраг белых ліхтароў,
Лёхі, стрэхі, рэхі, пахі — ўсё, ў чым шчасця не знайшоў.

Тут, на поўдні, краявіды: гор не менш, чым яркіх зор,
Месяц точыць на чужынцаў рог свой, востры, як лязо.

Люд мясцовы жвавы, шпаркі — час не бавіць у журбе...
Брудны горад. Дзьме вятрыска. Пад нагамі зноў гаўбец.

Так, было калісьці дзіва. Веру, не ў апошні раз!
Я цябе яшчэ пабачу, гаспадару мой, Каўказ...

* * *

Паслязаўтра адбудзецца жнівень, як цуд нечаканы,
І аздобіць на золку празрыстай расою траву,
Захавае зямлю ад прадвосеньскіх пасмаў туману
І напоўніць зярнятамі чорнымі спелы кавун.

Ліпень доўга смяяўся: то ветрам нагоніць залеву,
То спякотаю з глебы апошнія кроплі збярэ...
Толькі веру, цяпер гэта пройдзе, мая каралева,
Будзе жнівень — з табою сустрэцца змагу ў рэшце рэшт.

«Жнівень будзе», — я зноў паўтараю. Ён прыйдзе, паўстане —
Месяц жоўтых світанкаў, пяшчотнай азёрнай вады...
Хай жа ён падаруе адвечную радасць кахання,
Каб яна заставалася з намі заўжды. Назаўжды!



Іван КАРЭНДА

# СКРЫПКА З БЕРЛІНА

## *Апавяданне*



*Іван Карэнда нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Па прафесіі — настаўнік і журналіст. Працаваў у школе, рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», на дзяржаўнай службе. Аўтар зборнікаў лірыкі «Белы наліў», «Знічка», «Васількі надзеі», паэтычнай кнігі для дзяцей «На загадкі ёсць адгадкі». У 2004 годзе выйшла кніга лірыкі «Апошняя малітва» на балгарскай мове. У перакладзе на рускую мову творы друкаваліся ў расійскіх літаратурна-мастацкіх часопісах, «Литературной газете». Вядомы і як празаік. Аўтар аповесці «Воплаўская госця», шэрагу апавяданняў і эсэ. На вершы Івана Карэнды вядомыя беларускія кампазітары напісалі больш за 30 песень.*

Абласны конкурс юных скрыпачоў, прымеркаваны да свята Перамогі, было вырашана правесці ў Оршы, на базе старэйшай і самай прэстыжнай у горадзе школы мастацтваў. Вялікі гонар наладзіць фэст і прымаць шматлікіх гасцей сведчыў пра яе несумненныя поспехі: установа праславілася сваімі таленавітымі выхаванцамі не толькі ў вобласці, а і за межамі Беларусі. Адным словам — заслужыла.

Пра важную падзею ў культурным жыцці горада, да якой заставалася меней як месяц, напісала мясцовая газета, паведаміла аршанскае радыё.

Амаль штодня дырэктару школы Ірыне Віктараўне тэлефанавалі з аддзела культуры — цікавіліся ходам падрыхтоўкі да конкурсу, напаміналі пра адказнасць перад вобласцю.

Ды навошта ёй былі тыя напамінкі? — яна і без начальнікаў з уладных кабінетаў добра разумела: нават за нязначныя недахопы ў правядзенні гэтага мерапрыемства можа пазбавіцца сваёй дырэктарскай пасады, якую займала ўжо не адзін год.

А тут, як быццам хтосьці сурочыў яе, і сапраўды ўзнікла праблема: рамонт школы зацягваўся, яго завяршэнне да вызначанай даты было пад пагрозай зрыву. І цяпер яна раз-пораз дакарала сябе: сама ж прыдумала такі галаўны боль — замяніць паркет у актавай зале! Паскрэблі б, пачысцілі б крыху, палакіравалі б стары — і ніхто не звярнуў бы ніякай увагі, адна падзяка. Дык не! — трэба ж было заікнуцца пра гэта ў аддзеле культуры. Там — абедзвюма рукамі «за». Ім што, ведаюць: Ірына Віктараўна — чалавек слова. Сказала — зробіць. Калі б толькі ад яе залежала, то яна той дубовы паркет дзень і ноч пілавала б, кожную дошчачку сама пагаблявала б, абы толькі своечасова, да конкурснага дня, закончыць рамонт.

І заняткі ў школе ніхто не адмяняў — ідуць, без выхадных, з раніцы да позняга вечара. Цягнецца дзятва да музыкі. Ці, дакладней, бацькі цягнуць яе сюды за рукі-ногі — вельмі ж хочацца ім, каб іх крэўнікі набылі музычную адукацыю. Педагогам-музыкантам беспрацоўе не пагражае: колькасць навучэнцаў штогод павялічваецца,

уводзяцца новыя спецыяльнасці. А вось дырэктарскі аклад павышаць не збіраюцца. А клопатаў у кіраўніка школы — што ў той вавёркі перад зімою.

Правесці абласны конкурс — ганарова, што і казаць. А колькі сіл, колькі нерваў ён адніме ў дырэктара! — цяпер яны штодня сінім полымем беззваротна згараюць, як дровы ў печцы.

Вось як сёння — брыгадзір рамонтнікаў паехаў з самай раніцы ў трэст, па той самы паркет, а дагэтуль не вярнуўся.

Ірына Віктараўна чакала яго званка, але ў трубцы раз за разам гучаў не той голас, які ёй быў патрэбен.

Чарговы тэлефонны званок канчаткова вывеў яе з душэўнай раўнавагі. Рука нервова, але ўсё яшчэ з надзеяй, пацягнулася да тэлефоннага апарата.

— Алё?.. Музычная школа?.. — пачуўся ціхі, хрыпаты голас.

— Ну, дапусцім… Школай мастацтваў цяпер называецца, — неахвотна, абыякава пачала размову ўзбуджаная непрыемнымі перажываннямі дырэктар.

— Сольнікаў я, Лаўрэн Ігнатавіч. — І, мабыць, каб падкрэсліць свой паважаны ў грамадстве статус, пасля кароткай паўзы чалавек дадаў: — Пенсіянер…

— Пенсіянераў мы ў школу не прымаем, — рэзка перапыніла яго прадстаўленне Ірына Віктараўна.

— Ну, вядома, вядома… Навошта вам стары Сольнікаў?

— Дзядуля, не сып мне соль на рану. І так душа баліць, валідол глытаю… — выдыхнула ў тэлефонную прастору дырэктар. — Прабачце, у мяне няма часу на доўгія размовы. Што трэба? Прашу коратка, па сутнасці…

— Па радыё перадавалі, што ў школе будзе конкурс юных скрыпачоў… Хачу прыйсці паслухаць… І не толькі…

— Усе месцы ў зале будуць занятыя, мы іх загадзя распісалі. Гасцей наедзе шмат. Праўду кажу: ніводнага свабоднага месца не будзе. Да пабачэння.

І, кінуўшы трубку на стары, з мінулага веку, апарат, паглядзела на гадзіннік, што вісеў на сцяне насупраць дырэктарскага крэсла. Заканчваўся рабочы дзень, а з ім і спадзеў на вяртанне брыгадзіра. «Хоць бы пазваніў, ёлупень!..» — трэслася ад злосці Ірына Віктараўна.

Тэлефон зазваніў зноў. «Ну, можа, нарэшце!..» — прамільгнула жаданая для знерваванага неспрыяльнымі абставінамі дырэктара думка.

Аднак голас быў той самы, што і хвіліну назад.

— Даруйце, нешта сувязь перарвалася…

— Нармальная ў нас сувязь, — нібыта сабе пад нос, а фактычна ў трубку прамармытала дырэктар.

— …Родам я са Свісцёлак… Пэўна ж, чулі пра такую вёску нашага раёна? — не то пытаўся, не то сцвярджаў голас у тэлефоннай трубцы.

— Дзядуля!.. У нашай школе няма аддзялення мастацкага свісту…

— Ды не ўмею я свістаць, — нібы апраўдваючыся, працягваў тэлефонны суразмоўца.

— Я ж прасіла — карацей…

— …А жыву цяпер у Оршы… Я маю добрую скрыпку. Трафейная, з Берліна. Італьянская, сорак трэцяга года вырабу… Гучанне выдатнае…

— Мы рэкламай скрыпак і іх рэалізацыяй не займаемся. Ды і ў кожнага вучня ёсць свой інструмент — бацькі на гэта грошай не шкадуюць.

— А я пра гэта і не прашу, і прадаваць не збіраюся — такой патрэбы не маю, — даводзіў стары.

— Дык чаго хочаце? Каб я слухала байкі пра трафейныя скрыпкі? Паўтараю, на такія размовы ў мяне няма часу.

— Можна і не размаўляць — прышліце каго-небудзь з выкладчыкаў, я проста перадам скрыпку. Можаце ўручыць яе пераможцу — лепшаму юнаму скрыпачу. Бо сам я хадок ужо слабы. Неўзабаве ў інтэрнат ветэранаў вайны падамся. Ніводнай роднай душы на гэтым свеце ў мяне не засталося. Дакументы ў інтэрнат ужо афармлены. Вось адсвяткую Дзень Перамогі — і гайда да такіх, як я, нямоглых, дажываць там свае зямныя дні.

— Вы што, франтавік? — перайшла на спакойны тон Ірына Віктараўна. — З гэтага і пачыналі б…

— А хто яго ведае, з чаго пачынаць трэба… Памяць не тая, што ў маладыя гады, блытаюся…

— Называйце адрас, прыедзем… — падсумавала прыкры тэлефонны дыялог дырэктар, задаволеная тым, што ёй удалося-такі «выруліць» на патрэбную размоўную сцежку.

— Дзякуй. Буду чакаць…

…Лаўрэн Ігнатавіч яшчэ некалькі хвілін трымаў у спацелай руцэ тэлефонную трубку, не зважаючы на кароткія, таропкія гудкі, што даносіліся з яе. Потым падняўся з канапы, на якой сядзеў падчас тэлефоннай размовы, і падышоў да акна. На залітым лагодным вячэрнім сонейкам падворку прабівалася да жыцця маладзенькая зялёная трава. На старой бярозе, з якой ён нядаўна спускаў сок, весела шчабяталі шпакі. «Якая слаўная пара! І так — з году ў год. Вялікую моц і сілу мае прырода, каб, памёршы, наноў адрадзіцца ва ўсёй сваёй непаўторнай пекнаце. І якое шчасце бачыць гэтую прыгажосць!..» — думаў, крыху супакоіўшыся пасля працяглай размовы з дырэктарам школы мастацтваў, некалі вядомы на ўсю краіну машыніст-чыгуначнік і знакаміты музыка, самадзейны скрыпач Лаўрэн Сольнікаў.

Светлыя выявы новага абуджэння прыроды, што радавалі і саграваліі яго сэрца, змяніліся ўспамінамі-малюнкамі далёкай і самай памятнай у яго жыцці вясны…

...Бой за Берлін ішоў безупынку дзесяць сутак. Дзесяць дзён і начэй ніхто не спаў — ні камандзіры, ні байцы. Напружанне і стомленасць былі неймаверныя, людзі ледзь трымаліся на нагах.

Ён і сёння выразна бачыць перад сабою пачарнелыя ад бяссонніцы твары аднапалчан, іх брудныя, запыленыя, прапахлыя дымам і порахам гімнасцёркі.

Апоўдні 2 мая, калі раптам усё сціхла, пераможцы паснулі. Упокат, прама на плошчы, каля рэйхстага. Камандзіры і салдаты, галава да галавы. І спалі непрабудна амаль два дні!

А потым, калі прачнуліся, пачалі прыводзіць сябе ў парадак — сталі мыцца, галіцца. Падвезлі новенькія гімнасцёркі.

У Берліне цвіў бэз. Яны ламалі яго галінкі, каб нанюхацца чароўнага водару, забытага на вайне, надыхацца вясной. Пілі аднекуль прывезены каньяк — тады ён упершыню пакаштаваў гэты моцны напой. Да вайны ён увогуле не браў у рот спіртнога. І на фронце свае законныя сто грамаў «наркомаўкі» аддаваў байцам-паплечнікам. А ў той незабыўны дзень, у Берліне, выпіў. Каб адсвяткаваць разам з усімі Вялікую Перамогу.

Камандзір іх мінамётнай роты, украінец з-пад Жытоміра Пятро Перацяцька, прынёс з руін магазіна, дзе пасля бамбардзіроўкі ці артылерыйскіх удараў валяліся розныя музычныя інструменты, скрыпку і, падміргнуўшы яму, Сольнікаву, сказаў:

— Зайграй, Лаўрэн, што-небудзь вясёленькае, каб ногі самі ў скокі пусціліся. Ты ж расказваў, што ўсё можаш… Найперш, вядома, нашу, украінскую — «Распрагайце, хлопцы, коней…»

Доўга настройваць скрыпку часу і патрэбы не было — новенькая і абсалютна цэлая, аніводнай драпінкі, з бліскучым лакам, яна мірна, быццам і не бачыла страшэннай, разбуральнай вайны, ляжала разам са смычком у спецыяльным драўляным чамаданчыку. Таму, відаць, і ўцалела, захавалася.

Апошні раз ён трымаў у руках музычны інструмент перад вайной. І цяпер трэба было ўспомніць забытую за тры гады жыцця ў акупацыі і некалькі франтавых месяцаў бацькаву навуку, калі па чарзе з братам Валерам брынкаў на сямейнай скрыпцы паміж заняткамі ў школе, сялянскай працай у полі і на лузе ды рыбачаннем на Дняпры.

Прысеўшы на нейкую бочку, крыху падкруціўшы калкі і падцягнуўшы струны, Лаўрэн раз-другі правёў па іх смычком. А праз хвіліну зайграў тое, што і прасіў Пятро, што адпавядала іх агульнаму ўзнёсламу настрою. А Пятро, зухавата адкінуўшы галаву, растапыранымі пальцамі прычасаўшы свой рыжы, даўно не стрыжаны чуб, стаў падпяваць. Ну і галасіну ж меў мужык — сам Шаляпін заслухаўся б!.. Умомант да іх збегся ледзь не ўвесь батальён — байцоў мо з паўтысячы…

…Той вясной, у маі сорак пятага, яму было няпоўных дваццаць. Значыць, сёлета на шэсць з паловай дзесяткаў болей. Ох, як бяжыць час! Легкакрылай птушкай праляцелі, прамільгнулі пасляваенныя гады. З Германіі ён вярнуўся толькі ў сорак сёмым. Прывёз тады сярод нешматлікіх салдацкіх пажыткаў і трафейную скрыпку. З таго часу і не разлучаўся з ёю. І яму аддана служыла, і людзям радасць прыносіла. І на вяселлях, і на іншых банкетах, і на розных канцэртах гучалі яе чароўныя акорды. Але што рабіць з ёю ў ветэранскім інтэрнаце? Ды і колькі яму жыць засталося? Хочаш не хочаш, а і табе, Лаўрэн, пара збірацца ў вырай. Вось таму і вырашыў перадаць інструмент у добрыя рукі…

Думкі Сольнікава перапыніў званок у кватэру, які паўтарыўся тройчы. Да яго даўно ніхто не заходзіў, і сёння ён нікога не чакаў, таму здзівіўся, што напрыканцы дня хтосьці вырашыў патурбаваць яго адзінокае існаванне.

Па заўсёднай звычцы паглядзеўшы ў дзвярное вочка, ён нават сваімі падслепаватымі вачамі беспамылкова вызначыў: у калідоры — жанчына. І, пакруціўшы дрыжачымі ад старасці рукамі ніжні, а потым і верхні замкі, спакойна адчыніў дзверы.

Перад ім стаяла высокая, мажная маладзіца, у белым плашчы, з павязанай на шыі блакітнай хусцінкай, з букетам кветак у руках.

— Лаўрэн Ігнатавіч? — спытала незнаёмка. — Я са школы мастацтваў. Мы паўгадзіны назад размаўлялі па тэлефоне.

— А-а… Праходзьце, калі ласка, — з палёгкай на душы прамовіў гаспадар, запрашаючы неспадзяваную госцю ў кватэру, якую ўжо лічыў сваім часовым прытулкам.



Аляксей ПЫСІН



# «ПРАЦЯГАМ ВАБІЦЬ БЕССМЯРОТНАСЦЬ...»

## ІВАН-ЧАЙ

Вабіць незнаёмая дарога,
І сабе ты скажаш: прыкмячай.
А калі дарог на свеце многа,
Друг мой, Іван-чай?

Ды тваіх, смаленскіх, не забуду
У снягах, дажджах і сіняве.
Тройчы адбівалі вёску Буду,
Тройчы паміралі за яе.

А пад Будай — хлопцы пахаваны,
А пад Будай — многія сябры.
Аляксеі, Віктары, Іваны...
Гліна коўзкая. Падзол сыры.

Узышлі травой і гарыцветам,
Узышлі на радасць ці жальбу?
Вунь стаіць Іван па-над кюветам,
Галавой ківае: «Вось жыву.

Не здзіўляйцеся, што ўвесь чырвоны;
Восем куль было — крывёю сцёк.
Скора восень. Каркаюць вароны.
Жоўты каля ног маіх лісток.

Хочаш — пачастую нашым чаем,
Я ж цяпер навекі вадахлёб».
Не, Іване, з чаем — пачакаем,
Закурыць не лішне нам было б.

Мы цыгарку скруцім па-былому,
Пусцім шызы дым на правады.
Першая зацяжка — мне, жывому,
Бо занадта ў сэрцы гаркаты.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Чырвань, чырвань, колер праваты…

*Аляксей Пысін (1920—1981) нарадзіўся ў вёсцы Высокі Борак Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску, скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1958). Удзельнік Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях раённых газет, з 1958 года ў рэдакцыі газеты «Магілёўская праўда», з 1974 — сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення СП БССР. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Аўтар зборнікаў паэзіі «Наш дзень», «Сіні ранак», «Мае мерыдыяны», «Твае далоні» (Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы, 1968), «Пойма» ды інш. Выдаў некалькі паэтычных кніг для дзяцей.*

* * *

*Міхасю Стральцову*

Лугоў зялёнае міжброўе,
Вада — славянскай сінявы.
Мне кожны колас Прыдняпроўя
Жадае добрага здароўя
Паклонам русай галавы.

Вось бескапытная дарога
Звініць у бесканечнасць дня.
Нібы на маманта жывога,
Гляджу на рыжага каня.

Зямля — у воблаках і мяце —
Ляці увысь,
Глыбока сей!
Сасна паклікала, як маці,
Працяжна, глуха: «Аляксей…»

* * *

*Сцяпану Гаўрусёву*

Забыта многае ў жыцці,
З дарогі змецена і змыта.
Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Вазьму шурпаты каласок
На чуйным провадзе саломы —
І адзавецца мне здалёк
Мой продак — сейбіт незнаёмы;

Жней невядомых галасы
Ўсплывуць над постаццю сухою.
Раскалыханы каласы
Густой паўдзённаю смугою.

Тут даспявае пад смугой
Зліццё надзей, жаданняў сумесь.
Гудзе жытнёвы провад мой —
Часоў былых і новых сувязь.

І даспявае далягляд
У трапяткім мембранным гуле.
Шукаюць рукі тых зярнят,
Каб нас таксама дзесь пачулі.

* * *

Палім мы маршанскую махорку,
Бачым мы Дняпроўскую граду.
Будзе сёння бой. На тым узгорку,
Можа, я таксама упаду.

Будуць травы над курганам. Будуць
Адлятаць у вырай жураўлі.
Нас, напэўна, ў свеце не забудуць,
Ўспомняць, што на свеце мы жылі.

…Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце: калі мяне не стане —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

* * *

Ноч, стамлёную частымі снамі,
Памяць, промнем сваім не будзі!
Замыкаю гарамі, лясамі,
Пакідаю яе ў забыцці.

Пажадаю вам, людзі, ўсміхацца
Ў добрых снах… Я ад добрых адвык.
Мне пажары, пажары ўсё сняцца,
Я баюся аслепнуць ад іх.

І здзіўляцца, напэўна, не трэба,
Калі выйду, апалены, з сну
І, не ўбачыўшы блізкага неба,
Свет абмацваць пачну,
Як сцяну.

* * *

Дарожны пыл ідзе направа —
Развеецца і ападзе.
Зямля — густая пераправа
Забытых лёсаў і падзей.

Быў дзесьці я на пераправе
З імглы, з нябыту ў гэты свет.
Мяне збірала разнатраўе
З дажджоў зямных, святла планет.

Мне маці вызначыла роднасць
І па душы, і па крыві.
Туды, дзе гарызонт крывы,
Працягам вабіць бессмяротнасць.

Вядзе па зелені, па маю,
То птушку дорыць, то змяю.
Лес пашчапаны ўспамінаю,
Дубы ў барознах пазнаю.

Два светы ў памяці і зроку,
Мяжою — вастрыё ляза.
Ды я скажу святлу і змроку:
Дабра больш сеецца,
Чым зла.

Не кожны сейбіт. Суцяшэнне,
Магчыма, знойдзецца і ў тым,
Што сціпла ты паднёс насенне,
Згінаўся ў клопаце адным.

* * *

На суровым сваім рубяжы
Горад падаў грымотнай сцяною.
З камяніц паляцелі стрыжы
Проста ўвысь, проста ў неба начное.

Білі ўнізе агню языкі,
І стагнала зямля валунамі.
А яны паміж зорак луналі,
Бы счарнелыя маладзікі.

На далёкай на той вышыні,
Дзе ні гулу, ні гуку, ні кулі,
Птушкі сховішча ў небе знайшлі,
На ляту птушкі ў небе заснулі.

Сон такі незвычайны — крыло
На струмені маўклівым, як вечнасць.
І паветра іх пругка нясло
Як далей ад бяды чалавечай.

Да людзей горад новы прыйшоў.
Толькі дзесьці высока ў блакіце
Спяць стрыжы… Не будзіце стрыжоў,
Душ адвеяных не разбудзіце.





*Алена Папова нарадзілася ў Сілезіі. З ранняга дзяцінства жыве ў Мінску. Драматург, празаік, аўтар дваццаці пяці п'ес, семнаццаць з якіх пастаўлены ў тэатрах розных краін. П'есы перакладзены на беларускую, англійскую, нямецкую, японскую мовы. Адна з іх («Пестуны лёсу») — пераможца Першага еўрапейскага конкурсу п'ес у Германіі. Лаўрэат прэміі імя Кандрата Крапівы. Аўтар зборніка раманаў «Узыходжанне Зенты».*

Алена ПАПОВА

# БЛІНДАЖ

**Рамантычная драма ў дзвюх дзеях**

**Дзеючыя асобы**:

**Марына**
**Паша**
**Лейтэнант Прохараў**
**Сяржант**
**Радыст**
**Палкоўнік**

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Лясная палянка. З'яўляецца Паша, цягне за сабою парашут, складвае яго.

**Голас Марыны.** Гэй! Гэй! Хто там? Ёсць там хто-небудзь?
**Паша.** Я...
**Голас Марыны.** Хто?
**Паша.** Я, я!..
**Голас Марыны.** Паша, ты?
**Паша.** Я!
**Голас Марыны.** Дапамажы! Я заблыталася!

Паша ідзе на пошукі Марыны.

Ды тут я! Тут! Хіба не бачыш?
**Голас Пашы.** Скачы!
**Голас Марыны.** Я баюся!
**Голас Пашы.** Скачы! Я злаўлю!
**Голас Марыны.** Ага...
**Голас Пашы.** Скачы!

Шум падзення.

**Голас Марыны.** А-а-а! Нага, блін!

Выходзяць Паша і Марына. Марына кульгае, абапіраецца на Пашу.

**Марына.** Лепш бы я сама!
**Паша.** Сама б ты да вечара вісела. Як шышка на елцы.
**Марына.** Ну, прама!
**Паша.** Вось і прама.

Марына ўсаджваецца на ўзгорак, Паша аглядае яе нагу.

**М а р ы н а.** Асцярожней! Балюча! Ды балюча, блін!
**П а ш а.** А тут?
**М а р ы н а.** І тут!
**П а ш а.** Вывіху няма.
**М а р ы н а.** Адкуль ты ведаеш?
**П а ш а.** Ведаю. У мяне цётка ўрач.
**М а р ы н а.** Дык гэта ж цётка!
**П а ш а.** А ў мяне генетыка. Між іншым, пераломy таксама.
**М а р ы н а.** Што ж тады ёсць?
**П а ш а.** Выцялася, расцяжэнне звязак...
**М а р ы н а.** Мне ўсё роўна, як гэта называецца — я ступіць не магу!
**П а ш а.** Трэба парашут дастаць.
**М а р ы н а.** Паспееш!
**П а ш а.** Матэрыяльная каштоўнасць, Газееў нам шыю зверне.
**М а р ы н а.** Я на нагу ступіць не магу! Мая нага, блін, не матэрыяльная каштоўнасць? *(Пасля паўзы.)* Усё роўна здорава! Я — скочыла!
**П а ш а.** З дрэва.
**М а р ы н а.** З самалёта! Скочыла! А ты казаў — не скочыш! І Газееў мяне ў спіну не штурхаў! Я — сама! Скочыла! Здорава! *(Дастае з нагруднай кішэні курткі цыгарэты, закурвае.)* Пакурым? Пакамечыліся, але карыстацца можна. *(Зацягваецца цыгарэтай, расслаблена.)* Прыкольна! Не, гэта нешта.
**П а ш а** *(заклапочана).* Што — нешта?
**М а р ы н а**. З самалёта скакаць — нешта.
**П а ш а**. Ага, з самалёта — нешта. Парашут трэба скласці.
**М а р ы н а**. Пакуль не раскрыўся, дык было страшна! Думала — усё, прапала маё маладое жыццё! А потым здорава. Проста супер!
**П а ш а**. Я казаў...
**М а р ы н а**. Лепш раз пабачыць, чым сто разоў пачуць. Галоўнае — я сама скочыла, зразумела? Сама! Усё жыццё — палахліўка-палахліўка, палахліўка-палахліўка! Цемры баіцца, экзамены здаваць баіцца! Галка казала — не скочыш, ты казаў — не скочыш! А гэта — унушэнне. Унушалі, унушалі — дуля вам! І Газееў мяне ў спіну не штурхаў! *(Пасля паўзы.)* Слухай, дзе мы?
**П а ш а**. Не бачыш? У лесе.
**М а р ы н а**. На карце ніякага лесу не было. Я глядзела. Палеткі, палеткі... Лясок нейкі заваляшчы, не лес, а плач. Тры палкі і тыя пагнутыя. Рэчка была. Ну, думала, яшчэ ў рэчку звалюся!
**П а ш а**. Нас ветрам знесла.
**М а р ы н а**. Вецер быў... Наскрозь прадзьмула. Дзякуй Богу, што не ў рэчку. Тады б і прадзьмула, і прамачыла. Запаленне лёгкіх на сто працэнтаў. Дык яшчэ паспрабуй выплыві. Я плаваю, як сякера. Я вады баюся!
**П а ш а**. Ісці можаш?
**М а р ы н а** *(спрабуе абаперціся на нагу).* Балюча...
**П а ш а**. Парашуты складзем, будзем адсюль выбірацца. *(Хоча пайсці.)*
**М а р ы н а** *(хапаецца за яго).* Не, ты мяне тут адну не пакідай!
**П а ш а**. Дзяўчынцы ў лесе страшна.
**М а р ы н а**. Страшна не страшна — не надта мне тут падабаецца.
**П а ш а.** Парашуты ж трэба скласці.
**М а р ы н а.** Якія парашуты! Я ісці не магу! Парашуты не размокнуць. *(Пасля паўзы.)* Не падабаецца мне тут. Не ведаю, чаму... Не падабаецца і ўсё. *(Паднялася, спрабуе ісці.)* Ты мяне лепш не падтрымлівай, я сама буду абапірацца... Вось... Так яшчэ нічога... Калі на нагу моцна не наступаць, нічога...

**П а ш а.** Прызямляцца трэба па інструкцыі.

**М а р ы н а.** Не зануднічай.

**П а ш а.** Людзі ведалі, калі пісалі.

**М а р ы н а.** Ага, там дрэвы! Целяпаюся, як груша.

**П а ш а.** Як шышка на елцы.

**М а р ы н а.** Я сказала, не падтрымлівай, я сама! Мне лепш ведаць, як мне лепей!

Прайшлі трошкі.

Усё роўна здарава! Як успомню — клас!

**П а ш а.** Я табе казаў — адрэналін.

**М а р ы н а.** У мяне да гэтага часу адрэналін. Вось так жывеш-жывеш, наўкол адны сцены, каменны мяшок! Усе штурхаюцца, штурхаюцца за месца пад сонцам! А тут табе — неба, вецер, ляціш, як птушка! Вой, асцярожней!

**П а ш а.** Лунаеш, а не ляціш. Птушкі ўсё-ткі працуюць, крыламі махаюць.

**М а р ы н а.** Ну, лунаеш, ну, як птушка. Здарава! *(Крычыць.)* Э-э-эй! Э-э-эгэй!

**П а ш а.** Чаго ты крычыш?

**М а р ы н а.** У лесе толькі і пакрычаць. Э-эй! Куды ты мяне зацягнуў?

**П а ш а.** Узгорак. Зараз вырашым, у які бок ісці.

**М а р ы н а.** Вырашай хутчэй! Вечар хутка, нага зусім разбалелася. Вось-вось увесь твой адрэналін выветрыцца. Э-эй! Дзіўнае ўсё-такі месца...

**П а ш а.** Месца як месца. Лес.

**М а р ы н а.** Як быццам на нас нехта глядзіць... Э-эй... *(Але голас ужо не павышае.)*

**П а ш а.** Хто на нас тут можа глядзець? Зайцы?

**М а р ы н а.** Сам ты заяц! Я адчуваю... Я, ведаеш, вельмі адчувальная. Вось пабачу каго-небудзь у сне — на другі дзень абавязкова сустрэну. *(Пасля паўзы.)* І на карце гэтага лесу не было...

**П а ш а.** Я табе сказаў — вецер. Нас знёс вецер!

**М а р ы н а.** Хто казаў, што Газееў супер? Супер усё павінен улічыць. І вецер таксама. Улічыць і папярэдзіць. Ён нас папярэдзіў? Не падабаецца мне тут.

**П а ш а.** Эй, не завісай!

**М а р ы н а.** Мяне тут проста глючыць! *(Пасля паўзы.)* Гэта не ўзгорак, гэта балота нейкае! Блін, нага правальваецца... Я правальваюся! Паша, трымай мяне! Трымай!

Разбураны, стары бліндаж. Па кутках павуціння, запусценне. Старшы лейтэнант Прохараў заклапочана гартае блакнот, ва ўсёй яго постаці надзвычайнае напружанне. Сяржант, наадварот, спакойна і неяк па-хатняму зашывае гімнасцёрку. Каля рацыі — радыст. Марына і Паша правальваюцца ў бліндаж праз дах, усе трое азіраюцца, моўчкі і дапытліва на іх глядзяць. Радыст зноў паварочваецца да рацыі.

**Р а д ы с т.** Дняпро! Дняпро! Я — Дзвіна!

**М а р ы н а** *(падлізліва).* Прывітанне, хлопцы! У вас вучэнні, так? Мы ж не ведалі. Нас ніхто не папярэдзіў. Мы з парашутамі... Спартыўны клуб «Крылы»...

**П р о х а р а ў.** Няўжо падмога?

**М а р ы н а.** Мы тут ні пры чым. Спартыўны клуб «Крылы». Мы — аматары. *(Да Пашы.)* Чаго ж ты маўчыш? У нас галоўны — Газееў. Не чулі? Заслужаны майстар спорту, чэмпіён! Няўжо не чулі? Вядомы чалавек! У яго джып, чорны, апошняй мадэлі.

**П р о х а р а ў** *(з адчаем).* Нам падмога патрэбна! Сувязі няма! Хлопцы палеглі!

**Р а д ы с т.** Дняпро! Дняпро! Я — Дзвіна!

**П р о х а р а ў.** Нам толькі гэтую праклятую вышыню ўтрымаць!

**М а р ы н а.** Ведаеш, жартуй-жартуй, ды не надта! Мы — аматары! Спартыўны клуб «Крылы». *(Да Пашы.)* Чаго ж ты маўчыш? У мяне нага баліць! У мяне — траўма, блін! Калі з намі ці з парашутамі што-небудзь здарыцца, Газееў з вас шкуру спусціць! Ды і няма тут ніякай вышыні! Лес! Калі вы лічыце вышынёй мурашыную кучу, пад якой седзіце, — прыгожа жыць не забароніш!

**П р о х а р а ў.** Лес, кажаш?

**М а р ы н а.** Лес, лес!

**П р о х а р а ў** *(задумліва).* Вядома, ландшафт мяняецца... *(Фіксуе нешта ў блакноце.)* Гэта мы ўлічым.

**М а р ы н а.** Нага зусім разбалелася! У мяне — траўма!

**П р о х а р а ў.** Сяржант, перавяжы параненую.

**С я р ж а н т.** Дай-ка пагляджу... Вышэй калашыну паднімі, яшчэ вышэй... Так... *(Пасля паўзы.)* Нага!

**М а р ы н а.** Што — нага?

**С я р ж а н т.** На-га!

Усе глядзяць, нават радыст на хвіліну адарваўся ад сваёй рацыі.

Раненне не агнястрэльнае, не асколачнае.

**М а р ы н а.** Яшчэ не хапала!

**С я р ж а н т.** Вывіху няма, пералому таксама. *(Пасля паўзы.)* На-га!

**М а р ы н а.** Што — нага?

**С я р ж а н т.** Нага прыгожая!

**М а р ы н а.** Дапусцім, гэта я і без цябе ведаю. Ты з мяне не здзекуйся, альбо перавязвай, альбо ідзі куды падалей!

**С я р ж а н т.** Зараз перавяжу... Няма куды спяшацца... *(Любуецца, потым дастае ёд, бінт, пачынае перавязваць.)*

**М а р ы н а.** Вой, ёдам не трэба!

**С я р ж а н т.** Як жа без ёду? Без ёду ніяк нельга. Ёд на вайне — галоўнае лякарства.

**М а р ы н а.** Балюча, блін!

**С я р ж а н т.** А ты пацярпі. З такою нагою трэба ласкава размаўляць, пяшчотна, а ты лаешся.

**М а р ы н а.** Як хачу, так і размаўляю. *(Дастае цыгарэты, закурвае.)*

**П р о х а р а ў** *(заклапочана).* Каламіец жа ўсё не вяртаецца...

**М а р ы н а.** Хто такі Каламіец?

**С я р ж а н т.** Сяржант Каламіец... сувязь пайшоў рамантаваць... і за падмогай.

**М а р ы н а**. І даўно пайшоў?

**С я р ж а н т**. Даўнавата.

**М а р ы н а** *(пасля паўзы).* Я піць хачу... У вас тут вадзіцы не знойдзецца? *(Бярэ чайнік — страшны, іржавы, увесь у павуцінні, са скрыгатам адвальваецца ручка.)*

**П р о х а р а ў.** Ручай унізе, толькі асцярожней... Калі што — адразу назад. Я буду прыкрываць.

**М а р ы н а** *(пасля паўзы).* Складана ўсё гэта. Лепш абыдуся.

**С я р ж а н т** *(працягвае ёй біклагу).* Вось, трошкі засталося. Якраз тры глыткі. *(Марына п'е.)* Паспаў бы, лейтэнант... Відаць, і галава баліць...

**П р о х а р а ў.** Нічога... *(Страсянуў галавой.)* Каламіец вернецца, падмогу прывядзе, вышыню адстаім — тады і пасплю.

**С я р ж а н т.** А я падрамлю трошкі. Для салдата сон — лепшы сябра.

**М а р ы н а.** Паша, ты ўрубаешся?

**П а ш а.** Пакуль не зусім...

**М а р ы н а.** І я не зусім... Нешта надта ўжо глючыць. А цябе?

**П а ш а.** І мяне...

**М а р ы н а.** У кожнага — свой глюк. На дваіх адзін глюк не бывае. *(Пасля паўзы.)* І колькі вы ўжо вось так... чакаеце гэтую самую «падмогу»?

**П р о х а р а ў** *(уздыхнуў).* Сама памяркуй... Кажаш, лес наўкол?

**М а р ы н а.** Лес, лес!

**П р о х а р а ў.** Раней не было. Вось з таго часу і чакаем.

**М а р ы н а.** Паша, ушчыпні мяне! Не гэтак жа моцна, я сказала — ушчыпні, а ён ледзь руку не адарваў. Глючыць не глючыць, галаву не губляй. Цыгарэты ёсць? Мае ўсё-ткі пакамечыліся.

**П а ш а.** Ёсць...

**М а р ы н а.** Давай! *(Закурвае. Пачынае ў сваю чаргу тармасіць Пашу.)* І не завісай, тормаз! Ты завіснеш, я завісну, а яны ўжо сто гадоў як завіслі!

**П р о х а р а ў** *(мерае бліндаж шырокімі крокамі, то ў адзін бок, то ў другі).* У мяне — загад. Вышыню адстаяць. У мяне — загад!

**С я р ж а н т.** Паспаў бы, лейтэнант. Я хоць спаць магу. А ён усё ходзіць і ходзіць, спакою яму няма.

**П р о х а р а ў.** Які тут спакой! Колькі хлопцаў палегла, колькі палегла!

**С я р ж а н т.** Ты ж не вінаваты, што падмога не прыйшла.

**М а р ы н а.** Вядома, не вінаваты. Генерал там які-небудзь вінаваты. Ужо хто вінаваты, дык гэта які-небудзь генерал. Я ведаю! А вам тут адказвай!

**П р о х а р а ў.** Маскіроўка кепская, не прасачыў... Страляць! Страляць пачалі раней! Блізка не падпусцілі! Патроны дарэмна пайшлі, дарэмна пайшлі — раней скончыліся! Якушкін, Савін, Сеўчанка, Башкавіты... Якія хлопцы! *(Стогне, хапаецца за галаву.)* А, якія хлопцы! Усе палеглі! Усе! *(Пасля паўзы.)* Як там сувязь?

**Р а д ы с т.** Няма сувязі. Дняпро! Дняпро! Я — Дзвіна!

**М а р ы н а**. Ды супакойся ты, сапраўды! Паглядзі па-філасофску. Калі падумаць, няма на свеце рэчаў, з-за якіх варта гэтак ужо калаціцца. Колькі табе гадоў?

**П р о х а р а ў.** Дзевятнаццаць...

**М а р ы н а.** Ды ты што?! Мне — дваццаць два. Яму... (*ківае на Пашу)* таксама. Ты ж яшчэ маленькі!

**С я р ж а н т.** Гэта ты дарэмна штосьці кажаш. Лейтэнант не ў адным баі пабываў. Вунь, кантужаны.

**М а р ы н а.** Ты на самой справе кантужаны?

**П р о х а р а ў.** Было трошкі... *(Па звычцы страсянуў галавой.)*

**М а р ы н а.** У баі?

**С я р ж а н т.** Не на пагулянцы ж!

**М а р ы н а.** Страшна ў баі?

**П р о х а р а ў** *(пасля паўзы).* Страшна.

**С я р ж а н т.** У баі яно, безумоўна, страшна. Куля-дурніца не выбірае. Ну, а ўжо калі пойдзе артылерыя біць! Тут ужо трымайся, трымайся ды маліся Богу. Тут правілаў няма. І ў адну варонку снарад двойчы трапляе. *(Пасля паўзы.)* Было... Сяджу ў акопе, раптам на мяне нешта валіцца...

**П р о х а р а ў.** Ды хопіць табе, сяржант.

**С я р ж а н т.** У цябе свая стрэмка, у мяне — свая. Кожнаму — сваё, лейтэнант. Карацей, фрыц! Счапіліся мы з ім, качаемся... Твар яго зусім блізка. Стары, гадоў пад сорак, але ўпарты, д'ябал! Твар як твар, скрыўлены, перакошаны, канечне, ну

дык і ў мяне не лепей — барацьба ж ідзе не на жыццё, а на смерць. Я маладзейшы, мацнейшы, стаў адужваць. Злаўчыўся, выцягнуў з-за халявы нож... І...

**М а р ы н а.** Што «і»?

**С я р ж а н т.** Ён абмяк, твар зусім побач... Вочы адкрытыя, глядзіць на мяне спалохана, рукою чапляецца, як быццам дапамогі просіць... А позірк стаў адыходзіць, адыходзіць, пачаў цьмянець... І адышоў. Доўга я яго потым згадваў. Таксама ж — не курыца, чалавек! Хоць і курыцу, бывае, шкада. Дзеці ў яго недзе, унукі...

**М а р ы н а.** Гэта ўжо дакладна. У Германіі. Добра жывуць!

**С я р ж а н т.** Шмат у мяне такіх катавасій было, а вось гэтага запомніў. Як ён за мяне тады рукою... чапляўся...

**П р о х а р а ў** *(матнуў галавою, як быццам яго шыю цісне каўнер гімнасцёркі).* Хопіць табе, сяржант!

**С я р ж а н т** *(пасля паўзы).* Т-так...

Між тым Сяржант распорвае толькі што зашытую гімнасцёрку, а потым пачынае зашываць зноўку.

**М а р ы н а.** Навошта вы гэта робіце?

**С я р ж а н т.** Патрэбны які-небудзь занятак... Як служыламу чалавеку без занятку? Увязлі мы... Няўжо не зразумела? Вечнасць — гэта табе не жартачкі.

**М а р ы н а.** Як гэта... увязлі?

**С я р ж а н т.** А вось так. Снарад ляціць — песню спявае. Такую песню, што кроў у жылах згусае. Дай Бог, каб табе такое чуць не давялося. Адчайны я быў, а так і не прывык. Песню помню... А далей — кропка... Кропка — гэта табе не коска. Канец сказа. Ні выхаду, ні ўваходу. *(Пасля паўзы.)* Вядома, да ўсяго прывыкаеш... Хіба што выпіў бы іншы раз шкляначку-другую ды паеў у поўнае сваё задавальненне, сала кавалак, ды з мясам, ды бульбачкі смажанай са скваркамі... Некалькі сухароў — увесь наш правіянт... *(Пасля паўзы.)* І жанчынку б пад бок, гарачанькую такую, пульхненькую... Гэта я любіў... Жыццё, карацей. Ну нічога, я хоць спаць магу, а вось лейтэнант усё пакутуе. Хоць бы ты дапамагла!

**М а р ы н а.** Я? Як?

**С я р ж а н т.** Сама падумай. Я дык сёе-тое пабачыў, а ён? Пасля вучылішча, хлапчуком, на фронт... Успомніць няма чаго! *(Пасля паўзы.)* Хоць паразмаўляй! Адцягні ўвагу! Для чаго вы, дзяўчаты, дадзены? Для змякчэння душы салдата. Кожны мужык — салдат. *(Паглядзеў на Пашу.)* Калі, зразумела, мужык, а не тое-сёе, дзесятая вада на кісялі. Коля яго завуць. Мікалай Прохараў.

**П а ш а.** Гэта ў вас дзяўчаты былі для змякчэння, а ў нас... Нашы дзяўчаты самі каго хочаш на лапаткі паложаць. Ірвуцца ў бой!

**С я р ж а н т**. Не... Гэта не справа... Дзяўчына пяшчотнай павінна быць... Як сіненькая, сціплая хусцінка... Словы ж то якія, усяклі? Сіненькая, сціплая...

**П а ш а.** У нас цяпер такіх хусцінак... сіненькіх, сціплых... днём з агнём не знойдзеш! Вунь, цемры баіцца, а ледзь што, так адчытае — як мае быць.

**С я р ж а н т.** Не справа...

**М а р ы н а** *(да Пашы, сама — рукі ў бокі).* Не баюся я тваёй цемры! Засёк? Засячы! Болей не баюся! *(Падыходзіць, дакранаецца да пляча).* Коля... Коля... У цябе дзяўчына была?

**П р о х а р а ў** *(гартае блакнот).* Што?

**М а р ы н а.** Я пытаюся — дзяўчына ў цябе была?

**П р о х а р а ў.** Дзяўчына? Не...

**М а р ы н а.** Але ж табе падабаўся хто-небудзь? Не бывае, каб у дзевятнаццаць гадоў і ніхто не падабаўся.

**Прохараў.** Падабалася...

**Марына.** Гэта ўжо лепш, цяплей. Хто?

**Прохараў.** Урач у вучылішчы падабалася... Інеса Львоўна... Твару не помню, фігуру... Прыкметная была...

**Сяржант.** Так, фігура для жанчыны — першая справа! Каб — фігура! *(Уздыхнуў.)*

**Прохараў.** Сястрычка падабалася ў санцягніку, калі кантузіла... Фігуру не помню... Усмешка добрая, рукі мяккія, ласкавыя...

**Сяржант.** Так, усмешка для жанчыны — таксама першая справа. І рукі... *(Уздыхнуў.)*

**Марына.** Ты ёй пра гэта сказаў? Гэтай сястрычцы ў санцягніку. Ну, што яна табе падабаецца.

**Прохараў**. Не, не сказаў. Падабалася — і ўсё...

**Марына.** Дзяўчатам трэба казаць, калі яны падабаюцца. Словы! Словы казаць. Кампліменты. Параўнанні розныя. Ну ты разумееш... З кветкай... поўняй... зоркамі... Яны гэта любяць. Я ж сама дзяўчына! Ведаеш, гэта як дровы, якія падкідваюць у вогнішча. Тады агонь гарыць, разумееш? І ты дзяўчыне ў адказ таксама можаш спадабацца. Я ведаю. Ужо каму і ведаць, як не мне.

**Прохараў.** Цяпер буду ведаць.

**Марына.** Толькі нешта яны ў цябе ўсё па медыцынскай частцы...

**Сяржант**. Што ты хочаш? Вайна. У мяне таксама была санітарачка... Сама маленькая, што твой гузік, а адчайная. Столькі нашых перацягала... Так... І ласкавая была, гэта я вам скажу... Кахаўся я з ёю, кахаўся, сам і пахаваў...

**Прохараў.** Яшчэ адна падабалася... але яна да майго сябра прыходзіла. Яшчэ ў вучылішчы.

**Марына.** Прыгожая?

**Прохараў.** Прыгожая.

**Марына.** Ну, калі да сябра, тут ужо нічога не паробіш. Сябра — гэта сябра, святое. *(Пасля паўзы.)* А я? Я табе падабаюся?

**Сяржант** *(пахвальна)*. Добрая дзяўчына. Нага прыгожая.

**Прохараў.** Я люблю, калі дзяўчына ў сукенцы.

**Марына.** Я ж па-паходнаму. А так я сукенкі нашу. Дома ў мяне поўна сукенак! Цэлая шафа сукенак!

**Прохараў.** Я не люблю, калі дзяўчына курыць.

**Марына.** Ці не занадта многа ўмоў? *(Пасля паўзы.)* Гэта я забаўляюся, гэта не ўсур'ёз. *(Гасіць цыгарэту.)*

**Прохараў.** Болей не куры.

**Марына.** Болей не буду. Усё. Болей не куру.

**Прохараў** *(з цікавасцю разглядвае Марыну).* У цябе вочы прыгожыя... І вусны... І фігура...

**Марына.** Добра... Добра... Цяплей... Як у Інесы Львоўны ці як у медсястрычкі ў цягніку?

**Прохараў.** Як у цябе...

**Марына.** Значыцца, падыходжу?

**Прохараў.** Падыходзіш...

**Марына.** Толькі ў сукенцы і без цыгарэт?

**Прохараў**. Гэта добра б.

**Марына**. А хочаш, я цябе пацалую?

**Прохараў** *(пасля паўзы, ціха).* Хачу...

**Марына**. Цябе дзяўчаты калі-небудзь цалавалі?

**П р о х а р а ў** *(пасля паўзы, ціха).* Не...

Марына цалуе яго, Сяржант далікатна адварочваецца.

**М а р ы н а.** Ну як? Спадабалася?
**П р о х а р а ў.** Спадабалася. *(Пасля паўзы.)* Ты мне пісаць будзеш?
**М а р ы н а.** Буду. А адрас у цябе ёсць?
**П р о х а р а ў.** Ёсць адрас. Як ва ўсіх. Палявая пошта...
**М а р ы н а.** Буду пісаць. Слухай, навошта ж ты ў вайскоўцы пайшоў? Колькі на свеце прафесій! Інжынеры, матэматыкі... І не было б усяго гэтага... Палявой пошты!
**П р о х а р а ў.** Я ў дванаццаць гадоў вырашыў. Калі вайна ў Іспаніі пачалася, гідра фашысцкая са свайго логава вылезла. Герніка. Над усёй Іспаніяй бязвоблачнае неба. Я адразу вырашыў.
**М а р ы н а.** У дванаццаць гадоў і на ўсё жыццё?
**П р о х а р а ў.** У дванаццаць гадоў і на ўсё жыццё. Калі не я, дык хто? Што ж мне адседжвацца?
**М а р ы н а** *(пасля паўзы).* Я напішу...
**П р о х а р а ў.** А фотаздымак у цябе ёсць? Я хацеў бы. Я заўжды хацеў, каб у мяне быў фотаздымак... дзяўчыны...
**М а р ы н а.** Адкуль у мяне тут фотаздымак? Хаця пачакай... *(Дастала пасведчанне і вырвала з яго фотаздымак.)* Трымай. Спартыўны клуб «Крылы».
**П р о х а р а ў** *(глядзіць на фотаздымак).* Ты — прыгожая.
**М а р ы н а.** Дзякуй, ацаніў.
**П р о х а р а ў.** Мне падабаецца.
**П а ш а.** Толькі мне гэта ўсё не падабаецца. Таму што мне яна таксама падабаецца!
**М а р ы н а.** Чаго ж ты раней не казаў? Толькі бурчаў і прыдзіраўся!
**П а ш а.** Казаў! І пра зоркі, і пра поўню.
**М а р ы н а.** Але, колькі да іх ляцець і як яны арганізаваны.
**П а ш а.** Пра кветкі, праўда, не казаў.
**М а р ы н а.** Ты грошы ў Макдональдсе лічыў, каб менш заплаціць. Так што скачы не скачы на сваім па-ра-шу-ці-ку, як быў занудам, так і застанешся.
**С я р ж а н т.** Не перашкаджай салдату, цывільная курыца! У цябе гэтых дзяўчат яшчэ будзе не пералічыць, а ў яго — рэдкі выпадак. *(Бярэ Пашу за каўнер і адцягвае ўбок, захінае сабою.)*
**П а ш а** *(супраціўляецца, выкрыквае з-за пляча Сяржанта).* Ну дык што? Яна мне даўно падабаецца. І сукенак яна не носіць, хлусіць. І курыць, як паравоз. І піва ведаеш як жлукціць! Вось такая яна мне і падабаецца. У нас іншых няма. Гэта мая дзяўчына!
**М а р ы н а.** Ніякая я не твая. Я свая ўласная!
**П р о х а р а ў.** Ты яго дзяўчына?
**М а р ы н а.** Не, не!
**П р о х а р а ў.** Дзіўна неяк... Мне ад цябе нічога не трэба. Проста я буду пра цябе думаць.
**М а р ы н а.** Думай пра мяне!
**П р о х а р а ў** *(вяртаецца на сваю хвалю).* Сяржант можа спаць, сны бачыць... А я буду пра цябе думаць.
**С я р ж а н т.** Я і кажу: дзяўчына для салдата — адпачынак для душы. Я дык сны бачу. Чаго толькі не пабачыў у сне — і сваё жыццё, і чужое... Увесь зямны шарык...

У руках у Сяржанта з’яўляецца святлівы глобус, які круціцца.

А на ім натоўпы народаў... Якіх толькі няма — белых, жоўтых, чорных, карычневых... Дзяўчаты, вось як ты, усе размаляваныя, як лялькі, валасы featureрознакаляровыя, кураць, вочы ап’янелыя, вар’яцкія... Заместа музыкі грукат, шум, ляскат... І ўсе скачуць, скачуць... крычаць... Вобраз і падабенства чалавечае губляюць.

**М а р ы н а.** Гэта ён, напэўна, дыскатэку бачыў у сне...

**С я р ж а н т.** А снарады дык усё роўна пяюць, пяюць...

**М а р ы н а.** Калі і пяюць, дык далёка. На нас не падаюць. Не наша гэта вайна.

**С я р ж а н т.** Не нашай вайны, мілая, не бывае. Калі ёсць вайна, значыцца, вайна. Ад вайны дух ідзе... Людзей мяняе. Людзі вайной дыхаюць. Усюды, дзе болей за трох — вайна. Хто слабы, а хто дужы. Хто над кім уладу возьме. Вайна ў самім чалавеку... Паміж яго дрэнным і яго добрым. Пераможа дрэннае — жыццю канец.

Глобус пагас, Сяржант прыкрыў яго краем старой гімнасцёркі.

**П р о х а р а ў.** Ёсць сувязь?

**Р а д ы с т.** Сувязі няма. Дняпро! Дняпро! Я — Дзвіна!

**М а р ы н а.** Адзін спіць, другі не спіць, а гэты? *(Ківае на радыста.)*

**С я р ж а н т.** У яго свая мэта — на сувязь выйсці. Іншых думак няма. Праграма такая. Зацыклены. Яму прасцей за усіх...

**П а ш а** *(цягне Марыну ўбок, шэптам).* Трэба адсюль выбірацца...

**М а р ы н а**. Хто супраць? А іх што? Так і кінем?

**П а ш а.** Ты што, не разумееш? Тут нейкае замыканне... Час, прастора... Думаеш, усё вывучана? Ведаеш, на самой справе колькі ім гадоў? Калі элементарна прыкінуць? Тры глыбокія старыя! Яны ж на вачах разваляцца. Як фрэскі з пячоры, як муміі з мерзлаты.

**М а р ы н а.** І Прохараў?

**П а ш а.** Восемдзесят будзе твайму Прохараву! А гэтым яшчэ болей. Сяржанту і таму, з рацыяй, — за дзевяноста. Сама падумай: каму яны патрэбныя? Ёсць у іх дакументы? Якія ў іх дакументы? Пацяруха! Без дакументаў цяпер нікуды. Колькі хочаш кажы, што я занудa, а без дакументаў — нікуды, поўны абзац. Пакуль усе паперкі збяруць... Пакуль збяруць! Ім жа трэба пенсіі выплочваць, кватэры даваць! Хто ім дасць кватэры? Сваякі павыміралі, а ўсялякія там «пра-пра-пра» толькі і мараць з такімі старэчамі важдацца! Добры дзень, я вашая цётка! Ім зубы ўстаўляць не будзе за што!

**М а р ы н а** *(у жаху).* Зубы?

**П а ш а.** Зубы! Тут яны — такія, а там будуць зморшчаныя і без зубоў. У бамжы і пойдуць.

**М а р ы н а.** Як гэта... у бамжы?

**П а ш а.** Вось так. Па мне, дык лепш у вечнасці матляцца, чым у бамжы! Усёткі героі.

**М а р ы н а.** Канечне, героі.

**П а ш а**. Ды і няма іх у жывых! Няма! Іх — няма. Чула, што сяржант сказаў? Ён снарад чуў. А потым кропка. *(Пасля паўзы.)* Мёртвыя яны.

**М а р ы н а**. Якія ж мёртвыя, калі — вось.

**П а ш а**. Я і кажу — замыканне.

**С я р ж а н т** *(зашывае гімнасцёрку).* Правільна мысліш, хлопец. Я толькі з выгляду такі прасцяк, а на самой справе шмат чаго пабачыў у сне, усе вашы універсітэты прайшоў. А галоўныя універсітэты — на ўласнай шкуры. Думаеце, Час — ён як рака, ад мінулага да будучыні? Першабытнае мысленне. І ўсе вы яшчэ

«Дэвушка ілі дамачка» вядзе за руку малое гадоў трох. Яго і сапраўды не пазнаеш адразу, хто яно: «малчык» ці «дэвачка». Спякота — і малое ў лёгенькай маечцы і трусіках. Светлыя кольцы валасоў уюцца на кволай шыйцы. Маладой маме ці сястры не абыякава чарнавусае, белазубае захапленне з вышыні. У адказ Ахмет атрымлівае гарэзлівы позірк, сінейшы за спякотнае неба ў яго на радзіме. Ахмета гэта сінеча падхоплівае і ўзрывае, быццам дынамітам.

— Цэ-цэ-цэ! — цокае Ахмет, гатовы вось-вось зваліцца пад ногі прыгажуні. — Как завут, скажы! — крычыць ён ёй наўздагон.

Абцасікі святкуюць перамогу ўласнай жаночай зброі.

Малое доўга азіраецца на Ахмета, што асядлаў раскаленую, як патэльня, агароджу і ніяк не можа пазбавіцца хімічных чараў.

Ах, Ахмет, Ахмет, зацьменне табе на галаву наслалі гэтыя чары. Але няхай — не такі дакучлівы будзе гэты твой сённяшні пазачарговы нарад.

Мяне Ахмет, вядома, не бачыць. «І мая мама гэтакая ж сівая, як гэта жанчына...» — на адзін толькі момант спатыкаецца яго позірк, і ён тут жа забывае пра нас абедзвюх.

* * *

Вось ён, вось ён, той самы дом насупраць, цераз дарогу! Той самы, дзе ўвосень сорак трэцяга года я аблюбавала сабе пакой на пятым паверсе. Пасля зямлянак, у якіх мы жылі амаль два гады ў Тоцкіх лагерах, нам з маёй таварышкаю Фірай Ройф хацелася вышыні, і мы выбралі сабе пяты паверх. Жонкі лейтэнантаў Вяткіна і Данадаева пасварыліся і ледзь не пабіліся за другі паверх (абедзве былі помначальніцамі штаба), а нас з Фіркай здавальняў пяты.

Усё было вельмі проста. Сярод развалін пакінутай немцамі Пампеі цудам уцалела некалькі каробак. Каробкі стаялі пустыя: можна было выбіраць любы пакой, любую кватэру, хоць цэлы паверх. Праўда, папярэдне неабходна было замураваць разбураную сцяну, ліквідаваць «прамое трапленне» ў столь і падлогу, паставіць дзверы і вокны, адрамантаваць паравое ацяпленне і водаправод... Але мы, маладыя, стараліся на гэта не звяртаць увагі і не думаць пра гэта. Самае галоўнае, здавалася нам, выбраць.

Мы з Фіркай не былі сквапныя. Я згадзілася на пакой, яе задавальняла два. Фіра мелася адразу ж, як толькі засяліцца ў сваю кватэру, паслаць выклік і перацягнуць да сябе з Бугульмы дзядзьку Ізю з цёткай Маняй і сясцёр, Софачку і Адачку, і таксама яшчэ сірату стрыечнага брата Рафіка... Фіры, канечне, патрэбны былі два пакоі. А ў мяне не было нікога.

Лейтэнант Бекетаў — камроты першага вучэбнага батальёна — добраахвотна браўся заняцца маім маючым быць інтэр’ерам і адначасова даваў мне свецкія парады. (Пра Бекетава казалі, што ён не вельмі далёкі сваяк Аляксандра Блока. Бекетаў не адмаўляўся ад гэтага сваяцтва, ён і не настойваў на ім, ён толькі дэкламаваў, калі ў яго пыталіся пра гэта, асабліва дзяўчаты: «Я послал тебе черную розу в бокале золотого, как небо, аи...»)

— Вось тут... — лёгкі, ледзь улоўны рух наска фарсовага наглянцаванага бота. — Вось тут, каля гэтай, сёння не існуючай сцяны... Анечка, заклінаю вас, стойце на месцы, мы ж усё-такі на пятым паверсе! Тут, Анечка, вы павінны будзеце паставіць се-крэ-тэр. (Я не вельмі дакладна ўяўляла сабе прызначэнне секрэтэра ў сваім пакоі.) Каб пісаць за ім пісьмы. (Лёгкая спружыністая праходка па самым краі прабоіны ў падлозе, наскрозь, да ніжняга паверха...) Перш за ўсё, вядома, прадмету

вашага захаплення. Ну, і, вядома... (Выпрабавальны стук зацягнутаю ў скураную пальчатку рукой па бакавой сцяне: ці надзейная.) Ну, і, вядома, хаваць ад яго тыя пісьмы, якія чытаць яму будзе зусім не абавязкова...

На лейтэнанце Бекетаве шынель з тонкага «генеральскага» сукна попельнага колеру. Дасканала падагнаныя ваенторгаўскімі краўцамі грудзіна і плечы надаюць яго ладнай паставе нейкі своеасаблівы афіцэрскі шык: ззяюць гузікі, ззяе новенькая партупея, ззяюць залатыя пагоны. (У Аляксандра Блока таксама ёсць здымак у пагонах.)

— Ідзём далей. Вашу сафу, Анечка, мы паставім вось тут. Так будзе інтымней... Не трэба толькі стракатых дываноў! Сціплы арнамент і стрыманая гама колераў. На падлогу дыван таксама, толькі...

— Віця!

— Прашу вас, не перабівайце мяне, калі ласка! Звярніце ўвагу, якім дысанансам гучаць гэтыя банальныя шпалеры таннага блакітнага колеру... Я думаю, што замест іх мы прыдумаем нешта іншае... Праўда, такога мілага сціплага паркалю, як, скажам, у Алупкінскім палацы графа Варанцова, мы не знойдзем, бадай... Графу Варанцову ён быў прысланы, калі я не памыляюся, з Англіі. У нас, на жаль, не будзе такой магчымасці...

— Віцька, што ты вярзеш! — Фіра Ройф стаіць каля самае надзейнае мае сцяны. Яна баіцца скрануцца з месца.

— Эсфір! Прыгажэйшая і мудрэйшая з дачок свайго мудрага племя! Як ты звяртаешся да чырвонага камандзіра... Да афіцэра Савецкай Арміі?!

— Віцька, хопіць тлуміць ёй галаву... Ты ж бачыш, што яна ўсё роўна як лунатык, як учадзелая... Ты хлусіш ёй, а яна верыць...

— І зусім не веру! Проста я хачу...

— Яна хоча!.. А ты ведаеш, што ўчора сказаў Ткачэнка?

Ткачэнка — начальнік адміністрацыйна-гаспадарчай часткі — учора сказаў, што ўсе разбураныя немцамі дамы, якія можна яшчэ выратаваць, будаўнічы ўзвод будзе адбудоўваць для вызваленага насельніцтва горада. І катэгарычна забараніў лазіць па каробках (нехта ж данёс!) каму б там ні было! Афіцэры з сем’ямі і вольнанаёмныя будуць жыць на прыватных кватэрах.

— Што такое Ткачэнка з пункта погляду гісторыі? — пытаецца Бекетаў і сам адказвае: — Выпадковасць. Каліф на гадзіну...

Але ўсё ўжо разбурана, і ўжо нічога не трэба. Не трэба се-крэ-тэ-ра. Не трэба сафы, не трэба дываноў і англійскага паркалю абіваць сцены.

Ах, якую мару разбіла ў дрызачкі ўлада начальніка АГЧ Ткачэнкі!.. Яна і сёння цешыць мяне, тая восеньская мара сорак трэцяга года. Невыпадкова ж перайшла я вуліцу і стаю пад чужымі вокнамі, задраўшы галаву, пэўна, ужо добрых дзесяць хвілін. Людзі здзіўлена абыходзяць мяне і азіраюцца: стаіць...

* * *

Мары з блакітнымі шпалерамі абрэзалі крылы, а мяне з маім клуначкам пасялілі на глухой, зарослай травою Садовай вуліцы. Вясной Садовая патанала ў ружовай яблыневай квецені, а ўвосень прыгіналася ад садавіны.

Пайду на спатканне з Садовай вуліцай.

...Але адкуль тут узялася трамвайная пятля? Некалі да бібліятэкі Караленкі я хадзіла штодня чатыры кіламетры пехатою, а цяпер трамвай № 4, № 13, № 22... Напэўна, цяпер пехатою ўжо ніхто не ходзіць, усе толькі ездзяць.

І трохпавярховы універмаг блытае мой кірунак: так ці не так я іду?.. Вышчарблены тратуар па другі бок нібыта супакойвае: «Так ідзеш...» Але ж дзе тады пустка, якую неабходна было мне мінаць некалі абавязкова? На гэтай пустцы мяне заўсёды страчала гарластая гурма хлапчукоў-абарванцаў, якія пасвілі там коз. Усё гэта была безбацькоўшчына, круглыя сіроты, а то і зусім шпана з усяе Халоднае Гары. Арэнай сваёй дзейнасці яны выбралі менавіта гэты пусты, як бубен, голы выган, па якім хадзілі козы. І чаго толькі яны не выраблялі на тым выгане! Рэзаліся ў ачко і ў арлянку, гандлявалі і мяняліся накрадзеным. Смалілі пякельную махру. На чым свет стаіць лаяліся і біліся — і, вядома ж, ніводнаму чалавеку не давалі праходу. Асабліва жанчынам і дзяўчатам. Пасля акупацыі ў гэтым горадзе, і праўда, аціхла нямала «нямецкіх аўчарак», і вось цяпер, з-за іх, гэты казіны выган помсціў кожнай маладой жанчыне, кожнай дзяўчыне. І барані божа было прыспешыць крок ці абазвацца...

Мне гэту пакуту даводзілася цярпець штодня. Раніцай яшчэ было нічога. Раніцай я бегла к шасці гадзінам, каб прыняць па радыё зводку Савецкага Інфармбюро і тут жа перадаць яе на ранішняй паверцы ў падраздзяленні салдатам. Вечарам жа, калі вярталася з работы дадому, мяне чакала Галгофа. Услед мне агідна ўлюлюкаў, здавалася, увесь выган.

Трэба было нешта рабіць. Пазабіваць іх усіх!.. Але гэта быў адчай толькі бездапаможнага чалавека. (Яны наперад сто разоў бы забілі мяне самую.) Некаму некуды на іх заявіць — у міліцыю ці куды, але каго яны баяліся і хто б здолеў іх напалохаць?

Як звычайна, памог выпадак.

Я ішла дадому, калоцячыся ад страху, і несла пад пахай пачак тых кніжачак ваеннага часу, якія пісаліся для акопаў і лесу, для салдат і партызан, хто бараніў Радзіму жыццём і крывёю. Крывёю сэрца пісаліся і тыя кніжачкі.

Як і кожны дзень, яны заступілі мне дарогу...

— Гэй, ты, ты доўга будзеш яшчэ тут шляцца?

Ён заўсёды чапляўся першы, гэты худы абарванец, аскалены, як ваўчанё.

— Ану, паўтары! Паўтары яшчэ адзін толькі раз! — сама не памятаючы сябе (што я магла ім зрабіць?), як укопаная стала я перад гэтым ваўчанём. Я хацела замахнуцца на яго кніжкамі, але нехта з іх стукнуў мяне па руцэ, і кніжкі пападалі на зямлю.

Яны кінуліся хапаць іх з зямлі.

— Аддайце мне мае кніжкі! Не вам чытаць пра герояў, пра партызан...

— Мы іх скурым! Гы-гы-гы!..

— Мы прачытаем іх!

— Чытайце. Ты будзеш адказваць за кніжкі. Заўтра я іх забяру назад — і заўтра прынясу вам другія.

І калі я павярнулася, каб ісці сваёй дарогай, яны раптам расступіліся перада мною і прапусцілі мяне...

Цяжка паверыць, што ў мяне потым бадай не было больш надзейных дружбакоў, чым тыя мучыцелі...

Пусткі няма. Пустка знікла. Ці я ўсё-такі заблудзіла?.. Упіраюся ў нейкую абгароджаную будоўлю, чытаю шыльду, як і ў нас, на дашчаным плоце: «Будаўніцтва дома вядзе СМУ... Начальнік будоўлі... Прараб...»

Не адразу знаходжу і Садовую вуліцу. Многа новых дамоў набудавалася, і вуліцу не пазнаць. Машын цяпер хапае, рэйсавы аўтобус нават ходзіць, і пасля начнога ліўня тут не прайсці. А некалі ж тут такая мурава слалася. Ці ты гэта, Садовая?..

Дом № 109 як быццам зняўся з месца і некуды таксама перасяліўся. Добра памятаю, стаяў жа як быццам на тым вунь рагу... Раптам пазнаю нізенькую хаціну (як яна ўрасла за гэты час у зямлю!) роднае сястры мае гаспадыні. А вось і яна сама ў веснічках, з кіёчкам у руках. Каб не ведала, што Надзея Данілаўна памерла, не паверыла б, што не яна гэта. Такое падабенства.

— Клаўдзя Данілаўна! Не пазнаяце мяне?

— Не, не пазнаю... Не пазнаю...

— Я...

— Дзе ж пазнаць. Зусім не падобная. Як жыла некалі ў Надзі, дзяўчынка ж зусім была.

— Была...

— А дзе ж Ваня?

Божа мой, яна яшчэ памятае і яго.

— Няма.

— Няма, — сумна ківае галавою старая і больш ні пра што не пытаецца. — І Надзі няма...

— А я вось прыйшла сустрэцца.

— Дзякуй, што не забыла. Надзя цябе любіла і шкадавала... Здалёку, пэўна, прыехала?

— Здалёку.

Я абдымаю яе белую галаву. Наш дом — так я заву яго ў думках — адразу ж за суседнім. На рагу... Але што гэта са мной сёння? Хіба гэта наш дом? А дзе ж старыя яблыні, дзе разлапісты бэзавы куст перад ганкам, чаму на двары не расце ні травінкі? Гараж. Нейкія хлеўчукі. Асфальт даканаў усё. Маладая жанчына ў спартыўных штанах і майцы спрытна падае цагліну за цаглінай сівому мужчыну. Той захватвае кельмай цэментавага раствору з дзіцячай цынкавай ванначкі і ўмуроўвае цэглу ў новую сцяну — нейкую незразумелую прыбудоўку ад вуліцы. Тут жа ў ночвах з мутнай вадой палошчуцца дзве дзяўчынкі гадоў па чатыры, па пяць.

І я раптам адчуваю, усёй сваёй істотай, неяк раптам дзіўна аслабелай, адчуваю, што мне не хочацца пачынаць гаворку з гэтымі людзьмі, не хочацца заходзіць у гэты дом, дзе некалі лёс падараваў мне дні маладога светлага шчасця, а потым, напэўна, каб пакараць за яго, паслаў — пасля смерці мамы — самую непапраўную страту.

І я хутчэй іду, ледзь не бягу з Садовае вуліцы. Каб не бачыць, як чужыя людзі замуроўваюць маю маладосць.

* * *

Каб стрэцца з ёю ў гэтым горадзе ў апошні раз, я пачакала на прыпынку трамвая — за цэлы дзень хадні ногі гулі, як чыгуны, — села і паехала на вакзал. І таксама нічога там не пазнала.

Гультаявата завярнуўся тралейбус. За ім падышоў другі, сярдзіта пазваніў, наступаючы на другога, трэці... Таксі падхапіла кампанію барадатых выскаляк з рэчавымі мяшкамі, з пакункамі кніг, з рулонамі ватману, з абавязковай гітарай. Бабы ў капронавых хусцінках, у неданошаных сынамі куртках скрозь на маланках, з не падобнымі на нашы, слуцкія, кашамі з-пад клубніц рынуліся прыступам браць аўтобус. У чарзе да піўной бочкі нешта спрабавалі даказаць адзін аднаму добра падпітыя дзядзькі.

— Що ти мені буровиш... Що ти мені буровиш... — наступаў адзін.

А другі бараніўся:

— Та я ж, куме, ничого, та я ж тільки пошуткував...

У цяньку каштана, не звяртаючы ўвагі на свет і людзей, цалавалася яшчэ зусім зялёная пара — абаім гадоў па семнаццаць, не болей. І тут жа на старой сцяне, над усімі гэтымі галовамі, узнімаўся даўні нязломны серп і молат... Я пазнала яго: ён узняўся на гэтай старой тарцовай сцяне яшчэ ў тую памятную восень сорак трэцяга года. Пад сярпом і молатам метровыя літары высякалі як прысягу на жыццё: «Мы наш, мы новы свет збудуем!..»

Тым часам цёткі адбілі аўтобус і пераможна пафуравалі ў бок цэнтра горада. Дзядзькі выцадзілі піва з куфляў да кроплі і, выціраючы рукавом блажэнныя раты, глядзелі на свет усёдаравальнымі вачыма. А гэтыя двое, маладыя, усё цалаваліся.

...Мой эшалон адпраўляўся якраз у такую ж пару, у гэтакую ж самую спякоту. Трэба было толькі знайсці ў непрыкаяным чыгуначным гушчары, дзе ён стаіць, на якім пуці, у якім тупіку. Трэба было дакарабкацца да яго пад вагонамі пэўна некалькіх дзесяткаў чыгуначных саставаў і ўціснуцца з клункамі ў цяплушку. (Навуку гэту за гады вайны я прайшла грунтоўна.) Папярэдне неабходна было таксама яшчэ адшукаць у шэрым вавілонскім стоўпатварэнні вайсковага каменданта і ў яго атрымаць канчатковую візу на дакументах — дазвол на пасадку ў эшалон. Інакш салдаты і блізка не падпусцілі б.

...Паравоз у галаве майго эшалона падаў зычны голас, і два мае клункі адзін за адным паляцелі ў цяплушку. У апошні раз пацалавалі мяне вусны, якія ні разу мне не схлусілі, і ў маім сэрцы ўспыхнула і канчаткова патухла апошняя надзея: «Не прыйдзе...» Яшчэ раз ускрыкнуў паравоз, здрыгануліся колы вагонаў. І мой лёс ускочыў услед за мною ў цяплушку ўжо на хаду.

Горад К. адстаў ад мяне на дваццаць восем год.

...І вось мы стрэліся з ім і зноў развітваемся. Хто ведае, магчыма, назаўсёды. Я махаю яму рукою, і старыя таполі махаюць мне ў адказ і замятаюць мае сляды і сыплюць на валасы мае сівым пухам.



## Паэзія — шлях да зор

# ВЕРШЫ СЯБРОЎ ЛІТАРАТУРНАЙ СТУДЫІ МІНСКАГА СУВОРАЎСКАГА ВАЕННАГА ВУЧЫЛІШЧА



Міхась Захаравіч Башлакоў разам з суворaўцамі, сябрамі літаратурнай студыі «Да-Зор».

***У** Мінскім суворaўскім вучылішчы літаратурная студыя працуе з 1 верасня 2008 года. Яе кіраўнік — вядомы паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхась Захаравіч Башлакоў. Штомесяц Міхась Захаравіч сустракаецца з суворaўцамі, праводзіць майстар-класы, запрашае на пасяджэнні студыі беларускіх творцаў, пісьменнікаў-франтавікоў. Назву для сваёй літаратурнай студыі суворaўцы абіралі самі. Па выніках конкурсу, абвешчанага ў навучальнай установе, аб'яднанне атрымала назву «Да-Зор». Яна была прапанаваная Аленай Васільеўнай Лазарчук, памочнікам камандзіра па маральна-псіхалагічнай падрыхтоўцы І роты. Тэма далёкага шляху да зор, імкнення да высокай паэзіі і шчырых пачуццяў — пра што пісаў яшчэ ў 1915 годзе класік нашай літаратуры Максім Багдановіч у знакамітым вершы «Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы...» — застаецца актуальнай і сёння. Але цягам гэтага няпростага шляху суворaўцам неабходна памятаць пра сваю будучую прафесію — таму сімвал «зорак на пагонах», дасягненняў жыццёвых, не менш важны для іх, чым творчыя дасягненні. Рускае слова «дозор» таксама нельга абысці ўвагай, калі мы гаворым пра мужных афіцэраў, абаронцаў Айчыны.*

*Загадчык бібліятэкі Мінскага суворaўскага ваеннага вучылішча Галіна Пятроўна Бяляева распавядае, што літаратурную студыю наведалі з выступленнямі пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Уладзімір Федасеенка, Андрэй Цяўлоўскі і многія іншыя, а таксама супрацоўнікі рэдакцый часопісаў «Бярозка», «Полымя». Завітвалі ў госці да суворaўцаў і маладосцеўцы. Навучэнцы МСВУ ўдзельнічаюць у выданні мясцовага інфармацыйнага весніка «Честь имею!», пішуць вершы, эсэ, краязнаўчыя і навукова-папулярныя артыкулы. Рэдакцыя газеты «Переходный возраст» выказала падзяку суворaўцам за актыўны ўдзел у рэспубліканскім творчым конкурсе «Натхнёны водарам Радзімы». Сёння на старонках часопіса «Маладосць» — вершы пачаткоўцаў, сяброў літаратурнай студыі«Да-Зор».*

**Віка ТРЭНАС**

**Ілья КАРОЛЬ,**
**суворавец III роты**

## СМУТАК

Ля старой бярозкі
Цёплы ветрык вее...
Родны кут у сэрцы
Ўспомніў я з надзеяй,
Што вярнуся хутка,
Што прыйду дахаты.
Светам любавацца
Вельмі-вельмі рады!
«Я вярнуўся, людзі!» —
Крыкну. Плача сэрца.
Боль скаваў мне грудзі,
Не знайсці мне месца,
Боль са мной заўсёды.
Покуль не вярнуся.
На страсе ўжо нашай
Пасяліўся бусел.
Звіў сабе гняздо ён,
Будуць птушаняты...
Мама, я вярнуся
Да роднае хаты!

**Ілья АШУЙКА,**
**суворавец III роты**

## РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

Паважаю зямлю нашу родную,
Паважаю яе цёплы край,
І лясы, што жывуць ва ўспамінах,
І рачулкі, што ўюцца праз гай.

Паважаю гісторыю нашу,
І паэмы, і яркі фальклор.
І Францішка Скарыну, і Цётку,
Што складалі агульны наш твор.

Гэты твор нам застаўся ад продкаў,
І яго мы павінны любіць,
А завецца ён сціпла і проста,
Гэты твор называецца «Жыць».

Хай жыве беларуская мова,
Хай жыве беларускі народ.
Селянін, на зямлі што працуе,
І банкір, што не мае турбот.

Пра герояў не маем мы звестак,
Хто, збярогшы Айчыну сваю,
Нам пакінулі незалежнасць,
Не аддаўшы чужынцам зямлю.

Баранілі яны кут свой мілы
Ад набегаў татараў і прусаў,
Аддавалі Радзіме ўсе сілы,
Ганарыліся, што Беларусы.

Паважаю зямлю нашу родную,
Паважаю яе цёплы край,
І лясы, што жывуць ва ўспамінах,
І рачулкі, што ўюцца праз гай.

**Яўген ПАТАПЧУК,**
**суворавец III роты**

## МІР

Мір — яркае, светлае, чыстае слова,
Нам варта яго берагчы, безумоўна.
Мір нас аб'яднаў у адзінае цэлае.
Без ліха няма дабрыні,
Ці без чорнага можа быць белае?

А ты прыглядзіся да наваколля,
Да добрага, сонечнага надвор'я.
Гуляе дзіця, паштальён пісьмы носіць…
Мяне асляпляе святло прыгажосці.
А ты не знішчай тое, што засталося.
А ты зберажы — зерне спее ў калоссях.

**Дзмітрый ДУРЭЙКА,**
**суворавец III роты**

* * *

Памятайце нас, нашчадкі!
Памятайце подзвіг наш!
Дзеля вас не шкадавалі
Сілаў дзед і прадзед ваш.

Памятайце, як фашыстаў
Нашы білі пад Масквой,
Як на подступах да Мінска
Йшлі мы ў свой апошні бой.

Партызан не забывайце
І шануйце памяць іх.
Вы у вершах услаўляйце,
Як узялі мы Берлін.

Дзеля вас мы баранілі
Родны кут, радзімы дом.
Дзеля вас чужынцаў білі,
Каб наш сын не стаў рабом.

Памятайце нас, нашчадкі!
Памятайце подзвіг наш!
Дзеля вас не шкадавалі
Сілаў дзед і прадзед ваш.

**Мікалай БАРГАН,**
**суворавец III роты**

* * *

Дзе ж ты, мова мая,
Беларуская мова?!
Ад бацькоў і дзядоў
Перадазена слова...
Без цябе твой народ
Жыць не зможа — загіне.
Як забудзе цябе,
Назаўсёды пакіне.

Як па восені клён
Скіне гожае лісце,
Птушкі ў вырай ляцяць,
Каб вярнуцца калісьці,
Так і нам сумаваць
Па лугах, сенажацях.
Без Радзімы сваёй
Будзеш быццам без маці.



Генадзь ПАЦЫЕНКА

# ПАКУЛЬ КУЛЯ ЛЯЦІЦЬ*

*Аповесць*

**Окружи счастием душу достойную…**
*М. Ю. Лермонтов*

## Частка адзінаццатая

## КВЕТКІ ДЛЯ ІНГІ. ВОСЕНЬСКІЯ ДАЖДЖЫ. ІНГІН АБУТАК. ЗІМОВЫЯ ПРЫГОДЫ. ЦЫГАНЯ. ЗАБЫТЫЯ ТРЫВОГІ. ВОСЬ І ЎСЯ ГІСТОРЫЯ...

*Ад хлапчукоў я неўзабаве даведаўся:* выратавалася вёска дзякуючы людзям з боку. І другая вестка: немцы ў райцэнтры на пляцы павесілі перакладчыка — таго ў цывільным, — які стаяў побач з афіцэрам у кузаве грузавіка. Ён працаваў, як высветлілася, на партызан. Да вайны яго быццам бы ведалі як дырэктара фанернай фабрыкі. Ён і папярэдзіў бацьку, апавясціў у апошні момант дзядзьку Косціка пра запланаваны гітлераўцамі расстрэл вёскі.

Вечарамі, сустракаючы статак, жанчыны, не хаваючыся, плакалі па незнаёмым чалавеку, які іх выратаваў. І ўсё дапытваліся пра яго магілу, жадаючы пабыць на ёй. Свой намер яны старанна хавалі ад усюдыіснай дзятвы, каб ніхто не прагаварыўся.

Я так і не даведаўся — ці ажыццявілася задуманае жанчынамі.

Але гэта яшчэ былі не ўсе навіны і прыгоды, гэта быў хутчэй толькі пачатак іх. Мне не цярпелася высветліць ролю загадкавага пастуха-бежанца.

Трэба было знайсці зброю, якую, па маіх здагадках, пастух насіў пры сабе, маючы яе пад рукой.

Дзе ён мог трымаць пісталет? Хутчэй за ўсё ў сянніку. Яго-то мне і трэба было праверыць. У іншы час мяне б адлупцавалі, ды і самому стала б сорамна.

Я вырашыў зазірнуць у кішэні куфайкі «нямка», якую ён, калі вячэраў, на некалькі хвілін вешаў на ўбіты ўсярэдзіне хлява цвік.

Нямко вячэраў у хаце, і я кінуўся ў прыбудову, ведаючы, што ён з хвіліны на хвіліну туды вернецца. Памацаў пад жалезным складаным ложкам — нічога. Пуста было і пад падушкай. Заставалася пакратаць куфайку, абмацаць яе кішэні. Правая кішэнь прыкметна адцягвалася, і я сунуў у яе руку. Важкі, нібы ўвесь з суцэльнага металу, у ёй ляжаў пісталет, яшчэ цеплаваты ад палявога летняга паветра, а можа, і ад рукі барадатага нямка.

Пісталет не хацелася выпускаць, а яшчэ больш хацелася займець: хай думалі б, што знік. Але я адразу перасіліў спакусу і апусціў пісталет на месца.

Зараз я канчаткова запэўніўся: радыст і пастух была адна і тая ж асоба.

---

*Заканчэнне. Пачатак у № 2, 3, 4 за 2010 г.

* * *

Спалох пад сырой камягай не прайшоў для Інгі марна. Яна сур'ёзна захварэла, і, па ўсёй бачнасці, запаленнем лёгкіх. Вінаваціць мяне быццам бы не вінавацілі, але ўсё ж было не па сабе. Я перабіраў шмат магчымасцей, якія трэба было б улічыць у дзень аблавы, і іншага не бачыў, акрамя схованак пад лодкай. Вяртацца ўсім разам да хаты, да немца, які чакаў у двары? А ён, чаго добрага, і прыстрэліў бы.

Дні ішлі, а Інга бесперапынна тэмпературыла. Лячылі яе як маглі — хатнімі спосабамі.

Пасля жніўня лета пабегла хутчэй. Ночы цяпер пахаладнелі, а ў густой заслоне ранішніх і вячэрніх тумаңоў часам не бачыўся і Віцязь, які пасвіўся на сенажаці. Я адшукваў яго па нецярплівым фырканні і нейкім, нібы прыстуджаным, хрыпенні.

Пры маім з'яўленні Віцязь схіляў паслужліва галаву, нібы выяўляў гатоўнасць да катання на ім Інгі. Вочы яго пры гэтым дапытліва і здзіўлена касіліся, нібы пыталіся: дзе ж маленькая валадарка, бязважкая маленечкая наезніца?

У адказ я скроб шчоткай цёплы конскі круп, расчэсваў карак, стоячы на суку вярбы, і адпраўляўся затым у прапаленую хату чакаць, калі разгоніць вецер смугу і прадзяўбецца, вызірне сонца, якое ўставала што ні дзень заспаным.

Лугавыя абшары з палеглай травой ужо не трывожыліся птушынымі галасамі. Ціхі супакой і засмучэнне... І колькі б ні ўслухоўваўся я, колькі б ні ўнюхваўся — ні гуку, ні паху, ні варушэння; ціша, ды сырасць, ды золкасць.

Раптоўна наляцела завяданне.

Я не памятаў, колькі часу не бачыў Інгу. У хаце Касцікаў размаўлялі шэптам, а кароў у статак пад вокнамі не ганялі, каб не трывожыць хворую, якая прыходзіла рэдка ў свядомасць.

Жыццё ў ёй трымалася нібы на валасінцы, як бы тлела. Інга знаходзілася тыднямі ў забыцці. Выклікаць доктара з раённай бальніцы, як рабілася да вайны, не было магчымасці.

І сэрца маё млела, сціскалася, трапятала ад трывожнай спагады і жалю, што нічым не дапамагчы. Ля ложка Інгі неадлучна дзяжурылі дарослыя, прапануючы цётцы Касцісе розныя парады і дапамогу. Жар спрабавалі здымаць лісцем капусты, лопуху і нават конскім шчаўем, прыкладваючы на лоб і патыліцу.

Са Снегірынага лесу хтосьці прынёс цётцы Касцісе журавіны, яна таўкла іх, трушчыла, давала піць Інзе і мяняла кампрэсы. І жар паступова пачаў спадаць, але ў хату да Касцікаў нас з Федзькам пакуль не пускалі.

Не цярпелася даць Інзе аб сабе знаць, хай пацешыцца, што пра яе памятаюць і думаюць, і не толькі хлапчукі-суседзі, але і Віцязь. Паламаўшы галаву, я адхіліў у школьным сшытку сашчэпкі і выняў дзве суцэльныя старонкі. Трэба было Інгу ўзбадзёрыць, ажывіць, надаць сілы. Брат зрэзаў дзве пакінутыя з восені пышна расцвілыя вяргіні, якія нагадвалі касматых чмялёў. На палавінках старонак мы намалявалі досыць буйна Віцязя. А да кветак дадалі выяўленую ў кветніку мяту, што нейкім цудам не паспела палегчы. Ліст з намаляваным канём і букет мы праз цётку Касціху перадалі Інзе. Атрымалася, што дарылі нібы і не мы, а Віцязь.

Падарункі, як неўзабаве даведаліся мы, прыйшліся Інзе даспадобы. Яна цешылася і бесперастанку нюхала мятны букет, што стаяў побач.

Але гэта было толькі пачаткам нашай вынаходлівасці. Мы налаўчыліся кожны дзень чымсьці нагадваць пра сябе. Даваць знаць, што чакаем яе і нудзімся.

Самым жа сур'ёзным нашым пасланнем стаў хлеб з ягадамі, з цукрыста-пераспелымі сакавітымі брусніцамі з запушчаных палёў, цудам не з'едзенымі птушкамі. Ягады былі з лёгкай кіслінкай, але ў меру салодкія, і галоўнае... Галоўнае — тое, што іх Інзе больш за ўсё не ставала.

Маці спецыяльна заквасіла і напякла ёй жытняга хлеба. Яна бурчэла потым, што мы не далі буханкам астыць, узяўшыся наразаць лусты. Праз цётку Косціху мы перапраўлі іх тут жа Інзе.

Мы лічылі гэта асноўнымі лекамі і ласункам, ледзь ці не штодзённа ўгаворваючы маці пячы свежы хлеб.

Але трэба было і самім неяк пабачыцца з Інгай.

Некалькі восеньскіх дзён выдаліся зусім ужо сухімі, амаль цёплымі. Даўно пажоўклае лісце вяза высахла і абляцела. На дрэва я з гэтага часу не залазіў: на голых галінах ты адусюль бачны. Лісце апала з дабратворнай цішай, з ім заадно як быццам уціхамірыліся і трывожныя дні аджытага лета.

У сонечны дзень мы пайшлі да Інгі.

— Ідуць твае лекары, — апавясціла цётка Косціха, заўважыўшы нас у акно. — Што гэта нясуць табе?

Косціхай цётку клікалі увогуле-то з-за мужа. На самай справе імя яе было Хрысціна. Да новага ж яна так прывыкла, ні на каго не крыўдзілася, бачачы ў гэтым заведзеную ў нашых краях асаблівасць — называць у большасці другім імем.

Інга зручна напаўляжала, прываліўшыся спінай да дзвюх узбітых падушак, да плячэй і горла закрытая коўдрай. Бледная, вымучаная, яна нудзілася ў працяглай адзіноце. Дзядзька Косцік з жонкай адразу ж нас пакінулі, паціху прычыняючы дзверы, каб не замінаць гутарцы. Букет восеньскай лістоты, вяргіні і мяты паставілі ў пусты шкляны слоік.

Саслабелым голасам Інга спытала пра Віцязя. І пра тое, як нас выратаваў староста з суседняй вёскі... Атрымлівалася, што і ацалелі-то мы дзякуючы таму, што старасту своечасова даімчаў наш Віцязь... Вочы Інгі пры гэтым не міргалі, а глядзелі здзіўлена-акруглена то на мяне, то на Федзьку. Выпрастаўшы руку з-пад коўдры, яна нават папрасіла нас падысці і чамусьці пакратала кожнага, нібы ўпэўніваючыся, што мы жывыя і сапраўды стаім перад ёй.

Затым яна паглядзела ў акно на пустуючы, даўно прыбраны агарод, гатовая выбрацца з-пад коўдры і пабегчы з намі на волю.

— А скажы, Ягор, вайна скончылася? — спытала яна, перарываючы свае роздумы.

Гэта было нялёгкае пытанне. Ухіляючыся ад праматы, я адказаў, што па размытых дарогах немцы да нас позняй восенню не сунуцца.

— А калі з’явяцца?

Я не ведаў, як больш пераканаўча адказаць, і прызнаўся, што, па-мойму, нас надзейна ахоўваюць зараз партызаны. І вайна-то, падобна, ідзе на завяршэнне...

— Значыць, хутка цягнікі на Маскву пойдуць? — ухапілася Інга за сказанае, робячыся ранейшай, шустра-кемлівай.

— Гэтага я не ведаю, але, напэўна...

— А вы паедзеце са мной?

Брат засоп, заварушыўся.

— Як бацькі...

— Ты адна-то дабярыся спачатку. А там паглядзім, — разважыў я.

— Адна не паеду. Ці з вамі, ці...

— Гэта значыць?

— Мне адной не хочацца.

— Прыедуць твае бацькі і забяруць не пытаючы. Нябось, галовы ломяць, дзе ты?

— Яны, можа, у іншай краіне, — выказала здагадку Інга.

— А можа, ваююць? — сказала, уваходзячы, Косціха.

— Можа, і напраўду на фронце, — прызналася Інга і правяла рукой па коўдры.

— Навошта табе з'язджаць ад нас, — упікнуў яе Федзька. — Ні хлеба свежага ў Маскве, ні ягад. Заставайся тут.

— Бач ты які! — ажывілася Інга. — Без бацькі і маці ты не захацеў бы жыць, а мне прапануеш?

— А мы, — не разгубіўся брат, — мы для чаго ў цябе?

— Трэба падумаць, — схітравала Інга, хаваючы руку пад коўдру.

Дамовіліся, што з заканчэннем вайны ўсе трое з'ездзім у Маскву. Адвязём Інгу і вернемся. А пакуль Федзька раптоўна ўспомніў пра кніжку, у якой вандроўцы за час хваробы Інгі заплылі бог ведае куды. Брату неадкладна трэба было даведацца, як далёка апынуліся яны і што ўбачылі новага.

Напамінак пра заморскія краіны на нас падзейнічаў дабратворна, адцягваючы ад бясконца трывожнага акупацыйнага жыцця.

Наўкола, ужо не таячы, казалі пра лясныя партызанскія базы, пра тое, што паўсюль хаваюцца адважныя і дзёрзкія людзі. Інга, па ўсім відаць, хварэючы, таксама пра іх наслухалася.

— А партызаны, яны якія? — спытала яна. — Ты іх бачыў? Ну хоць раз?

— Не яшчэ... — адказаў я, не ўпэўнены, што кажу праўду.

— Як жа так, немцаў ты бачыў, а партызан — не?

Сказаць Інзе, што яна таксама партызана бачыла, значыць уцягнуць брата ў рызыкоўную гутарку, узбудзіць яго цікаўнасць і наклікаць гнеўную праборку бацькоў: Федзька абавязкова палез бы да бацькі з роспытамі.

— Дык яны ж у лесе! — раптам дасведчана ўставіў брат.

— Вось і схадзілі б да іх! — прапанавала Інга.

— Іх яшчэ трэба адшукаць. І калі б усе хадзілі да іх, дык ім проста ваяваць не было б калі.

Мой адказ прагучаў пераканаўча.

— Я б таксама з вамі пайшла, — сказала Інга.

Брат жа дапытліва паглядзеў на мяне:

— А мы ім дапаможам чым-небудзь?

— Шмат такіх памагатых адшукалася б, — заўважыў я няпэўна.

— Мы ім, Ягор, ведаеш як дапамагалі б! — на поўным сур'ёзе сказаў Федзька.

— Ну?

— Мы ім у стужкі патроны ўстаўлялі б.

— Яны што, па-твойму, са стрэльбаў паляць? У іх патроны баявыя, гатовыя, загадзя ў стужкі і дыскі набітыя.

— Адкуль яны возьмуць гатовыя? — зацікавілася Інга, нібы ў падтрымку брата. — Яны ж у лясах?

— Вось як-небудзь сустрэну і пацікаўлюся, — паабяцаў я, але тут жа і пашкадаваў, убачыўшы пакрыўджаныя твары Федзькі і Інгі. — Яны запасліся падабраным. Ну, і ў немцаў разжыліся, пазабіралі, я думаю.

— Ты, Ягор, абавязкова пакажаш мне партызана. Добра?— наказала Інга.

— Пакажу.

Я паабяцаў, не ўяўляючы, якім чынам гэта зраблю. Галоўнае, што Інзе было прыемна і каб яна хутчэй акрыяла. Я, прызнацца, чуў, што восеньскімі начамі партызаны завітваюць у вёску, каб запасціся прадуктамі. І сярод іх быццам бачылі і пастуха-бежанца, які з надыходам халадоў перастаў пасвіць статак.

— А ты ведаеш... — пачаў Федзька і чамусьці захлюпаў носам, але тут жа супакоіўся і звярнуўся да Інгі. — Цяпер такое табе распавяду...

Інга здзіўлена паглядзела на яго і зноў вызваліла з-пад лапікавай коўдры руку, чапаючы плячо брата:

— Федзечка, ты што?
— Пэ-тэ-тэ памятаеш?
— Нямка з жалезнай палкай?
— Ну вядома!
— А што з ім?
— Ягор хай распавядзе.

Федзька адвярнуўся да акна. І я распавёў пра тое, што здарылася напярэдадні аблавы і пра што даведаўся толькі нядаўна. Пацешнага Пэ-тэ-тэ, які збіраў міласціну, немцы расстралялі ва ўпор на абочыне дарогі, палічыўшы за сувязнога ці разведчыка. Нямко адпачываў пад дрэвам, дзе яго і заспела нечакана ўзніклая машына з аўтаматчыкамі.

Мы маўчалі, шкадуючы, смуткуючы аб добрым, шмат у чым пацешным чалавеку, вандроўніку летніх дарог, які нёс радасныя падарункі і ўсмешкі дзецям. У адной вёсцы яму падавалі курыныя яйкі, а ў другой ён раздаваў іх дзятве.

Асабліва шмат яйкаў у яго назапашвалася на Вялікдзень, дадаваліся да іх і святочнае печыва з цукеркамі, і тады-то нямко толькі і шукаў сустрэч з дзецьмі. Ніхто з дзяцей Пэ-тэ-тэ не забываў, у сваю чаргу, адорваючы і ад сябе.

Не меней за Вялікдзень нямко любіў і паважаў падарожжы навагоднія, спрабуючы строіць з сябе часам Дзеда Мароза. У гэту пару яму перападалі свежае сала, хатняя каўбаса — у канцы года сяляне рэзалі свіней.

Упершыню мелася сустракаць нам Новы год без звыклага вандроўцы.

Федзька, не хаваючыся, плакаў, што ніколі больш шчодры Пэ-тэ-тэ да яго не прыйдзе. І нікому з нас, разам з Інгай, не перападзе з гэтага часу яго дзівацкай шчодрасці...

Асноўныя навіны мы Інзе выклалі — і радасныя, і гаротныя. І цяжкае іх далейшае перабіранне нічога добрага не абяцала. Мы прагнулі хуткага чытання любімай кнігі пра вандраванні. Адна яна дапамагала забываць цалкам тое, што адбывалася. З пачаткам вайны мне выпадкова запала гутарка паміж дзядзькам Косцікам і бацькам.

Абодва разважалі пра тое, што хуткі канец вайны, на іх погляд, не прадбачыцца. Вайне быць доўгай. І трэба было б неяк вывезці дзятву ў тыл. Без здаровых дзетак будучае жыццё паўставала бессэнсоўным. Аднак зіма набліжалася, а пра ўтоеную эвакуацыю і чутак не было. Справа, падобна, прымала зацяжны характар.

Па-сапраўднаму вайна-то толькі пачыналася. Інакш навошта б з такой грунтоўнасцю рыхтаваліся партызаны ў Снегірыным лесе?

Кніжка Інгі была цяпер самым правераным суцяшэннем. Тое, што адбывалася ў ёй, пераносіла нас на іншыя мацерыкі, у чужыя краіны, дзе ні войнаў, ні страху, ні жахаў, а спакой, у якім вадзіліся незвычайныя, дзіўныя жывёлы, спявалі ўвесь год невядомыя і нябачныя птушкі, жылі невядомыя людзі.

Месца перапыненага чытання я адшукаў па малюнках горада Мантэвідэо і наваколляў.

— Вось тут апісваюцца віскашы, пацешныя жывёлы, падобныя на нашых трусоў. Пра іх сказана, што разцы і хвост у іх даўжэйшыя, чым трусіныя, а на задніх нагах — тры пальцы... А шкуркі віскашаў цэняцца і адпраўляюцца ў Англію...

— Ты б лепш чытаў, Ягор! — не вытрымаў маіх тлумачэнняў Федзька. — Мы ж не маленькія.

— З вандроўцамі-то цікавей, — падтрымала і Інга.

— Яны якраз гэтых звяркоў вывучаюць.

— Дык і чытай! — не здаваўся брат.

— Ну добра, — не стаў я спрачацца. — Слухайце тады: «Гуачосы заяўляюць, што гэтыя жывёлы сілкуюцца карэннямі, — для лепшай арыентацыі я вадзіў паль-

цам па радку і імкнуўся чытаць марудней. «Назіранне гуачосаў падаецца верагодным, калі ўлічыць магутныя разцы жывёл і характар месцаў, дзе яны водзяцца. Па вечарах віскашы ў мностве выходзяць з нор і ціха сядзяць на задніх лапках ля ўвахода...»

— Глядзі ты, якія разумнікі, — не ўтрымалася Інга. І я заўважыў, як на шчоках яе з'явілася слабая чырвань ад нахлынулага хвалявання, ад незвычайнага жыцця нам недаступнага свету, дзе так па-хатняму выходзілі з нор жывёлы і адразу аддаваліся ціхаму сузіранню, седзячы на задніх лапках. Інга нібы пахвальвала іх.

— Працягваць?

— Вядома!

— «У гэтыя хвіліны яны зусім даверлівыя, і, калі праехаць міма на кані, яны толькі ўважліва разглядаюць вершніка. Ходзяць яны вельмі нязграбна і калі бягуць ад небяспекі, то сваімі хвастамі, што тырчаць, і кароткімі нагамі вельмі нагадваюць вялікіх пацукоў...»

— Гэта таму, што ў іх па тры пальцы на нагах, — растлумачыў Федзька. — З пяццю б яны хадзілі звычайна.

— Не замінай, — заўважыў я брату. — Набярыся цярпення. Усё пазнаеш. «У віскашаў ёсць адна вельмі дзіўная звычка, а іменна — цягнуць любы прадмет да ўвахода ў сваю нару: мноства костак скаціны, камяні, сцеблы чартапалоху, цвёрдыя камякі зямлі, сухі гной...»

— Вось дзівакі! — засмяяўся брат. — Я б ім такога нанёс!

— А вось далей-то, далей: «Усё гэта грувасціцца кучай каля нор. Куча часцяком такая вялікая, што магла б напоўніць цэлую тачку. Мне перадавалі аповед пра тое, як адзін чалавек, які ехаў цёмнай ноччу на кані, упусціў гадзіннік, а раніцай вярнуўся і, аглядаючы кожную нару віскашаў уздоўж дарогі, неўзабаве, як і чакаў, адшукаў яго».

— Прама-такі цуды! — не ўтрымалася, заўсміхалася Інга. — Ніколі б не паверыла, што існуюць такія дзіўныя звяркі. Можа, іх навучыў хто?

— «Гэта звычка віскашаў падхопліваць усё, што б ні ляжала на зямлі дзе-небудзь паблізу ад іх жылля, дастаўляе ім, мабыць, нямала клопатаў. Я не магу выказаць нават самай малаверагоднай здагадкі, каб растлумачыць, для чаго яны гэта робяць!»

— Я ж сказала, у людзей навучыліся! — ажывілася Інга ад здагадкі. А можа, праўда і на яе баку была? Адкуль бы дзікім жывёлам пераняць такую звычку?

— Не, правільна думаю, правільна, — лапатала яна з такой перакананасцю, што ні я, ні брат не рызыкнулі ўсумніцца.

Мне здавалася, што аўтар вось-вось і сам прыйдзе да такога ж вываду і здагадкі, і я спяшаўся дачытаць назіранні:

— «Гэта не можа мець сваёй мэтай абарону, таму што ўвесь хлам кладзецца галоўным чынам над уваходам у нару, якая сыходзіць у зямлю пад вельмі маленькім ухілам. Несумненна, тут павінен быць нейкі рэальны сэнс, але мясцовыя жыхары нічога пра яго не ведаюць. Я ведаю толькі адзін аналагічны факт: гэта звычка той незвычайнай аўстралійскай птушкі, якая ўладкоўвае з галінак вытанчаны скляпеністы калідор, дзе займаецца гульнёй, і збірае каля гэтага месца ракавіны наземных і марскіх малюскаў, дарэчы, і птушыныя пёры, асабліва ярка афарбаваныя».

— Як наша сарока, — сказаў брат.

Я кіўнуў, не перапыняючы чытання:

— «Тубыльцы, страціўшы які-небудзь цвёрды прадмет, аглядаюць гэтыя «калідоры», і так аднойчы адшукалі курыльную люльку...»

На гэтым месцы Інга і Федзька ва ўвесь голас зарагаталі, а цётка Косціха зазірнула ў прачыненыя дзверы, задаволеная, што нарэшце пачула смех пляменніцы. Яна, падобна, таксама ўспрымала наша чытанне, і яно таксама было ёй цікава. Яны ўвайшлі з Косцікам у пакой, і я вырашыў быў чытанне перапыніць і кнігу закрыць, асцерагаючыся змарыць не ачунялую яшчэ Інгу, але Косцікі папрасілі працягваць, заўважыўшы, што звычкі ў птушкі нейкія сапраўды «людскія».

Хворая тым часам ужо сядзела, абхапіўшы калені белымі, як вытачанымі, ручкамі. Федзька прымасціўся на зэдліку ў яе падгалоўя, упіраючыся ступнямі ў ашэстак між ножкамі зэдліка. Ложак Інгі быў з нікеліраванымі па кутах спінкі шарыкамі.

Усе напружана глядзелі на мяне.

Я пачытаў яшчэ крыху, здагадваючыся і разумеючы, што на сёння Інзе досыць. Але ўсе, як змовячыся, як знарок, прасілі працягваць. І я саступіў:

— «Маленькая сава, пра якую ўжо згадвалася не раз, жыве на раўнінах вакол Буэнас-Айрэса выключна ў норах віскашаў...»

— Ды яны яе з'ядуць! — спалохалася Косціха. Федзька з Інгай, а з імі і дзядзька Косцік толькі ўсміхнуліся, паглядзеўшы адно на аднаго.

— «Але ў Банда-Арыенталь, — працягнуў я, — сава сама ўладкоўвае сабе жыллё. У ясныя дні і асабліва па вечарах з усіх бакоў бачны гэтыя птушкі, якія сядзяць у адзіночку, а нярэдка і парамі на грудку каля сваіх нор. Калі іх патрывожыць, яны сыходзяць у нару ці ж, рэзка, пранізліва закрычаўшы і апісаўшы нейкую асаблівую хвалепадобную лінію, адлятаюць на кароткую адлегласць, а затым, вярнуўшыся, пільна глядзяць на свайго праследаваццеля, нібы дакараючы. Часам па вечарах чутны крык гэтай савы. Я знайшоў у страўніку ўскрытых мною дзвюх соў рэшткі мышы, а аднойчы бачыў, як сава забіла маленькую змяю і панесла з сабой. Змеі — іх звычайная дзённая здабыча. Часам совы сілкуюцца крабамі. У Індыі, кажуць, жывуць совы-рыбаловы, якія сапраўды гэтак жа ловяць крабаў».

На гэтым я кнігу закрыў.

— Скажы ты, — падзівіўся, пакруціў галавой дзядзька Косцік. — Я неяк да вайны лавіў сеткай на возеры. Справа была дзесьці напачатку лета, апоўначы. Прыстаў да берага, дай, думаю, вогнішча распалю, пагрэюся. Рыбу ў мяшку ў лодцы пакінуў. Пасядзеў каля агеньчыка, вярнуўся, хоп за торбу, а ў ёй пуста. Каму пазносіць-то было? І галоўнае-то, мяшок на месцы, а ўлову — няма! Сяджу, крыўдую, ламаю галаву. Паплыў па новай лавіць...

— Сава гэта, — паспяшаўся аб'явіць Федзька. — Яе выхадкі. Яны ж уначы палююць!

— Пачакай, Фёдар, не спяшайся. Налавіў я дробязі, а тут і світае. І ўздумалася мне на беразе сляды пашукаць. І што ж вы думаеце? Іду па пяску і ўсюды знаходжу сваю рыбу, па абгрызеным шкілеце.

Дзядзька Косцік вычакаў, даючы падумаць нам і разгадаць.

— І хто ж у вас стаў зладзюжкай? — першай не вытрывала Інга.

— Выдра, вось хто.

— У-у-у! — загудзелі мы здзіўлена.

— І не адна. З выдранятамі, інакш бы гэтулькі рыбы не з'есці. Падобна, вучыла паляваць. Разумная, чартоўка, — захапіўся дзядзька Косцік звярком. — Вось гэта была гісторыя. Потым я рыбу ў лодцы больш не пакідаў.

Мы з Косцікам пачалі збірацца, паабяцаўшы, што, як толькі Інга паправіцца, стане больш здарова, прыйдзем яшчэ, а там і на Віцязю пакатаем.

— Апранацца, вядома, прыйдзецца пацяплей, — папярэдзіў я на ўсякі выпадак. — На дварэ даўно ўжо восень.

— У чым яна зараз выйдзе? — забедавала цётка Косціха. Мы не разумелі, куды яна хіліць, і пераглянуліся з братам.

— Абутку-то ніякага! Ад'язджала-то ў чым была, ненадоўга.

Тут толькі я сцяміў, што мела на ўвазе Косціха. Бо ехала-то Інга на летнія канікулы, і ніякай вайны не меркавалася! Цяпер жа валадарылі халады, і нічога па сезоне ў яе не было.

Пакуль Інга хварэла і пакутліва, павольна папраўлялася, дажджы змяніліся начнымі замаразкамі, і Інзе не тое што катацца на Віцязю, а і на парог выйсці не было ў чым. Акрамя ўзятых сандалікаў, усё засталося дома, у Маскве.

Дастаць на вёсцы абутак малаверагодна. Дзятва паўсюдна даношвала апошняе.

Не лепш апраналіся і дарослыя, у старое і паношанае. Косціха хадзіла ў сцёганай старой фуфайцы і неверагодна шапаткой спадніцы з плашчпалатачнай тканіны. Адны вязаныя панчохі ў напалову стаптаных галёшах грэлі яе. Хусткі яна затое амаль не здымала, імкнучыся, наадварот, шчыльней завязваць.

Дзядзька Косцік быў у зімовай шапцы з паднятымі вушамі, у грубай аўчыннай камізэльцы і ялавых ботах, якія для таго, каб захаваць, штодня змазваў салідолам. Боты ён здымаў звычайна ў сенцах і ішоў у жылую частку хаты ў ваўняных самаробных шкарпэтках і вымытых ірваных галёшах, засоўваючы з холаду рукі ў кішэні. Цётка ж Косціха, калі апыналася на хвіліну без справы, звыкла крыжавала рукі на грудзях і тым самым нібы грэла іх.

Дзядзька Косцік неўзабаве ўзяў у бацькі на гарышчы ляжалае лыка і сеў плесці лапці, штохвілінна прымяраючы іх Інзе.

— Не хвалюйся, мілая, — суцяшаў ён пляменніцу. — Выпушчу я цябе на волю.

І, як той казаў, выпусціў. Інга неўзабаве аднавіла катанне на Віцязю. Але ў лапцях, ад якіх на марозіку дзіўна ўстойліва пахла вільготнымі габлюшкамі. Лапцікі пад ёй прасушана рыпалі. Віцязю, магчыма, нават падабаўся яе абутак, а хутчэй за ўсё — пах лыка, дзерлі якое ў Снегірыным лесе ў яго прысутнасці. З месца ён кожны раз кранаўся са жвавай ахвотай, калі не спрытам.

У зацяжныя халады мы ўсе трое змушана сядзелі па хатах.

Даўно мінула трывалае восеньскае бездарожжа. Прасцей было тым, у каго зберагліся, захаваліся боты. Хадзіць да скаціны ў хлеў ці насіць ваду са студні ўладальніку ботаў хоць бы што.

Дажджы ўрэшце адлілі, абмылі старанна і рупліва зямлю перад зімовай спячкай. Пачало падмарожваць, рана цямнела ў вёсцы. І цэлы дзень неба абсыпала хаты цьмянай калючай церухой.

Зацвярдзелая ў блізкіх да хаты сенажацях трава ранкам пахрумствала пад нагамі. Віцязя цяпер памясцілі ў пустуючую непадалёк калгасную стайню.

На ім мы больш не каталіся. Вакол занесла ўсё снегам. Віцязь пакорліва знаходзіўся ў стойле і пакалыхваў буйнай галавой, калі мы прыходзілі яго адведаць. Ён быццам слухаў нас і жадаў штосьці сказаць сваё, што ўсё ж разумее, пра што б ні гаварылася. Ён паварочваў галаву і касіў на нас мудрымі вялікімі вачамі.

Па зацвярдзелай зямлі чакалі любой нечаканасці, раптоўнага наезду немцаў. Праўда, было і суцяшэнне — узімку ім прабірацца давядзецца на санях, што рызыкоўна, прасцей простага нарвацца на засаду.

Прысутнасць партызан у лясах надавала дзецям раскаванасці і адважнай упэўненасці ў тым, што і ў акупаваных вёсках паўстала нарэшце абарона і неабдумана варожая ваяўнічасць нехаця стрымаецца, сыдзе.

Але перад Новым годам немцы і да нас зазірнулі. Да таго часу мы вынайшлі, папрыдумлялі гэтулькі забаў і гульняў, пра якія да вайны б і не марылі. Хто ў лапцях, хто ў чаравіках, мы з разбегу слізгалі па ледзяных лужынах, не рызыкуючы заходзіць на неакрэплую кромку танкалёднага возера. Пад рукой апынуўся нічыйны вазок, узяты каля калгаснай стайні. Мы разганялі яго на пакатай горцы, пасля чаго

гуртам навальваліся, валіліся на дно вазка, што набіраў хуткасць, і несліся да азёрнага раўніннага берага. Пхаць жа назад угору ледзь хапала сіл.

За некалькі дзён перад Новым годам, нагуляўшыся, навесяліўшыся, мы ўладкаваліся ля акна на кухні чытаць любімую кніжку. Зіма да таго часу ўсталявалася на здзіўленне мяккай, з нейкім небывала чыстым пуховым снегам.

Стары кравец у навакольнай вёсцы пашыў Інзе акуратны маленькі кажушок. І так дагадзіў, што Інга не здымала яго нават у хаце, хіба што кладучыся спаць. Маці з бацькам у гэты дзень праведвалі бабку Войціху.

У хаце было цёпла, а з вытапленай ранкам печы праз комін цягнула пахам капусты, што даварвалася ў чыгунку. І нішто, здавалася б, не пагражала ўтульнасці і спакою, у якіх мы знаходзіліся.

Але здараюцца акалічнасці самыя неспадзяваныя нават у звычайным жыцці, а ў вайну — і тым больш. Доўга разважаючы пасля ўсяго, што адбылося, я схіляўся да таго, што адна Інгіна кемлівасць ды незняты кажушок і дапамаглі ў той дзень ацалець нам. Інга аказалася надзіва кемлівай, як бы прадбачыла небяспеку загадзя.

Мы не паспелі пачаць чытанне, як яна ўбачыла ў акно сані з трыма немцамі, якія павярнулі да хаты. Пазней я дапускаў, што, магчыма, прыцягнуў іх увагу пах капусты, што прасачыўся з печы.

Салдаты ў вушастых пілотках, падвязаных пад падбародкам шэрымі шалікамі, а можа, і складзенымі ўдвая хусткамі, заязджалі прама ў двор, як да сябе, быццам звыкла і доўга жылі ў нас.

Спачатку яны пра нешта перагаворваліся, верагодна, аглядалі двор уважліва, а магчыма, і праяўляючы звычайную засцярогу.

Некалькі мінут прачакаўшы, яны паўсталі пад заінелымі вокнамі, насунуўшыся ценямі драпежных птушак. Інга кінулася ў сваім кажушку ў сенцы і, як здагадаўся я, стаілася там.

Салдаты загрукалі ў вокны, але мы з Федзькам не выходзілі, і яны затупалі на ганку, адкрываючы дзверы. Іх было трое, і ўваходзілі яны, прытрымліваючы вінтоўкі ствaламі ўніз.

Мы машынальна ўсталі з-за стала, як з-за парты ў школе.

— Кіндэр! Кіндэр! — гучна залапаталі яны, праходзячы ў заднюю палову хаты і ўтаропліваючыся на абраз, які вісеў у куце ў ручніках, і на драўляную рамку з мноствам фотаздымкаў. Пах капусты адразу ж перабіўся пахам халоднага бруду, махоркі, парахавога гару, а таксама чужой суконнай апраткі. З асаблівa вывучальнай пільнасцю яны ўзіраліся ў здымкі за шклом, несумненна, шукаючы людзей у ваеннай форме. Але такія фотакарткі ў вёсках прадбачліва вымаліся.

І ў гэты момант, пакуль немцы абмяркоўвалі, ці адносіцца наша хата да тых, хто ваюе на фронце, у сенцах бразнула клямка, і я ўбачыў у акно ў кажушку і лапцях Інгу. І пахаладзеў ад страху, што салдаты зірнуць у акно і стрэляць па ёй, каб не папярэдзіла пра іх з’яўленне. Немцы патрабавальна павярнуліся да нас з Федзькам.

— Кіндэр, яйка, млека?

З ашаломленай разгубленасцю я разводзіў рукамі, маўляў, ні яйкаў, ні малака ў нас няма. У хаце і сапраўды нічога не было: куры ўзімку не несліся, карова не даілася, і сядзелі мы больш на капусце ды на бульбачцы. Жэсты мае былі цалкам зразумелыя.

Салдат, вышэйшы ростам, хутка ступіў да печы і кемліва адкрыў засланку. Двое гучна заахвочвалі яго. Узяўшы ў куце відэльцы, немец палез у печ па чыгунок. Мне нічога не заставалася, як даставаць з навешанай на сцяну шафкі міскі з драўлянымі лыжкамі. Я, не буду хлусіць, баяўся, як бы салдаты не падпалілі ў гневе хату, а нас дваіх не пакінулі б у ёй замкнёнымі.

Маю здагадлівасць яны таксама адабралі. Не здымаючы шынялёў і вушанак-пілотак, толькі паставіўшы між каленяў вінтоўкі, яны накінуліся на гарачую капусту.

І пакуль яны елі, у хату, спяшаючыся, вярнулася маці.

— Матка, гуш!.. — загарлапанілі хорам «госці», хутка ўстаючы з-за стала і паказваючы на дзверы ў двор. — Гуш!.. Гуш!.. — лапаталі яны, вывальваючыся за парог, не зачыніўшы дзверы.

Я таксама ўслед падаўся, не разумеючы чужых намераў. Маці, збялеўшы, топталася ў двары, не ў сілах зразумець, што ад яе патрабавалася. Я ж гатовы быў кінуцца за вугал і бегчы ў вёску па дапамогу. З трыма салдатамі вёска і віламі справілася б, а ў дзядзькі Косціка магла знайсціся і зброя, сапраўдны пісталет або вінтоўка. Так, прынамсі, мне чамусьці здавалася, з тых часоў як даведаўся я пра Снегірыны лес.

Немцы ж працягвалі крычаць сваё «Гуш!..»

Маці вырашыла, што ў іх парвалася збруя.

Яна хуценька зняла пад павеццю панавешаную збрую Віцязя і працягнула немцам, спадзеючыся, што яны адразу ж з'едуць і тым самым яна схаваецца далей ад граху. Ёй было, вядома, шкода хамута і збруі, але жыццё дзяцей і сваё даражэйшае.

Салдаты спахмурнелі, нахмурыліся і глядзелі на маці з яшчэ большым раздражненнем. Са здзіўленымі тварамі яны зноў затараторылі сваё:

— Гуш! Гуш!..

Адзін з салдат, раз'юшваючыся, замахнуўся на маці прыкладам і выбіў з рук у снег хамут, паказваючы, каб яму неадкладна адкрылі хлеў. Я ўжо гатовы быў бегчы ў вёску, калі салдаты ствaламі вінтовак раптам паказалі сляды на снезе:

— Гуш! Гуш!..

І тут-то стала зразумела, што патрабавалі яны: у хляве на замку была любімая птушка маці — гусакі.

Маці, падпарадкоўваючыся, адкрыла ім дзверы.

— Матка, гут! Гут! — з гогатам закрычалі немцы і, спяшаючыся, прыняліся запіхваць птушак, якіх успудзілі, у прадбачліва прывезеныя вялікія мяшкі.

Маці сумна і спалохана назірала, як яны моцна завязвалі і грузілі мяшкі на сані, як б'юцца з крыкам у сярэдзіне іх птушкі.

Развярнуўшы каня, немцы паспяшаліся да сябе на чыгуначную станцыю. І тады-то маці пачала плакаць ад схлынуўшай напругі, ад таго, што ўсё абышлося і мы цэлыя, цэлыя. Усе мы ўдосталь нахваляваліся. І калі б не здагадлівасць Інгі, якая наўпрост прыбегла да бабкі Войціхі, невядома, чым для нас наезд немцаў скончыўся б. Маці вырашыла ўладзіць справу адна: бацьку немцы маглі б забіць, успрыняўшы як партызана. На той час любы мужык ім бачыўся лясным мсціўцам.

Праз гады маці, здаралася, распавядала пра гэта з усмешкай. І нават са смехам. А я слухаў і дзівіўся, што так нечакана, так проста і лёгка магло абарвацца яе жыццё і наша з Федзькам. І што сваім уцаленнем, сваім выратаваннем мы былі абавязаны масквічцы Інзе.

Маці скрозь слёзы смяялася, а мяне і ў гэтую хвіліну прабіваў пот, ахоплівалі запозненыя страх і холад...

Другое зімовае здарэнне з Інгіным удзелам было не меней цікавым. Пахмурным днём у вёску аднекуль прынесла цыганоў. Немцы часта расстрэльвалі іх на дарогах, прымаючы за яўрэяў, партызанскіх лазутчыкаў або разведчыкаў.

Да вайны табар прыязджаў увесну і ўлетку, і часцей па маладой траве. І спыняўся звычайна ў адным і тым жа месцы, на нізіннай сенажаці каля пагорыстага бору. Сенажаць пасля ахрысцілі Цыганскай. Куды пойдзем — на Цыганскую сенажаць, дзе былі — на Цыганскай сенажаці, чулася ў гутарках.



*К. Пілаці. Вітаўт і Ягайла напярэдадні Грунвальдскай бітвы.*

ён шмат разважаў аб вайне справядлівай і несправядлівай, шматлікімі меркаваннямі даказваючы, што вайна, якую распачынае кароль супраць крыжакоў, будзе справядлівейшай, і сваім дзіўным дарам пераканання натхніў сэрцы ўсіх рыцараў, якія слухалі яго, на абарону каралеўства і радзімы, на мужны бой з ворагамі.

**ДАБЕСЛАЎ СКАРАЧОЎСКІ, ГАНЕЦ ПАСЛОЎ ВЕНГЕРСКАГА КАРАЛЯ, ВЯРТАЕЦЦА Ў ТОРУНЬ АД КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА І РАСПАВЯДАЕ ПРАЎДУ ПРА ПАЛЯКАЎ, АЛЕ МАГІСТР УЛЬРЫХ ЯГО АБСМЕЙВАЕ.**

На працягу гэтых жа дзён да караля Уладзіслава прыбыў ганцом ад венгерскіх баронаў Мікалая дэ Гара і Сцыборыя са Сцыбожыц Дабеслаў Скарачоўскі з просьбай ад імя сваіх паноў прызначыць дзень і месца, калі і куды яны маглі б з’явіцца да Яго Светласці, каб высвятліць меркаванне караля з нагоды перамоў аб міры. Меркаванне ж магістра Прусіі і яго набліжаных ім ужо было вядома. Кароль Уладзіслаў, абмеркаваўшы адказ, сказаў ганцу: «Мы прызначаем тэрмін прыбыцця тваім спадарам, ахвотнікам прыехаць да нас, у бліжэйшую суботу і нядзелю; дакладнае ж месца прызначыць не можам, таму што войска ніколі не застаецца ў вызначаных месцах і не можа загадзя азначаць свае пераходы якімі-небудзь усталяванымі

месцамі». Калі ж згаданы Дабеслаў вярнуўся ў Торунь да баронаў Венгрыі і перадаў каралеўскі адказ, магістр Прусіі Ульрых з вялікай дбайнасцю стаў распытваць у гэтага Дабеслава, ці прыбыў той з лагера польскага караля і ў якім месцы яго пакінуў. Той адказаў: «Быў я ў каралеўскім стане на працягу двух дзён і пакінуў караля ў лагеры ля манастыра ў Чэрвінску, пасля пераходу праз раку Віслу». Калі затым магістр спытаў, ці злучыўся з ім князь Літвы Вітаўт, Дабеслаў сказаў: «У той дзень, калі я прыбыў у каралеўскі лагер, прыбыў і вялікі князь Літвы Аляксандр з моцным, бліскучым і шматлікім войскам і далучыў свае сілы да каралеўскіх». Тады магістр сказаў: «У войску Вітаўта можна знайсці больш людзей з лыжкамі, чым са зброяй». Дабеслаў жа адказаў: «Павер мне, калі ласка, магістр, што войска князя Вітаўта не толькі вялікае і моцнае, але і забяспечана выдатнай зброяй». Магістр сказаў: «Мы лепш за цябе ведаем і колькасць войска князя, і якое яно, і якую сілу яно ўяўляе людзьмі, зброяй і конямі; нам добра гэта вядома па частым досведзе. Але распавядзі, прашу, нам пра мост, які, кажуць, польскі кароль збудаваў вісячым у паветры». Дабеслаў сказаў: «Бачыў я мост, з высокім майстэрствам пабудаваны з лодак, але трымаецца ён не ў паветры (бо паветра даступна толькі птушкам), а на рацэ Вісле; і на маіх вачах усё каралеўскае войска пераправілася па ім, як па сушы, а таксама і велізарныя бамбарды, і не было прыкметна вагання моста пад іх цяжарам». Магістр жа Прусіі Ульрых, лічачы данясенне Дабеслава жартам, звярнуўшыся да венгерскіх баронаў, са смехам сказаў: «Гэта пустое, і ўсё, што адважыўся распавядаць гэты чалавек, вельмі падобна на выдумку. Бо самыя надзейныя нашы разведчыкі прынеслі вестку, што польскі кароль знаходзіцца і раз'язджае каля ракі Віслы і спрабуе праз яе пераправіцца, але гэта не ў яго сілах. Ужо шмат яго ваяроў пры спробе перайсці яе ўброд загінула ў хвалях. Вітаўт жа стаіць ля ракі Нарэў і не адважваецца яе перайсці». Пачуўшы гэта, Дабеслаў Скарачоўскі, пярэчачы словам магістра, сказаў: «Калі ты лічыш, што я паведамляю няправільныя звесткі, хоць я на ўсё, пра што ты мяне пытаў, адказаў табе сумленна, то пашлі са мной каго-небудзь больш надзейнага, каго маеш сярод тваіх людзей, і на працягу трох дзён я дакажу, што ўсё, што я паведаміў, праўда». Тады магістр адказаў: «У гэтым няма патрэбы, бо праўда аб'явіцца на справе і ўвачавідкі. Бо ты кажаш як паляк і больш належнага ўзвышаеш сілу і дзеянні твайго караля».

**ТЫМ ЧАСАМ ЯК КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ СТАІЦЬ ЛАГЕРАМ У ЖОХАВЕ, ЯНУШ БЖАЗАГЛАВЫ ДЗЯКУЮЧЫ ВАЕННАЙ ХІТРАСЦІ ПАБІВАЕ АХОЎНЫ АТРАД ГОРАДА СВЕЦА І ПРЫВОЗІЦЬ ШМАТ ЗДАБЫЧЫ З ПРУСІІ.**

У чацвер, на наступны дзень пасля свята наведвання найсвяцейшай дзевы Марыі, Уладзіслаў, кароль польскі, зрушыў сваё і вялікага князя літоўскага Аляксандра-Вітаўта войска ад месца на Вісле ля Чэрвінскага манастыра. Ідучы да варожых зямель, ён спыніўся лагерам ля паселішча Жохава. На прыпынку ў дарозе яму паведамілі пра моцную паразу, якую Януш Бжазаглавы, стараста Быдгашча, нанёс крыжакам і іх войску. Апошні, з прычыны мінаючага тэрміна дзесяцідзённага перамір'я, заўсёды імкнуўся напасці на ворага. Ён сабраў немалы атрад ваяроў і накіраваўся ўначы да варожага замка і горада Свеца. Размясціўшы затым у прыдатным месцы засаду, сам з некаторым лікам сваіх ваяроў беспакарана стаў здзяйсняць рабаванні і падпалы навідавоку Свеца. Убачыўшы гэта, крыжакі, якія ахоўвалі [горад] Свеца, адразу ўскочылі на коней і пагналіся за Янушам Бжазаглавым, які кінуўся наўцёкі, мяркуючы, што ён з'явіўся толькі з тым невялікім атрадам ваяроў. Ён жа, па-майстэрску пазбягаючы сустрэчы з імі, завабіў ворагаў да самага месца

засады. Калі ж рыцары, якія хаваліся ў засадзе, выскачылі і ворагі былі акружаны ззаду і спераду, у іх ужо не засталося ніякай надзеі ці магчымасці выслізнуць, яны ў роспачы адчаіліся на барацьбу і далі бой, больш люты, чым можна было б чакаць пры іх колькасці. Урэшце, аднак, яны ўсе былі або ўзяты ў палон, або забіты. Не лічачы загінуўшых, у ліку палонных апынуліся пяць братоў Ордэна. Гэты пачын з'яўляўся разам з тым прадвесцем, якое наканавала зыход вайны і прадказала ў роўнай меры ваенны поспех палякам, а крыжакам — жорсткую паразу. Такім чынам, асцерагаючыся адвагі Бжазаглавага, якую ён звычайна праяўляў у сваіх дзеяннях, магістр і крыжакі, каб стараннней ахавацца і адбіваць яго хітрыя засады, пакідаюць у Свецы камандора свеценскага, Генрыха Плауэнскага[1], з усімі рыцарамі Свеценскай акругі, дадаўшы да яго яшчэ некалькі атрадаў наёмных рыцараў, каб засцерагчыся ад нападаў і рабаванняў Бжазаглавага, бо яны лічылі, што на адкрыты бой ён нізавошта не адважыцца. Выступіўшы з Жохава ў пятніцу, у чацвёрты дзень ліпеня, Уладзіслаў, кароль польскі, правёў цэлы дзень у пожнях нейкага невядомага паселішча; адгэтуль з наступам ночы былі бачны агні пажараў, запаленых ваярамі караля ўжо на непрыяцельскіх землях; яны гарэлі ў розных месцах вельмі ярка. Хоць заставалася яшчэ чатыры дні шляху да варожых зямель, аднак многія з каралеўскага войска, парушаючы вайсковыя правілы, насуперак загадам караля і князёў, самавольна адпраўляліся ўпотай у варожыя землі; яны руйнавалі іх рабаваннямі, забойствамі і падпаламі і прыносілі ўначы ў лагер аднятыя ў ворагаў выдатныя даспехі; днём жа яны не адважваліся гэта рабіць з асцярогі пакаранняў.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, АБВЯСЦІЎШЫ ПРА ЎМОВЫ МІРУ, ПАДЫМАЕ ДУХ СВАЙГО ВОЙСКА ВЕСТКАЙ ПРА НАБЛІЖЭННЕ ВОРАГА.

У суботу, у пяты дзень ліпеня, кароль Уладзіслаў стаў лагерам ля паселішча Яжова і там прыняў венгерскіх баронаў Мікалая дэ Гара і Сцыборыя са Сцыбожыц, якія заклікалі яго і вялікага князя Літвы Аляксандра пагадзіцца на мір і назваць яго ўмовы. Разам з імі прыбыў Георгій Керсдорф выведаць сілу і размяшчэнне войскаў караля і князя Аляксандра. У наступную ж нядзелю, якая прыйшлася на шостае ліпеня, польскі кароль Уладзіслаў пасля нарады з князем Аляксандрам і саветнікамі даў адказ на прапанову венгерскіх баронаў. Кароль сказаў, што яму ніколі не былі чужымі і далёкімі мірныя намеры; гэтак жа і зараз ён не адпрэчвае любога справядлівага міру, каб не прыйшлося праліваць крыві каталікоў. Але мір толькі тады будзе справядлівым, калі за Вялікім княствам Літоўскім застанецца цалкам яго старажытная і прыродная зямля Самагіцкая. Зямля ж Дабжанская, несправядліва занятая магістрам Прусіі і крыжакамі, будзе вернута каралю і каралеўству Польскаму. Што ж тычыцца нанесенай шкоды, то ён абяцае падпарадкавацца трацейскаму разгляду і рашэнню Жыгімонта, караля рымлян і Венгрыі. Венгерскія бароны былі задаволены і ўзрадаваны, спадзеючыся, што магістр і Ордэн крыжакоў ахвотна пагодзяцца на прапанаваныя ўмовы як найболей справядлівыя, і нават прынялі пачастунак каралеўскім абедам. Пасля абеду кароль зняўся лагерам і ў той жа дзень прыбыў да аднаго паселішча, размешчанага над ракой Вкрой. Аляксандр жа, вялікі князь Літвы, у гэты дзень займаўся пастраеннем літоўскага войска. Падзяліўшы яго па старадаўнім звычаі продкаў на кліны і харугвы, ён паставіў у кожным кліне ўсярэдзіну рыцараў на горшых конях ці недастаткова добра ўзброеных, якіх атачалі

[1] Генрых фон Плауэн быў комтурам у Свецы з 1407 г. да лістапада 1410 г., потым — магістрам Ордэна.

іншыя, на мацнейшых конях і выдатна ўзброеныя. Такія кліны, самкнутыя і скучаныя, не дапушчалі разрэджанасці шэрагаў, але адзін клін трымаўся паасобна ад другога на вялікай адлегласці. Напрыканцы вялікі князь Літвы Аляксандр прысвоіў гэтым клінам сорак сцягоў, якія мы завём харугвамі, і загадаў кожнаму кліну і атраду ісці пад сваім сцягам і падпарадкоўвацца свайму камандзіру. Уладзіслаў жа, польскі кароль, падняўся з венгерскімі баронамі на высокі ўзгорак, з якога можна было бачыць усё польскае і літоўскае войска, бо ніжэй на шырокай прасторы распасціраліся роўныя палі. Пад узгоркам яшчэ праходзіла літоўскае войска, ужо пабудаванае ў шэрагі, і згаданы сілезец Грыгорый Керсдорф уважлівым чынам ацэньваў, якой яно сілы. Акрамя таго, у той жа дзень па загаду караля быў пушчаны слых пра раптоўнае з’яўленне ворагаў, і ўсё каралеўскае войска стала ўзбройвацца, хоць не было ніякіх падстаў асцерагацца з’яўлення ворага. Кароль загадаў паведаміць гэту вестку войску і ўсхваляваць яго гэтым ілжывым слыхам, каб сіла польскага і літоўскага войска не саслабела ад свядомасці бяспекі, ад сну і бяздзейнасці, але каб, усякую гадзіну чакаючы з’яўлення ворагаў, яно стаяла заўсёды гатовае да адпору і бітвы.

### ВЯЛЬМОЖЫ КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАГА, І Ў АСАБЛІВАСЦІ АЛЬБЕРТ ЯСТШЭМБЕЦ, БІСКУП ПАЗНАНСКІ, НЕ ЎХВАЛЯЮЦЬ ЛЮТАСЦІ ТАТАРАЎ І ЛІТОЎЦАЎ.

У панядзелак, сёмага ліпеня, зняўшыся лагерам, Уладзіслаў, кароль Польшчы, прыбыў у паселішча Бендзіна, размешчанае над ракой Вкрой, і там стаяў лагерам два дні. Хоць гэта вобласць, якую абыходзіць і абцякае згаданая рака Вкра, належыць і належала раней княству Мазовіі, аднак ёю валодалі магістр Прусіі і крыжакі. Яна была закладзена за пяць тысяч марак шырокіх грошай князем Мазовіі Земавітам. Таму літоўцы і татары спусташалі гэту вобласць як варожую, з варварскай жорсткасцю забіваючы не толькі дарослых, але і падлеткаў і нават немаўлят, якія плакалі ў калысках. Іншых жа з іх маткамі яны сілком адводзілі ў палон, у свае намёты, як ворагаў і чужакоў, хоць усе жыхары гэтай вобласці былі людзьмі польскага племя і мовы. Маці толькі што забітых немаўлят прыходзілі да каралеўскага шатра з распушчанымі валасамі і з гучнымі крыкамі аплаквалі забойства сваіх дзяцей. Усхваляваныя гэтым, біскупы і польскія шляхціцы прыходзяць да караля з просьбамі і маленнямі, выступаючы са скаргамі у дачыненні як забітых, так і ўзятых у палон, з якімі абышліся больш сурова, чым дапушчальна па звычаях вайны. Просячы спыніць варварскую жорсткасць і вярнуць палонных іх родным, яны заяўляюць, што ў адваротным выпадку яны ўсе пакінуць ваенную службу і настолькі ганебны лагер, які, урэшце, чакае Божая адплата. Паслухаўшыся іх, Уладзіслаў, кароль Польшчы, з Аляксандрам, вялікім князем Літвы, загадалі (і гэта было правільна) вызваліць палонных і затым, сабраўшы іх усіх дакладным лікам да шатра біскупа пазнанскага Альберта Ястшэмбца, вярнуць родным і вызваліць. Акрамя таго, яны прызначылі смяротнае пакаранне за паўтор такіх жорсткасцей. Высокашаноўны ж ойча Альберт Ястшэмбец, пазнанскі біскуп, выйшаў са свайго шатра і міласціва дазволіў сабраць у ім жанчын і малых дзяцей і ўтрымоўваць на працягу наступнай ночы. Адсюль біскуп перастаў суправаджаць караля і з яго дазволу вярнуўся ў каралеўства Польскае.

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ СА СВАІМ ВОЙСКАМ, РАЗГАРНУЎШЫ СЦЯГІ, СА СЛЯЗАМІ ЎКЛЕНЧВАЕ ДА БОГА, УСКЛАДАЮЧЫ ВІНУ ЗА ВАЙНУ НА ВОРАГАЎ. КІРАВАННЕ ВОЙСКАМ ЁН ДАРУЧАЕ ЗІНДРАМУ З МАШКОВІЦ. АЛЯКСАНДР ЖА, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ, ЗАГАДВАЕ ПАВЕСІЦЬ ДВУХ ЛІТОЎЦАЎ, ЯКІЯ ЗДЗЕЙСНІЛІ ЗЛАЧЫНСТВА.**

У сераду, дзевятага ліпеня, выступіўшы з паселішча Бендзіна, войскі Уладзіслава, караля Польшчы, і Аляксандра, вялікага князя Літвы, пад іх шчаслівым кіраваннем дасягнулі варожых зямель і, з Божай дапамогай, прайшоўшы дзве мілі борам, прыбылі на роўнае месца нейкага поля, якое раскінулася далёка ва ўсе бакі. Тут упершыню былі раскрыты і разгорнуты з выключнай і асаблівай усеагульнай глыбокай павагай і засяроджанасцю вайсковыя сцягі, лікам восемдзесят два[1], як уласна каралеўскія і Аляксандра, вялікага князя Літвы, так і князёў Мазовіі Земавіта і Януша і шляхціцаў Польшчы. Кароль Польшчы Уладзіслаў, узяўшы вялікі сцяг, на якім па-майстэрску быў вытканы белы, з распасцёртымі крыламі і раскрытай дзюбай, увянчаны каронай арол, які з'яўляецца гербам усяго каралеўства Польскага, са слязамі на вачах прамовіў, разгортваючы яго, такую малітву: «Ты, найусяміласцівы Божа, якому вядомыя таямніцы ўсіх сэрцаў перш, чым іх задумваюць, ты бачыш з нябёсаў, што я пачаў сапраўдную вайну, якую і вяду, быўшы вымушаны да яе, і спадзяюся на дапамогу імя твайго і сына твайго Хрыста. Бо ўсімі магчымымі стараннямі, ахвярамі і хітрыкамі я прагнуў захаваць мір з усімі каталікамі і асабліва з крыжакамі, хоць за іх віну і за подлы і незаконны захоп зямель майго каралеўства я быў на іх моцна ўгневаны; але паколькі яны занядбалі мае законныя і справядлівыя ўмовы, я мяркую, што дамагуся міру ад гэтых ганарлівых і напышлівых сэрцаў толькі зброяй і жалезам. Такім чынам, у імя тваё, у абарону справядлівасці і народа майго разгортваю я гэту харугву. Ты, усёвідушчы Божа, будзь мне і народу майму міласцівым абаронцам і памагатым і не з маёй рукі спаганяй за пралітую кроў каталіцкую і за тую, якая яшчэ будзе праліта, але з рук ворагаў маіх, якія ўзбудзілі, паднялі вайну і сілкуюць яе». Гэту малітву, выказаную з такой набожнасцю і пакорай, кароль прамовіў настолькі гучна, што мноства рыцараў, якія стаялі вакол, маглі яе чуць, і яна выклікала слёзы ў вялікай частцы войска: можна было бачыць, што большасць аддалася рыданням і плачу. Падобную ж набожнасць выявілі і вялікі князь Літвы Аляксандр, і князі Мазовіі, і польская шляхта, разгортваючы свае сцягі. Калі сцягі былі распушчаны і разгорнуты, усё войска гучна заспявала айчынны гімн «Багародзіца»[2].

Усе чэхі і маравы, якія лічыліся дасведчанымі ў ваеннай справе, адмаўляліся ўзяць на сябе кіраўніцтва і распараджэнне каралеўскім і княжымі войскамі, з прычыны іх шматлікасці, і выконваць пасаду военачальніка з асцярогі, каб на іх галаву не ўпала адказнасць за няўдалы зыход кіраўніцтва. Тады кіраўніцтва і распараджэнне імі было даручана кракаўскаму мечніку Зіндраму з Машковіц, шляхетнаму вяльможу з роду, гербам якога быў малюнак сонца, чалавеку хоць і невялікага росту, але дзейнаму і натхнёнаму. Бо ніхто з чэхаў і маравaў, якія служылі ў караля, не лічыў сябе прыдатным для распараджэння і камандавання такім вялікім войскам. Такім чынам, распусціўшы сцягі на згаданай раўніне, кароль

[1] Нейкае непаразуменне. Ніжэй Длугаш сам пералічвае 51 польскі сцяг і паказвае лік 40 для літоўскіх сцягоў.

[2] Адзін з найстаражытных паэтычных рэлігійных твораў на польскай мове. Самая ранняя з копій, якая захавалася, датуецца 1407 г., але ўзнікла песня, відавочна, у XIII ст. «Гісторыя» Длугаша — адзіная крыніца, з якой стала вядомым, што «Багародзіца», відаць, была ў свой час польскім ваенным гімнам.

Уладзіслаў рушыў наперад і ў той жа дзень разбіў лагер паміж двух азёр (з іх адно завецца Тшчына, а другое — Хелст), каля горада Лютэрберга, ужо разрабаванага і спаленага яго войскам. У той жа дзень адбыўся новы і нечуваны выпадак: бачачы, што літоўцы і татары рабуюць цэрквы і здзяйсняюць варварскія гвалты над жанчынамі і дзяўчатамі, а пры рабаванні адной з цэркваў выкінулі з алтара святыя дары на пацеху і зганьбаванне, вяльможы і рыцары Польшчы з моцным болем у сэрцы і асцерагаючыся, што з-за такіх гнюснасцей і самі яны, і ўсё войска панясуць кару справядлівым Божым судом, прыходзяць з паўторнай скаргай да Уладзіслава, караля Польшчы, і Аляксандра, вялікага князя Літвы. Яны распавядаюць пра варварскія жорсткасці, заяўляючы, што ніякім чынам не патрываюць іх; і калі такія не будуць перапынены і пакараны належным чынам, яны не стануць пад сцягі, пакуль не здзейсніцца належная адплата. Разгарачаны іх крыкамі і рэзкімі нападкамі, кароль Уладзіслаў загадаў зрабіць найстрогі вышук рабаўнікоў цэркваў і апаганшчыкаў найсвятых дарункаў. Калі ж яму былі прадстаўлены двое літоўцаў, найболей вінаватых, то па загаду вялікага князя літоўскага Аляксандра іх прымусілі павесіць саміх сябе. Выконваючы загад князя Аляксандра, яны спачатку ставяць шыбеніцу, зробленую ўласнымі рукамі; затым без усякага прымусу ўзыходзяць на яе і, нарэшце, самі накідваюць сабе на шыі петлі. Пры гэтым адзін падганяе другога, які, здавалася яму, занадта марудзіць, хутчэй выканаць загад, пакуль гнеў князя не разгарэўся мацней. Усё войска бачыла гэта, і такі страх напаў пасля гэтага на ўсіх, што ніхто ўжо не адважваўся здзяйсняць гвалты ў цэрквах і распасціраць драпежную руку да царкоўных рэчаў. Бо як і ва ўсякі час, так асабліва тады, калі мае быць вайна, не належыць удзельнічаць у беззаконных дзеях; і варта не толькі ад вялікіх і агідных злачынстваў з вялікай дбайнасцю ачысціцца і адхіліцца, але нават і ад наймалых правін, каб Боская вялікасць, паласкавелая справядлівымі і праведнымі дзеямі, шчодра даравала шчаслівы зыход і жаданую перамогу.

**У ТОЙ ЧАС ЯК ПОЛЬСКАЕ ВОЙСКА СТАЯЛА ЛЯ ВОЗЕРА РУБКАВА, АБІРАЮЦЦА ВОСЕМ САВЕТНІКАЎ І ДВОЕ ПРАВАДНІКОЎ, [У ЗАДАЧУ] ЯКІХ УВАХОДЗІЛА ДАВАЦЬ ПАРАДЫ АБ УСІМ, ШТО ТЫЧЫЦЦА ВЯДЗЕННЯ ВАЙНЫ, І ПРА САМЫЯ ЗРУЧНЫЯ ШЛЯХІ.**

У чацвер, напярэдадні свята святой Маргарыты, якое прыйшлося на дзесяты дзень ліпеня, Уладзіслаў, кароль польскі, зняўшыся лагерам ад азёр ля горада Лютэрберга і раніцай, прайшоўшы яшчэ да расы дзве мілі, прыбыў да вялікага возера Рубкава, зблізку замка і горада Кужэнтніка, і стаў лагерам над возерам. Войска ж прускага магістра размясцілася станам недалёка ад каралеўскага лагера, за ракой Дрвенцай, абодва берагі якой крыжакі за шмат дзён да таго ўмацавалі частымі высокімі каламі, каб каралеўскае войска не магло перайсці раку. І вось некалькі польскіх рыцараў, даведаўшыся, што войска крыжакоў знаходзіцца зблізку, пад'язджаюць, каб іх падражніць, і, завалодаўшы пяццюдзесяццю варожымі конямі, якія стаялі на вадапоі на рацэ Дрвенцы, і скінуўшы іх коннікаў, цэлымі дасягаюць каралеўскага лагера. Убачыўшы іх, каралеўскае войска, якое падсілкоўвалася ежай ці адпачывала, вырашыўшы па знешнасці захопнікаў коней, што гэта ворагі, прыходзіць у моцны рух. Пакінуўшы сняданак, усе па ўласным пачыне ўзбройваюцца, напаўняючы паветра пылам, тым часам як сонца зверху паліла моцным жарам. Нарэшце, пазбавіўшыся ад марнага страху, войска супакоілася. З наступленнем жа вечара, калі жар сонца саслабеў, Уладзіслаў, кароль польскі, склікаўшы галоўных саветнікаў, абраў з іх толькі васьмярых, каб яны давалі парады пра ўвесь ход вайны (тады як іншыя

трымаліся б у сваіх намётах) і клапаціліся і распараджаліся ўсім неабходным. У іх руках павінна была знаходзіцца вышэйшая ўлада і права прымаць рашэнні на вайне. Такім чынам, ён абірае і прызначае першым з іх брата свайго, вялікага князя Літвы Аляксандра, а затым кракаўскага каштэляна Крысціна з Выспы[1] і Яна з Тарнова, ваяводу кракаўскага, Сендзівоя з Астрарога, ваяводу пазнанскага[2], Мікалая з Міхалова, ваяводу сандомежскага, Мікалая, плябана святога Фларыяна, падканцлера, Збігнева з Бжэзя, маршалка каралеўства Польскага, і Пятра Шафранца з Пясковай Скалы, кракаўскага падкаморыя[3]. Гэтыя васьмёра ў строгай таямніцы абмяркоўвалі і прызначалі ўсё неабходнае, а асабліва — указанні, якім менавіта шляхам ісці войску і ў якіх месцах на наступны дзень ставіць лагер. Былі запрошаны два правадыры, а менавіта Траян з Краснастава і Ян Грунвальд з Парчэва, абодва родам з Прусіі, якія добра ведалі там усе сцежкі, месцы і дарогі. Яны ўвесь час стаялі ля дзвярэй рады і дапушчаліся часам да яе, калі трэба было разважыць штосьці пра прывалы і пераходы на заўтрашні дзень. Акрамя таго, прадугледжана было і найстрога забаронена каму б там ні было з войска выступаць, пакуль не выступіць маршалак Польскага каралеўства Збігнеў з малым каралеўскім сцягам (інакш proporzec[4]). За ім павінны ісці ўсе, але ніхто не смеў выступаць наперадзе. Таксама не меў права ніхто ва ўсім войску трубіць, акрамя аднаго каралеўскага трубача, па першым гуку трубы якога перад світанкам ці досвіткам, ці ў які-небудзь іншы час войска паднімалася і ўзбройвалася; па другім жа гуку трубы сядлалі коней, а па трэцім — войска здымалася з месца і выступала за маршалкам, які ішоў наперадзе, і тым сцягам, пад якім знаходзілася.

Такім чынам, князь Аляксандр-Вітаўт, муж на рэдкасць дзейны, шляхам перамоў, роспытаў і нарад з сямю вышэйзгаданымі саветнікамі, звяртаючыся часам да праваднікоў і людзей, знаёмых з мясцовасцю, дапытваўся, якое месца назаўтра зойме войска для лагера, які самы бяспечны, кароткі і сухі шлях яно на наступны дзень абярэ, зняўшыся лагерам, і на якім знойдзецца зручны вадапой, паша і дастатак дроў.

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***

---

[1] Крысцін з Выспы быў каштэлянам кракаўскім у 1410—1430 гг.

[2] Сендзівой з Астрарога — ваявода пазнанскі ў 1401—1432 гг.

[3] Пётр Шафранец — падкаморый у 1406—1430 гг.

[4] Польск. proporzec азначае «сцяг».




# МАЙ

**1**

425 гадоў з дня нараджэння Слуцкай Соф'і (1585—1612), рэлігійнай дзеячкі, беларускай праваслаўнай святой.

**1**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Петрашкевіча Алеся (Аляксандра Лявонавіча), беларускага драматурга, празаіка, публіцыста, кінасцэнарыста, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

**6**

105 гадоў з дня нараджэння Гаўрука Юркі (Юрыя Паўлавіча; 1905—1979), беларускага перакладчыка, паэта, крытыка.

**6**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Цыпіса Навума Фроімавіча, беларускага празаіка, публіцыста.

**6**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Ліпскага Уладзіміра Сцяпанавіча, беларускага празаіка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**13**

105 гадоў з дня нараджэння Станюты Стэфаніі Міхайлаўны (1905—2000), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.

**15**

95 гадоў з дня нараджэння Палітыкі Дзмітрыя Антонавіча (1915—1965), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, паэта.

**15**

95 гадоў з дня нараджэння Уксусава Дзмітрыя Ільіча (1915—1989), беларускага празаіка, публіцыста. Пісаў на рускай мове.

**17**

165 гадоў з дня нараджэння Нікіфароўскага Мікалая Якаўлевіча (1845—1910), беларускага этнографа і фальклярыста, літаратара, педагога.

**18**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Чыквіна Яна Арцёмавіча, беларускага паэта, літаратуразнаўца, перакладчыка. Жыве ў Польшчы.

**20**

70 гадоў з дня нараджэння (1940—2009) Вяршыніна Міколы (Мікалая Пятровіча), беларускага паэта-сатырыка, гумарыста.

**22**

80 гадоў з дня нараджэння Цішчанкі Івана Кірылавіча (1930—2001), беларускага фалькларыста, літаратуразнаўца, крытыка.

**22**

75 гадоў з дня нараджэння Гаўрылкіна Леаніда Івანавіча (1935—1989), беларускага празаіка, драматурга.

**27**

110 гадоў з дня нараджэння Жылкі Уладзіміра Адамавіча (1900—1933), беларускага паэта, перакладчыка, крытыка.

**27**

75 гадоў з дня нараджэння Кудзінава Уладзіміра Георгіевіча (1935—1993), беларускага празаіка, перакладчыка.

**28**

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Аркуша Алеся (сапр. Козік Аляксандр Барысавіч), беларускага паэта, празаіка, крытыка, выдаўца.

**29**

40 гадоў таму (1970) быў створаны Бялыніцкі мастацкі музей імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі ў г. п. Бялынічы Магілёўскай вобласці.

Максім КЛІМКОВІЧ

# СТАРЫЯ ЛЮДЗІ РАСКАЗВАЮЦЬ, або ПРАЎДА Ў ДЭТАЛЯХ

Неяк апынуўся я ў начных прыцемках на Лысай Гары, той самай, пад якой пісьменніцкія лецішчы, дзе нябачна гаспадарыць літаратурны вядзьмак Францішак Лысагорскі. І не адзін апынуўся, а ў таварыстве маладых паэтаў. Прыехалі дзяўчаты і хлопцы, каб зладзіць нешта накшталт японскага свята любавання вішнёвай квеценню. Але ж Заслаўе на поўнач ад Мінска. І з усіх дрэваў на той выхадны дзень заквітнець паспела адно старая алыча на маім падворку. Вось і завіталі. Пасядзелі, памедытавалі, а як сцямнела, падаліся на гару, ну і мяне запрасілі. А месца там сапраўды містычнае. Нашы продкі гадоў з тысячу таму, не ведаю як, але ўсцягнулі на вяршыню агромністыя валуны і расклалі двума коламі-ахвярнікамі. Праўдзівае паганскае капішча.

Маладыя літаратары распалілі вогнішча. І, як заведзена ў паэтаў, пачынаецца чытанне ўласных вершаў па коле. Набліжаецца і мая чарга. Прыгадваю стары верлібр, у якім мой лірычны герой паліць перад люстрана-чорным акном, выдыхае ў шкло шызыя колцы і шкадуе, што ў свае дваццаць з нечым гадоў так і не навучыўся ствараць з цыгарэтнага дыму іншыя літары, толькі «О». І тут жа дадаю, каб паставіліся спагадліва: «Вершы пісаў толькі ў маладосці, вось і прыгадаў стары». Нехта з маладзёнаў па той бок вогнішча пытаецца: «Калі быў напісаны?» Адказваю. Чуецца ледзь не спалоханае: «Я ж тады яшчэ і блізка не нарадзіўся!» І ўсё. Адразу на ўзроставым накірунку — дыстанцыя. Я адчуваю, што імгненна са «свайго хлопца» ператвараюся для маладых паэтак і паэтаў у такога ж выкапня, як замшэлыя валуны вакол, на якіх продкі складалі крывавыя ахвяры паганскім багам. Я, той, хто ў думках па звычцы прылічвае сябе да маладзейшага пакалення літаратараў, знянацку ўсведамляю, што памятаю жывымі Янку Маўра і Піліпа Пестрака, школьнікам рукаўся з Рыгорам Шырмам, працаваў інжынерам у Доме літаратара за часамі старшынёўства ў СП БССР Максіма Танка...

«Дзяды», так мы, другое пакаленне насельнікаў Лысай Гары паважліва, але завочна, называлі ды называем суседзяў: Аляксандра Дракахруста, Івана Навуменку, Алеся Савіцкага, Браніслава Спрынчана, Валянціна Тараса, Карласа Шэрмана... Менавіта «дзяды», хоць паводле пакалення мы іх дзеці. Беларускія эпохі ў апошнія сто гадоў змяняюцца вельмі хутка — год за два. Ад іх, «дзядоў», мы чулі гісторыі пра тое, што было да вайны, у вайну, адразу пасля яе. І хоць большасць тых расказаных гісторый увайшла ў творы, і пісьменнікі апублікавалі свае ўспаміны, але менавіта ў вусных аповедах час ад часу гучаць дэталі, у якія немагчыма не паверыць, з іх жыўцом паўстае побыт. Нібыта сам пераносішся ў часе, прымерваеш сітуацыю на сябе. Ну хоць бы дэталька пра партызана, які з таварышамі знянацку завітаў у вёску на вяселле да сваякоў. Проста па дарозе з задання аказалася. І ў гэты ж час «з боку нявесты» ў госці наведаліся сваякі-паліцаі. У цяперашняй постмадэрновай літаратурнай традыцыі завязка жыццёвай фабулы відавочна мусіла б вырашыцца як беларускі рэмейк знакамітага фільма Квенціна Таранціны «Ад змяркання да світанку». Аднак жыццё — лепшы рэжысёр. У рэальнасці беларускія мсціўцы і карнікі хоць і не селі за адзін стол выпіваць, але ж без страляніны і смертазабойстваў раз'ехаліся ў розныя бакі, каб не псаваць людзям свята. Карацей, вырашылі дажыць хаця б да світанку.

Менавіта ў дэталях мінулага заўсёды хаваецца праўда. У іх верыш.

Нешта памятаецца і самому. Так, да нас «з давайны» і яшчэ ў 60-я прыходзіў саматужны майстра па рамонце мэблі Захар. Раз на колькі гадоў ён перацягваў нам старыя спружынныя канапы, мяняў у іх тонкія, як салома, габлюшкі. Іх тады выкарыстоўвалі так, як цяпер паралон. Сам Захар быў родам з Вязынкі. А таму, памятаючы, што мая бабуля добра ведала Купалу па даваенным сталічным жыцці, і завёў з ёй гаворку пра тое, што пясняр ніякі не селянін па паходжанні, а незаконнанароджаны сын тамтэйшага пана. Выклаў і забойчыя аргументы.

*«Па-першае: у нашай вёсцы так усе гавораць. Па-другое,* — ён нават выняў з шафы томік Купалы, разгарнуў і паказаў на фота анёлападобнага маленькага Яся Луцэвіча. — *Хто з сялян у такім узросце дзяцей фатаграфаваў?* — і дабіў: — *І не было ў сялян такіх грошай, каб сына выправіць у Пецярбург вучыцца. Ніякі ён не сялянскі сын, а самы сапраўдны шляхціц, з паноў!»*

Варта заўважыць, што Захар, насуперак завядзёнцы савецкіх часоў, не ўкладаў у гэтае слова адмоўнага сэнсу. Яму, як заходніку, наадварот, карцела, каб самы знакаміты савецкі беларус быў менавіта панскай крыві. На маю бабулю яго аргументы не дзейнічалі:

*«Не дурыце галавы. Купала не шляхціц».*

*«Чаму? А дзіцячы здымак? А піцерскі універсітэт? А стройчык-тройка на маладым студэнту? А панскія вусікі? Колас, той мужык, адразу відно. А вось Купала...»* — не згаджаўся Захар.

І тады бабуля прывяла забойчы аргумент:

*«Аднойчы Купала мяне ў гасцях на танец запрасіў. Так усе ногі мне і адтаптаў. І не п’яны ж быў. Таму ніякі ён не шляхціц».*

Гэта потым ужо я ў Караткевіча прачытаю пра тое, што «сапраўдны шляхціц ніколі з каня не ўпадзе. Ну, хіба, зусім п’яны». А тады пачуў жаноцкі варыянт гэтай сентэнцыі. І паверыў не Захару-саматужніку, а сваёй бабулі, бо праўда — яна заўсёды ў дэталях, у іх верыш.

Яшчэ памятаю, як прыходзілі да маёй бабулі яе даваенныя сяброўкі, такія ж пісьменніцкія ўдовы, як і яна. Найчасцей Бядуліха і Кацовічыха. Садзіліся за круглы столік, гулялі пад размовы-ўспаміны ў карты, у «дзевятку» ці «66». Ну, а гэтыя гульні ў ідэале вымагаюць чатырох удзельнікаў — дзве пары гульцоў, таму запрашалі і мяне малога. Кláліся карты, дзынькалі на спадачак сімвалічныя медзякі — ставілі ў банк па капейцы. Часам дзве госці пераходзілі ў размовах паміж сабой на ідыш, гэта каб мы з бабуляй не зразумелі, якія камбінацыі яны рыхтуюць нам у гульні.

Бабулі ўспаміналі даваеннае жыццё. Шкада, тады ў мяне не было дыктафона. Бядуліха, як пра нешта абыдзённае, што ўчора толькі і было, згадвала, як Бядуля жыў разам з Купалам у дамку на Рабкораўскім завулку ў Мінску. Гучала гэта прыкладна так.

*Адным разам Купала вярнуўся позна і крыху падпіты. Тады жонка — Уладзіслава Францаўна — узялася яго дакараць. Дзядзька Янка хацеў выбачыцца, абняць яе. Жанчына вырвалася, але Купала не кінуў спроб падлашчыцца, стаў ганяцца за ёй па хаце. Нарэшце Уладзіслава Францаўна ўскараскалася на самы верх драбінаў, што вялі на гарышча, і адбівалася чаравічкам, знятым проста з нагі. Вішчэла так, што Бядуля прыбег на дапамогу.*

Заўсёды, як бачу бронзавага Янку Купалу ў сталічным парку яго ж імя, згадваю гэтую пачутую ў дзяцінстве гісторыю. І робіцца святлей уваччу, бо разумею, што ў жыцці класіка былі не толькі вершы, БНР, БССР, адозвы ды змаганне за долю і волю, а і госці, чарка, танцы, спрэчкі з каханай жонкай. Карацей кажучы, нармальнае чалавечае жыццё. Тое, дзеля чаго, зрэшты, гэтыя БНР з БССР у ідэале і ствараліся.

А потым успаміны бабулек за картачным столікам пераходзілі да замілавання, таго, як яны ў 1930-я выпраўляліся па выхадных у цырульні рабіць укладкі з фрызурамі. І ўжо модна пастрыжаныя, з манікюрам і паліраванымі пазногцямі падаваліся ў ГУМ па закупы. Вось што згадвала пра тое мая бабуля:

*Жонка Змітрака Бядулі Мар’я Ісакаўна была «відная» жанчына. Статная, прыгожая, але вышэйшая на дзве галавы за мужа. Недзе за метр восемдзесят. Калі ёй і Бядулю даводзілася разам выходзіць на вуліцу, то стараліся ісці паасобку, так, каб розніца не кідалася людзям у вочы. Ну, і нага ў яе адпавядала росту — саракавы памер. Таму калі Мар’я Ісакаўна купляла абутак, то спачатку прасіла даць ёй памераць «трыццаць дзевяты», хоць загадзя ведала, што будзе замалы. І толькі потым, вяртаючы чаравік, прасіла прадаўшчыцу:*



Марыя Клімковіч. Канец 30-х гадоў.

*«Цяпер дайце, калі ласка, на памер больш». Ну не магла яна прымусіць сябе вымавіць на людзях: «Дайце мне саракавы памер»!*

Па даваенным і ваенным жыцці творчай інтэлігенцыі ў Мінску надрукавана даволі шмат праўдзівых твораў, успамінаў, дакументаў. Але ж у большасці гэта мужчынскі погляд на свет. Згадайма хаця б «Сцяг брыгады» А. Куляшова. Відаць, таму той час і бачыцца нам няспынннай чарадой з'ездаў, нарад, кар'ерных інтрыг, тэатральных і кінапрэм'ер, выхаду з друку кніг, рэпрэсій, калабарацыянізму, акцый партызан і падпольшчыкаў. Вядома ж, гэта ўсё было. Але існаваў і побыт. І менавіта жаночае вока выхоплівала яго дэталі. Па мне, набыццё новых чаравікаў Марыяй Ісакаўнай у 30-я — раўнапраўная дэталь жыцця беларускай інтэлігенцыі, а ў нечым больш жывая і шчырая, чым стэнаграма пісьменніцкага з'езда. Вось я і вырашыў перанесці на паперу і прапанаваць чытачам «Маладосці» некаторыя ўспаміны пра жыццё пісьменніцкіх сем'яў у 30—40-я гады мінулага стагоддзя. Нешта памятаю з расповедаў бабулі (**Марыі Язэпаўны**) і яе сяброўак, пра нешта распытаў цяпер сваю маці, **Маю Міхайлаўну Клімковіч,** і яе сяброўку **Рагнеду Мікалаеўну Раманоўскую** (дачку Кузьмы Чорнага).

Вось што згадвае пра даваеннае жыццё мая маці:

*Перад самай вайной бацьку (пісьменніку Міхасю Клімковічу) далі новую кватэру. Гэта быў так званы Дом спецыялістаў. Стаяў ён на Савецкай вуліцы — на Залатой Горцы. Жылі ў ім пісьменнікі, мастакі, артысты, кампазітары, дырэктары заводаў, фабрык. Карацей кажучы, вядучыя спецыялісты. Нашым суседам па пад'ездзе быў Віталь Вольскі. Могілкі знаходзіліся зусім блізка. Відаць, частку іх скапалі пры будаўніцтве дома. Таму крыжы стаялі проста на адным узроўні з нашым балконам на другім паверсе. Здавалася, працягнеш руку і кранеш іх. А ўнізе паміж домам і падпорнай сцяной могілак ішоў вузкі дваравы праезд для машын, якія прывозілі тавары ў магазіны нашага дома. Мы, дзеці, бегалі гуляць на могілкі, па надмагільных надпісах я практыкавалася чытаць па-польску. А на жалезных крыжах мы гушкаліся, як на арэлях. Вядома ж, не настаўнікі ў школе нас гэтаму вучылі. І, калі б бацькі дазналіся, мала б нам не было. Такім бокам давалася ў знакі — выходзіла з нас атэістычная школьная прапаганда, дзе нам разам з ведамі ўбівалі ў галовы і непавагу да рэлігіі. Для нас тады крыж быў не надмагіллем, а менавіта рэлігійным «шкодным» знакам. Жах, вядома, але так было.*

*Аднойчы я ўначы выйшла на кухню і жахнулася. На адчыненай фортачцы сядзеў вялізны пацук і свой лысы хвост звесіў проста да сярэдзіны вакна. А дом жа быў узведзены ў стылі канструктывізму, вокны агромністыя. Пацук мяне не спалохаўся, проста лянотна азірнуўся. Саскочыў тады, як на мой крык прыбеглі бацькі. Наш шматпавярховы дом узвялі на месцы драўляных хат. Іх знеслі, пацукі разбегліся, а потым вярнуліся ў новае жытло.*

*Бацькі хадзілі на службу, таму для хатніх спраў нанялі домработніцу. Клікалі яе Анюта, родам з Магілёўшчыны — з вёскі Доўгі Мох. І таму любіла дадаваць, што яна — «даўгамосьская». Маіх бацькоў яна нязменна называла, як ёй здавалася, пагарадскому, ды яшчэ на старарэжымны лад: «хаджаін» і «хаджайка». Колькі бацька яе не ўпрошваў так не рабіць, хаця б на людзях, не дапамагала. «А як трэба казаць?» — пыталася яна. На прапанову звяртацца Міхась Мікалаевіч і Марыя Язэпаўна Анюта нязменна адказвала: «Добра, хаджаін».*

*Неяк удзень, калі нікога апроч Анюты і маёй малой сястрычкі Святланы не было дома, прыйшлі тэлефаністы. Тады ў Мінску толькі адкрылі першую аўтаматычную тэлефонную станцыю. Яны і замянілі стары апарат з «ручкай», у які трэба было крычаць «барышня», на новы — з лічбавым наборам. Замянілі, нешта нашай Анюце патлумачылі і пайшлі. А ўначы кепска зрабілася Святлане, тэмпература пад сорак. Бацькі не ведаюць, як карэту «хуткай дапамогі» выклікаць, самі гэты тэлефон з дыскам першы раз у жыцці бачаць. Добра, што Віталь Вольскі дапамог, ён умеў ім карыстацца.*

*Тады ў Мінску адбывалася нямала рабаванняў. І вось неяк позна ўвечары ў нашу кватэру пазванілі. Маці пайшла адчыніць, добра, што здагадалася дзверы на ланцужок узяць. Аказалася — злодзеі. Маці крычыць, хоча зачыніць, а яны navaліліся і ў шчыліну кусачкі сунуць, каб ланцужок перакусіць. Бацька выскачыў з кабінета з пісталетам, у яго, як у члена ЦК, быў. Але ж ён зброяй карыстацца не ўмеў. У грамадзянскую вайну, як чалавек з адукацыяй, у штабе служыў. Тарганўў затвор, пісталет і рассыпаўся. Пакаціліся, заскакалі па передпакоі пружынкі, патроны. Добра, што злодзеі гэтага не паспелі згледзець. Яны, як толькі зброю ўбачылі, адразу кінуліся ўцякаць. Вядома ж, мы міліцыю выклікалі. Аказалася, што цэлая банда зладзюгаў атабарылася ў сутарэннях закінутага касцёла Святога Роха, што на Залатой Горцы. Іх усіх і арыштавалі.*

А вось што згадвае пра перадваенны побыт і першыя дні вайны Рагнеда Мікалаеўна Раманоўская.

*З мінскага жыцця памятаю, як яшчэ ў дзіцячы садок хадзіла. І дырэктаркай там у нас была Уладзіслава Францаўна — Купалава жонка. Я пасля вайны ў Купалаўскім музеі працавала. Яна зноў у мяне дырэктарам. Звалі мы яе і тады, і потым цёця Уладзя. А не так, як некаторыя цяпер пішуць — цётка. Бо цёткай можна чужую жанчыну называць. А яе толькі цёцяй клікалі.*

*Жылі мы з бацькамі недалёка ад вакзала, недалёка ад цяперашняга трамвайнага спуску па Ульянаўскай. Там быў праходны двор да Беларускай. Наш дом «Асветнік-камунар» называўся — два пад'езды на пяць паверхаў, а астатнія — на чатыры. Цяпер бы сказалі «каапэратыўны дом», а тады называўся «на паях». Жылі там у асноўным*



Мая Клімковіч. 40-я гады.

*настаўнікі, а з пісьменнікаў — мы, Чорныя, і Крапіва.*

*У гарадскіх дзяцей шмат розных гульняў было, не тое што цяпер. Лапта, хованкі, лічылкі розныя, з іх дапамогай мы дзяліліся на каманды. Адна лічылка нават на нямецкай мове. Бо ў нашым доме і нямецкая сям'я жыла. У іх было двое дзяцей — Сюзана і Бібша. Ці той немец ад фашыстаў уцёк, ці прыехаў па якіх справах? Не ведаю цяпер. Перад вайной яны некуды зніклі. Бацька тады на службу не хадзіў, пісаў. На літаратурнай працы, як пазначалі тады ў анкетах, быў. Ну і на грамадскіх пачатках літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў.*

*Да вайны Дом творчасці пісьменнікаў знаходзіўся недалёка ад Мар'інай Горкі. Гэта быў стары, відаць, яшчэ панскі драўляны сядзібны дом на паўтара паверха — з каменным цокалем. Наверсе — пакоі для пісьменнікаў, дзесяць ці пятнаццаць, ну і некалькі асобных дамкоў у парку. Звычайна пэўны пакой быў замацаваны за пэўнымі пісьменнікамі. Яны з году ў год там сяліліся. Улетку, вядома, адпачывалі ў асноўным пісьменніцкія сем'і разам з дзецьмі. Унізе, у каменным цокальным паверсе, кухня была і сталовая. Столь там — скляпенні. У Доме творчасці меўся свой конь — Лёнька. Яго*



Бежанцы вяртаюцца на Нямігу. Чэрвень 1941 г.

*ся — Эдуард Самуйлёнак з ёй ажаніўся. А ў апошні, ваенны год мы не паспелі ў Дом творчасці прыехаць, у чэрвені ўсё яшчэ заставаліся ў Мінску.*

*Нам пашанцавала, што наш дом разбамбілі адным з першых, іначай бы не выбраліся з горада. Раён пачалі бамбіць адразу — вакзал побач. У першы пад'езд, а мы жылі ў чацвёртым, трапіла, выбухнула бомба. Мужчыны пайшлі разбіраць завалы, каб дастаць засыпаных, забітых суседзяў. Тата з нейкім дзядзькам нагрэблі друз на насілы, толькі адышлі, каб скінуць, тут абвіслыя перакрыцці і абрынуліся. Тады ён і сказаў, што трэба адсюль сыходзіць. Другая бомба магла і ў наш пад'езд трапіць. А брат маці Барыс жыў у драўляным доме на Мопраўскай вуліцы, гэта за оперным тэатрам. Падаліся да яго. Неўзабаве пачалі і той раён бамбіць. Чуем выбухі: бліжэй, бліжэй... Думаем, наступны наш, але не: далей, далей. Мы моўчкі на падлозе сядзелі. Сусед з намі быў з дачушкай, то яна ў істэрыцы білася. Памятаю, як ёй вады давалі, то шклянка аб зубы калацілася. Але ж потым бабахнула ў самым сарайчыку, што да дому прымыкаў. Вырашылі: і адсюль трэба сыходзіць. Пайшлі праз бровар на Лагойскі тракт. Начавалі ў нейкім кустоўі, многа там людзей было. Над Мінскам ад пажараў на палову неба агонь. Другую ноч начавалі ўжо ў Мар'інай Горцы. Пусцілі нас у школу. Пакой нейкі, стаяў там бак з вадою, асобны ганак быў. І раптам прыбягае той, хто нас туды пусціў, і кажа: «Сыходзьце — дэсант». Насупраць гара, на ёй лес. Бачым, на схіле немцы: хто ўжо свой парашут скручвае, хто яшчэ падлятае, апускаецца. Мы па дарозе — на ўсход. На шашы шмат народу, жанчыны з клумкамі, дзеці. Прыбіліся да нас два хлопчыкі. Адзін крыху старэйшы, другі зусім малы. Ці то з лецішча якога яны ўцякалі, ці то з лагера піянерскага. У нас былі малако і хлеб. Мы хлопчыкаў накармілі. І тут нямецкі самалёт ляціць. Усе кінуліся ў жыта, а мы — па дарозе. Больш мы тых хлопчыкаў не бачылі, згубіліся яны ў*

*запрагалі, калі ездзілі на станцыю каго сустракаць. Чыгунка побач пралягала, адразу за бярэзнікам. На выхадныя да нас ужо бацькі-пісьменнікі стараліся прыязджаць. І мы, дзеці, выбягалі, глядзелі, ці не махае нам хто з бацькоў з цягніка, што побач праходзіць. У нас была свая кампанія з пісьменніцкіх дзяцей: я, Рэна Якімовіч, Мая Клімковіч, Гарык Вольскі... Аднойчы нечая бабуля вельмі на яго раззлавалася, а, шчыра кажучы, было за што. І вызверылася на Гарыка: «Гарыла!» Так гэтая мянушка за ім сярод нас і прыжылася. Я была атаманам «дзеўскай» каманды, а Гарыла — «хлопскай». Мы не тое што біліся, але так лічылася, нібыта варагуем. У тым маёнтку сад вялікі. І тут сабачка, што пры доме жыў, неяк здох. Вядома ж, мы вельмі шкадавалі. Гарык тады і прыдумаў, што трэба пахаваць яго ў садзе, куды нас па яблыкі не пускаў вартаўнік. Так і зрабілі. Потым на законных падставах хадзілі на сабачкаву магілку, ніхто нас ужо не спыняў. Рэчка была, купаліся, на лодцы плавалі. Мы там прападалі, як «вадзянікі» якія. Каля нашага берага быў пень, яго зрэз крыху-крыху хаваўся пад вадой. І нейкая дзеўчына з другога берага, з іншага дома адпачынку прыплывала, падоўгу сядзела на ім, мокрыя валасы распусціўшы, як тая русалка. І дасядзела-*

*натоўпе. Выйшлі нарэшце зноў да чыгункі. Там немцаў яшчэ не было. Далей ужо цягніком на ўсход ехалі...*

А вось што расказвала пра першыя дні вайны мая бабуля.

Яе муж Міхась напярэдадні вайны паехаў у Каўнас на сустрэчу з літоўскімі пісьменнікамі. Старэйшая дачка Мая — у Доме творчасці. А сама бабуля з малой Святланай і домработніцай Анютай засталіся ў Мінску. Калі па радыё абвясцілі, што пачалася вайна, панікі не было. У школе, дзе бабуля працавала завучам, сталі заклейваць вокны паперай, каб пры выбухах шкло не пасыпалася. Выносілі парты, ставілі ложкі, рыхтаваліся да паступлення параненых. Але нікога так і не прывезлі. Настаўнікаў зноў распусцілі па дамах. Пачаліся бамбёжкі. Ад іх хаваліся на каталіцкіх могілках на Залатой Горцы. Паніка пачалася, як гараджане згледзелі, што па Савецкай вуліцы, *«бы тыя чорныя жукі»,* адна за адной пасунуліся на ўсход урадавыя машыны. У горадзе падтрымліваць парадак засталася адно міліцыя. Сусед Віталь Вольскі супакоіў бабулю, паспеў паведаміць ёй, што едзе ў Дом творчасці, каб паклапаціцца пра пісьменніцкія сем'і, якія там адпачывалі.



*Кузьма Чорны з дачкой Рагнедай. Канец 30-х гадоў.*

Пры чарговым налёце бомба трапіла і ў Дом спецыялістаў. Але не выбухнула, захрасла паміж перакрыццямі пятага і чацвёртага паверхаў. Адразу сярод жыхароў дома, якія хаваліся на могілках, склалася версія, нібыта яе рабілі палонныя французы і замест traцілу залілі ў бомбу бетон. Так ці інакш, але жыць у кватэры, дзе над галавой у цябе вісіць неразарваная бомба, не станеш. Вырашылі забраць некаторыя рэчы і падавацца на ўсход. Але ў дом трапіць нельга. Каля дзвярэй стаяў міліцыянер, размахваў пісталетам і нікога не пускаў. Уратавала сітуацыю Анюта. Дзеўка яна была моцная. Проста схапіла міліцыянера за каршэнь і адкінула ўбок. Забегла ў кватэру і ўзяла для сваёй «хаджайкі» тое, што здавалася ёй самым каштоўным і неабходным для пешых уцёкаў са сталіцы: тонкую пасцельную бялізну, крышталёвы посуд, срэбныя сталовыя прыборы, чаравічкі на высокіх абцасах... Вось з такім багажом мая бабуля з малой дачкой і домработніца падаліся на Маскоўскую шашу. Здавалася, што ўвесь горад рушыў у дарогу. Усе ішлі, ехалі ў адзін бок. Праз колькі кіламетраў відэльцы і нажы папрапорвалі прасціны, з якіх звязалі хатулі. На асфальт пасыпаўся посуд. Амаль усё, што прыхапілі з сабой, давялося кінуць. Час ад часу над шашой нізка праляталі нямецкія самалёты. Здаралася, і стралялі, асабліва калі сярод уцекачоў сунуўся легкавік. Таму народ адразу ж кідаўся ў поле, у лес, хаваўся. Па калоне перадаваліся чуткі, нібыта недзе наперадзе бачылі варожы дэсант. Пад Смалявічамі на шашы з'явіліся нямецкія войскі, уцекачоў спынілі, сказалі, каб усе вярталіся па хатах. Бабулі давялося развітацца з домработніцай і паварочваць назад.

Дробныя пабытавыя дэталі. Але менавіта іх і бачылі тыя, хто ратаваўся ад вайны. Панарама ўзнікне пазней, складзецца з іх. А тады яны не ведалі, ці застануцца жывымі, ці ўбачаць калі-небудзь сваіх блізкіх і сяброў. Яны не ведалі, дзе ім наканавана знайсці часовы прытулак і паратунак. Лёс яшчэ звядзе іх усіх разам, зрэшты, яны вернуцца і ў вызвалены Мінск. А пакуль пакінем іх на дарогах вайны.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

Васіль ГУРСКІ

# ЮНАКІ БЯРУЦЬ У РУКІ ЗБРОЮ



Толя Рагалевіч пры кожнай сустрэчы з камісарам атрада імя Катоўскага Якавам Курушыным задаваў адно і тое ж пытанне: колькі ж яму падрастаць? Так і вайна хутка скончыцца, а ён зрабіў для вызвалення мала.

— Партызанам хачу стаць. З вінтоўкай знішчаць акупантаў.

— Пацярпі трохі. Мы стварaем новы партызанскі атрад. Возьмем цябе і тваіх сяброў у гэты атрад. На днях прышлю хлопцаў па цябе. Рыхтуйся.

Толя стаў рыхтаваць бацькоў да расстання.

— Я рашыў стаць партызанам, — цвёрда сказаў юнак.

— А мы? Нас жа расстраляюць як партызанскую сям'ю, як расстралялі матку Грышкі Караля, — бедаваў бацька.

— Калі захочуць, расстраляюць і без прычыны. Як расстралялі нявінных жыхароў Астраўка. З вёскі ж было мала партызан. Каля сямідзесяці чалавек спалілі жывымі. Я ў партызаны, а вы ў час блакады ў лесе хавайцеся.

— Можа, і твая праўда, — згадзіўся бацька. — Трэба ўсім брацца за зброю ды выганяць гэтае паскудства з нашай зямлі.

Праз некалькі дзён Курушын прыслаў да Рагалевіча камандзіра ўзвода Шамянкова.

— Пад тваю каманду не пайду: ты перада мной на каленях стаяць павінен і прасіць прабачэння перад вяскоўцамі. Яны ж ведаюць, што ты страляў ля самай маёй галавы. Помніш, смяльчак? Пад тваю дудку не стану танцаваць. Так і скажы камісару. Няхай прысылае каго другога.

Прайшло некалькі дзён, але ніхто па Толю не прыходзіў. Раніцай 5 сакавіка 1944 года ў вёску завітала група партызан атрада імя Фурманава. Толя падышоў да старшага групы Дзімы Астрэйкі з Пясочнага, з якім вучыўся да вайны ў школе, папрасіўся ў іхні атрад.

— Збірайся. Будзем ісці з задання ў атрад, возьмем.

Толя пабег да сяброў, запытаў, ці хочуць яны ісці ў партызаны. Сябры адказалі, што хочуць, але ў іх вінтовак няма.

— Без вінтовак не бяруць. Я ўжо прасіўся, — сказаў Міша Кароль. Гэтай жа думкі былі і астатнія.

— Не ваша справа. Я дагаваруся. Толькі ці хочаце вы? — звярнуўся Толя да Грышы Чыгіра і Івана Багдановіча.

— Хочам, хочам, — пачуліся галасы.

— Збірайцеся і заўтра прыходзьце да нас. Фурманаўцы будуць вяртацца з задання і зойдуць па мяне.

Назаўтра сябры трапілі ў атрад, які стаяў у лесе ля Свінкі.

— Зброю знойдзем. Нам часта скідваюць на парашутах. Пачысціце пакуль што бульбу на кухні, — сказаў камандзір атрада Мікалай Раслякоў. — Неўзабаве прыляціць самалёт.

Бывалыя партызаны атрымалі аўтаматы і кулямёты, а юнакі — іхнія вінтоўкі.

Для маладых хлопцаў пачалося партызанскае жыццё: буданы, новыя ўражанні, здзіўленне, асабліва ля кастроў.

Побач стаяў атрад імя Чапаева. Падышоў Толя да кастра. Не прывык яшчэ малады партызан сам пра сябе клапаціцца, ніяк у каляіну ляснога жыцця не ўвойдзе, усё клапатлівую мамку ўспамінае. Бывалым хлопцам хоць бы што. Сядзяць вакол вогнішча і то адзін, то другі скручваюць кашулю ці кальсоны, падымаюць над полымем. Завіхрыцца бялізна парасонам — і куслівыя паразіты асыпаюцца ў агонь. Прагледзеў складкі — і апрацоўка гатова. Хутка, зручна: не трэба вядро шукаць, ваду кіпяціць.

Да агню праціснуўся Мікалай Лісіцын, стаў побач з Толем.

— Чаму так высока трымаеце? Апускайце ніжэй, каб полымя ўсярэдзіне бушавала. Жарком іх, жарком выкурвайце! Вось так! Вось так іх, паразітаў!

Ён туга скруціў кашулю, трасе яе над самым полымем. Раптам агонь скокнуў уверх.

— Вой! — крыкнуў Мікалай і рвануў да сябе руку.

Кашуля гарыць. Толя кінуў яе на зямлю і топча нагамі. Некалькі партызан памагаюць тушыць.

— Жарком іх! Жарком! Выкурвай паразітаў! — рагочуць яны.

Лісіцыну не да смеху: паплёўся да раўчука мыць забруджаную кашулю, пасля зноў да вогнішча — сушыцца. На гэты раз асцярожнейшым стаў: збоку бялізну трымае.

— Полымя ўсярэдзіну пускай! — заходзяцца сябры ад смеху і падкідаюць ламачча. — Жарком іх, жарком выкурвай!

Агонь прыпякае, пара верне клубамі, кашуля хутка высыхае. Калі Мікалай надзеў яе, убачылі партызаны прапаленую дзірку, зноў жарты пасыпаліся ў адрас няўдачніка:

— Гляньце, браткі: пуза відаць! Цяпер тут вош не затрымаецца.

— Хітра прыдумаў — не быў бы Лісіцын!

— У портках прапалі дзіркі — будзе што фрыцам паказваць уцякаючы!

— Прыкусі свой доўгі язык! Як мянташка! — пакрыўджана сказаў Мікалай і пайшоў па іголку — не з труслівага ён дзесятка, каб ворагу паказваць спіну.

Рагалевіч смяецца разам з астатнімі хлопцамі. А куслівыя паразіты пачынаюць і яго трывожыць — прыйшлося пераймаць вопыт бывалых партызан.

Але горш за жывёльных паразітаў былі немцы і іх паслугачы, якія памагалі фашыстам наводзіць «новы парадак». З імі была больш складаная барацьба.

Толя і яго сябры неўзабаве атрымалі зброю, стаялі на пастах, хадзілі на заданні.

Вясной 1944 года на Уздзеншчыне атабарыўся батальён з былых ваеннапалонных татар. Ноччу яны пільна ахоўвалі сваё логавішча, днём адчувалі сябе больш вольна: рабілі набегі на вёскі, рабавалі сялян, гвалцілі дзяўчат, а пасля адпраўлялі іх у Германію, у рабства.

Партызаны рабілі на іх засады. У адной з іх былі падсадскія юнакі. Фурманаўцы залеглі ля дарогі Лоша — Валяр'яны. І дачакаліся хлопцы ворага. Чараду кароў гналі чорныя, як празвалі гэтых вылюдкаў сяляне. Камандзір роты ўбачыў, што татар было нямнога, і перадаў каманду:

— Не страляць, захапіць без шуму! (Блізка быў варожы гарнізон, які ў час стральбы мог хутка прымчацца на дапамогу.)

Уперадзе і па баках ехалі на конях верхавыя, за імі ішоў гурт кароў, ззаду з пугай чатыры конныя паганятыя.

Карнікі так блізка ля гарнізона днём не чакалі небяспекі. Калі партызаны ўсхапіліся з-за кустоў і наблізіліся імгненна да дарогі, нібы здранцвелі ад нечаканасці і разгубленасці і, пачуўшы: «Рукі ўгору!», тут жа паднялі рукі і спыніліся, бо абараняцца не было чым: карабіны матляліся за спінамі. Фурманаўцы пасцягвалі коннікаў з коней і абяззброілі, запыталі, адкуль гналі кароў.

— У вёсках ля Лошы, на пашы захапілі.

— А куды гналі?

— У Валяр'яны. Адтуль на машынах у Мінск адправілі б.

Адзін партызан убачыў прывязанае да сядла вядро, на дне якога бялела малако, і крыкнуў:

— Хлопцы, гэтыя хапуны кароў нават даілі. Ахвотнікі сырадою! Любяць малачко-о!

— Можам і вас пачаставаць цёпленькім, — сказаў адзін.

— Не забівайце толькі нас, — прасіўся другі.

— Карова не падпускае незнаёмага да вымя, — сказаў адзін партызан. — Я адной-

чы на пашы хацеў падаіць суседчыну, дык так стукнула нагой, ажно адкаціўся на метры два.

— Хай пакажуць, як яны дояць, — прапанаваў хтосьці. — Заадно свежага малачка паспытаем.

Камандзір роты ўсміхнуўся, яму самому цікава было ўбачыць незвычайную дойку, таму запытаў, хто хоча пачаставаць партызан малаком.

Выйшлі трое. Партызан даў аднаму з іх вядро. Адзін татарын зрабіў аркан і спрытна закінуў на рогі бліжэйшай каровы, падышоў да яе, змотваючы аркан, узяўся за рогі. Другі, з вядром, падыходзіў збоку. Карова вырывалася, падкідвала зад, старалася вырвацца з учэпістых рук. Тады трэці заарканіў заднія ногі. І карова сцішылася, зразумела, што вырвацца не зможа. З вядром падышоў да яе, нагнуўся, і струмені малака забарабанілі па дне вядра.

Партызаны ўсміхаліся, жартавалі:

— Ну і злыдні! Вопытныя, выходзіць, даяры! На ферму б іх!

— Хопіць! — крыкнуў камандзір роты. — Заварочвайце кароў! Ну, кароўкі, да гаспадынь нясіце сваё малачко! А мы будзем разбірацца з гэтымі даярамі!

Партызаны замахалі пугамі, адабранымі ў «пастухоў», і каровы памчаліся ў кусты: дарогу яны знойдуць дадому. З дарогі ў кусты павялі і палонных. Даяры сталі прасіцца, што немцы прымусілі іх служыць пад пагрозай смерці.

— Ёсць сярод вас немцы? — запытаў камандзір роты.

Такіх не аказалася.

— Вось бачыце, як вас немцы прымушалі. А прыгналі б вы кароў у партызанскую зону, і накармілі б вас, і напаілі б, і карабіны вярнулі б — разам знішчалі б акупантаў. Цяпер жа няма вам ніякага апраўдання. Адна дарога — у балота. Бягом! У балота, пярэваратні!

Затрашчалі стрэлы, і балота прыняло ў сваю твань гітлераўскіх памагатых.

* * *

Неўзабаве фурманаўцы са штаба брыгады імя Ракасоўскага атрымалі загад перабазіравацца ў Рудзенскі раён. Дабраліся туды без асаблівых прыгод, хаця пераходзілі ноччу, вядома, шашу Мінск — Слуцк. Яшчэ праходзіць некалькі дзён. Рагалевіч са сваімі сябрамі-землякамі рыхтуюцца сустракаць грузы з самалётаў. Выбралі паляну сярод кустоў, нанасілі галля на кастры, якія размяшчаліся за метраў пяцьдзесят па вуглах квадрата, і сталі чакаць каманды запальваць кастры.

Прайшло дзён тры, а самалёты не прылятаюць. На пасту юнакі з Падсадскіх — Толя Рагалевіч, Грыша Чыгір, Іван Багдановіч. Цёмная ноч, чуваць шоргат стомленых ног аб зямлю.

— Стой! Хто ідзе! — гукнуў Чыгір.

— Свае.

— Пропуск. Пароль, адным словам.

— Муха, — пачуўся адказ.

— Ваша «муха» ў павуковай сетцы даўно. І ножкамі не страпянулася. У нас сёння іншы пароль.

— Мы ж ужо тры дні як з лагера выйшлі. На заданне хадзілі. Эшалон узарвалі, таму і затрымаліся.

— Узарваны эшалон — не пароль для нас. Легчы на зямлю, зброю пакласці збоку, адпаўзці ад яе на тры метры ўправа, — камандуе Іван Багдановіч.

— Хлопцы, ці вы здурнелі? Свае ж мы.

— Ці свае, ці чужыя — будзе наш камандзір узвода Васіль Шкуракоў пазнаваць.

— І доўга нам ляжаць прыйдзецца?

— Да раніцы. Як змена паста з камандзірам прыйдзе сюды. Не варушыцца!

— Гэта ж фурманаўскі дзіцячы сад, — пачуўся голас аднаго падрыўніка.

— Маўчаць, а то страляць буду! — сказаў Чыгір і кляцнуў затворам.

— Гэтыя смаркатыя салдацікі выстраліць могуць, — пачуўся голас.

— Мы начальніку штаба скардзіцца будзем!

— Дазваляем. А цяпер ляжыце спакойна. Мы ж лагер ахоўваем.

Падрыўнікі разумелі, што навабранцы не могуць парушыць загад — без пропуска нікога не прапускаць. Таму змірыліся, што трэба ляжаць, нічога не зробіш. Яны сцішыліся, сюд-туд прыстуквалі надакучлівых камароў, якія збіраліся ўсё больш ля нерухомых фігур. Ужо цэлыя хмары кружыліся ля падрыўнікоў, лезлі ў твар.

— Малакасосы, дайце закурыць. Камары заядаюць.

— Мы не курым, — азваўся Рагалевіч. — Цярпіце. І нас заядаюць. Хутка змена прыйдзе.

Зноў наступіла цішыня. Толькі піскліві гул камароў і частыя пляканні далонямі па шчоках даносіліся да паставых. Яны ж падрыўнікам дапамагчы не маглі, самі адмахваліся ад нахабных насякомых.

Нарэшце пачуліся крокі змены. Камандзір пахваліў паставых за правільнае выкананне інструкцыі, а ў падрыўнікоў папрасіў прабачэння і павёў іх у лагер.

— Я вінаваты, што не папярэдзіў іх аб вашым вяртанні ў атрад з паролем «муха». А пра пільнасць, самі разумееце, заўжды помніць трэба. Вакол жа нас вораг, шпіёны снуюць, варожыя разведчыкі вакол лагера віжуюць, як камары надакучлівыя.

Сябры радаваліся, што камандзір узяў віну на сябе, і ганарыліся, што выканалі інструкцыю, падзяку нават атрымалі.

Прайшоў тыдзень. Падсадскія юнакі зноў дзяжураць на пляцоўцы для прыняцця з неба грузаў. Было каля дванаццаці гадзін ночы. У небе пачуўся гул самалёта. Старшына роты Сахманьюк, які быў за старшага, тут жа крыкнуў: «Падпальвайце хутчэй кастры!»

Юнакі выскачылі з часовага будана, падбеглі да куч ламачча, лінулі з бутэлек газы і чыркнулі запальніцамі, спецыяльна змайстраванымі для гэтай работы. І полымя ўміг шуганула ўвысь на ўсіх чатырох кастрах. Хлопцы пабеглі ў сваю хованку і чакалі парашутаў. Самалёт заўважыў сігнал, праляцеў пару кіламетраў, каб развярнуцца, стаў зніжацца. Люкі яго над кастрамі расчыніліся, штосьці выпала з іх, са свістам набліжалася да паляны. І раптам... побач з кастрамі пачуліся выбухі, над палянай засвісталі асколкі мін. Партызаны прыпалі да зямлі, здагадаліся, што іх знайшоў нямецкі патрульны разведчык, які высочваў стаянкі партызанскіх лагераў. А савецкі груз праз суткі прымаў другі атрад брыгады далёка ад гэтай пляцоўкі, каб абдурыць нямецкіх лётчыкаў, якія патрулявалі начное неба.

Сахманьюк павёў групу ў лагер, па дарозе заспакойваў хлопцаў, што заданне яны выканалі паспяхова. Усе радаваліся, што вяртаюцца ў лагер без страт.

Неўзабаве фурманаўцы зноў зрабілі начны пераход, на гэты раз у Дзяржынскі раён. Спыніліся ля вёскі Літавец, якая была спалена карнікамі разам з жыхарамі яшчэ ў 1942 годзе. Толя Рагалевіч з невялікай групай сяброў сустрэлі аднойчы адзінокага мужчыну, які ў той час цудам выратаваўся ад смерці. Ён сядзеў ля кастра ў латаным-пералатаным адзенні, пацікавіўся, што чуваць на свеце.

— Радасныя навіны, бацька: Чырвоная Армія наступае, хутка вызваліць Беларусь.

— Хутчэй бы, братцы. Змучыўся я чакаць вызвалення.

Мужчына кіем разгарнуў прысак і дастаў чатыры бульбіны.

— Давайце перакусім, хлопцы, — прапанаваў партызанам.

— Вам жа самому няма чаго есці, — сказаў Толя.

— Частуйцеся, дарагія, кожнаму па бульбіне будзе, і мне адна застанецца. Гэта вам гасцінец за добрую навіну. Два гады чакаў нашых чырвонаармейцаў. Магчыма, дачакаюся сёлета.

— Дачакаецеся! Чырвоная Армія набліжаецца да Мінска. А мы — да Дзяржынска. Яго вызваляць будзем... За бульбіну дзякуй вялікі. Не хочацца вас крыўдзіць, хаця і ў нас кішкі марша граюць: абоз з кухняй дзесьці затрымаўся, а мы ў бакавым дазоры.

Юнакі ўзяліся за гасцінец. Мізэрны ён, але адказаць селяніну няёмка: ад чыстага сэрца аддаваў сваю апошнюю порцыю за такую радасную доўгачаканую навіну. «Мінск вызваляць нашыя, а да Дзяржынска — рукой падаць. Партызаны ж туды рухаюцца. Разам спраўней будзе саўладаць з прышэльцамі», — думаў мужчына і сказаў прачула:

— Ачышчайце, хлопчыкі, нашу зямлю ад нячыстай сілы. Блаславаляю вас на пераможны бой. Хай Бог беражэ вас, як мне дапамог вызваліцца з кіпцюроў смерці.

Пакінулі хлопцы лясны прытулак мужчыны і з удзячнасцю будуць успамінаць яго, як роднага бацьку, які падзяліўся з імі небагатым сваім абедам — свой, выходзіць, чалавек, родны беларус, свая крывінка. З такімі людзьмі не прападуць беларускія партызаны. Тут кожны куст, кожная лагчынка ці пагорачак гатовы прыйсці на дапамогу, засцерагчы ад бяды, як частачку свайго цела, сваёй роднай прыроды. Не, не затрымацца тут чужакам, не прымае іх родная зямля і паветра, праклінае, жадае хутчэй ачысціцца ад ліхой навалы і свабодна ўздыхнуць на поўныя грудзі.

У канцы чэрвеня 1944 года брыгада імя Ракасоўскага № 200 сканцэнтравалася на ўзлеску на поўдзень ад станцыі Койданава. Камбрыг Мікалай Баранаў, камісар Пётр

Мартысюк і начальнік штаба Іван Ягораў выклікалі ў штаб брыгады камандаванне атрадаў — «25 год Кастрычніка» Іосіфа Апаровіча, Уладзіміра Гаваркоўскага, Марка Красоўскага, атрада імя Фурманава — Мікалая Раслякова, Андрэя Ігнатава, Івана Кулікова, атрада імя Чкалава — Сяргея Сундукова, Сяргея Пяткевіча, Мікалая Ішчанку, атрада імя Дзяржынскага — Якава Чарнякова, Адама Лапіцкага, Андрэя Мазнічэнку.

Камбрыг паведаміў:

— Брыгада імя Чапаева ўжо вызваліла Капыль, нашы суседзі, брыгада імя Варашылава, занялі Узду і абараняюць яе. Цяпер наша чарга — вызваліць Дзяржынск. Чырвоная Армія ўжо на падыходах да Мінска. Дапаможам ёй, перарэжам фашыстам шляхі адступлення на захад, хай здаюцца ў палон. У нашай брыгадзе больш за тысячу байцоў. Навалімся ўсёй сілай, перарэжам чыгунку і шашу, якія злучаюць варожыя тылы з Мінскам. Выступаем на світанні. Кожны атрад атрымае канкрэтнае заданне, іх удакладніць начальнік штаба. Думаю, што брыгада імя Ракасоўскага справіцца са сваёй задачай, як выканалі свае чапаеўцы і варашылаўцы. Праславім сябе і вызвалім жыхароў Дзяржынска ад фашысцкага ярма.

Пасля выступалі камандзіры атрадаў, камісары, начальнікі штабоў. Як змяніліся абставіны! Ад першых груп камуністаў, што прыйшлі на Беларусь з-за лініі фронту, да брыгад у кожным раёне па тысячы партызан. Іскаркі барацьбы, запаленыя ў 1941 годзе, разрасліся ў магутнае полымя ўсенароднай партызанскай барацьбы. Усенароднай! Гэтая барацьба замацуецца ў гісторыі, як Беларусь-партызанка!

Камісар брыгады Пётр Мартысюк прапанаваў правесці ў атрадах партыйныя і камсамольскія адкрытыя сходы, на іх павінны прысутнічаць усе байцы, жадаючых — прыняць на гэтых сходах у рады камуністаў і камсамольцаў.

— Тры гады, сябры, мы чакалі гэтага моманту, калі пойдзем у апошні наш партызанскі бой. Пакажам жа ўсю сваю храбрасць і нянавісць да акупантаў. Немцы дэмаралізаваны, але будуць супраціўляцца з усіх сіл. Камуністы і камсамольцы павінны быць у першых радах, натхняць сваім прыкладам на подзвігі астатніх байцоў. Уперад і толькі ўперад павінен імкнуцца кожны з нас. Тысячная армія ракасоўцаў зломіць супраціўленне ворага. Жадаю ўсім вам поспеху!

У атрадах прайшлі сходы-мітынгі. Бывалыя партызаны рваліся ў бой. Сярод іх былі ўжо ўзнагароджаныя ордэнамі і медалямі. Маладыя хлопцы і юнакі таксама кляліся дзейнічаць у баях смела, умела і рашуча. Магчыма, камандзіры заўважаць іх і адзначаць узнагародай. Твары маладых партызан свяцілелі ад упэўненасці ў сваіх сілах. Яны дакажуць бывалым партызанам, што не дарэмна ўзялі ў рукі зброю, што за нямногія месяцы знаходжання ў атрадах праніклісе духам гераізму беларускіх партызан, якія ўжо не раз грамілі варожыя гарнізоны. Юнакі чакалі каманды на штурм Дзяржынска...

## У РАЗВЕДЦЫ

Атрады пад камандай Піліпа Капусты зрабілі рэйд ад вытокаў Нёмана ў Ліпічанскую пушчу і сталі знішчаць акупантаў у Дзятлаўскім і Скідзельскім раёнах.

У чэрвені 1944 года група падрыўнікоў з атрада «Баявы» імя Дунаева вярталася з чыгункі Масты — Жалудок. Сярод іх крочыў падлетак Коля Чыкун з вёскі Зенькавічы Уздзенскага раёна. Яго твар свяціўся радасцю, вочы зіхацелі шчаслівым бляскам. Доўгі пераход стаміў маладога партызана, але ўзарваны эшалон дабавіў столькі бадзёрасці, што Коля не заўважаў стомленасці. Ён радасна ўзнаўляў усе дэталі паспяховай аперацыі і быў пад уздзеяннем выбуху, які бліснуў на імгненне, але выразна асвяціў і насып, і доўгі эшалон, і ўздыбленыя платформы з танкамі, адна з якіх старчма падымалася над зямлёй. Такое не знікае бясследна і не забываецца! У памяці фіксуецца навечна!

Уперадзе цямнелі невыразныя абрысы хутара і трох дрэў. Лёгкі вецер шавяліў маладое лісце высокіх бяроз каля хаты, шапацеў у кволай ярыне пры палявой дарозе.

На хутары забрахаў сабака: крокі партызан абудзілі яго. Сабака выскачыў з будкі, ланцуг зазвінеў, пасунуўся па дроце, спыніўся каля веснічак.

Камандзір групы Уладзімір Лазарчык выцер потны лоб рукой, насцярожана глянуў на поле — па ім дарожка выходзіла на гасцінец, які вёў у варожы гарнізон, ціха запытаў:

— Хто хоча ў разведку?

— Я, я, — сказалі Пётр Кузьмін і Платон Чуеўскі.

Трэцім азваўся Коля Чыкун.

Камандзір думаў, ці варта пасылаць падлетка ў разведку.

— Вазьміце мяне! — прасіўся Коля і падышоў да Кузьміна, які стаў неўзаметку апекуном кемлівага маладога партызана. Пятру падабалася смеласць, рашучасць, развага Чыкуна. Таму сказаў:

— Няхай ідзе і набіраецца вопыту.

— Будзьце асцярожнымі; засада можа быць на скрыжаванні. Заўважыце што падазронае — падайце і адпаўзайце ўправа, а мы вас прыкрыем, — папярэдзіў камандзір групы.

Напамінак пра ворага, які можа ляжаць у засадзе, працяў халадком Колева сэрца. Але падлетак адступаць не збіраўся. Не толькі таму, што сам напрасіўся. Жаданне пабыць у начной разведцы — асвойваць мудрасць партызанскай барацьбы — звала ўперад, перасільвала страх. Коля ціха паслаў патрон у патроннік, узяў карабін у руку. Успомнілася яму, як год назад быў таксама ў разведцы. Ён і Рамуаль Мархвіда ехалі на конях.

Быў сонечны дзень. Каля самага лесу пачыналася вялікая вёска. Разведчыкі панесліся па вуліцы.

— Стойце, хлопчыкі! Назад! Немцы тут! — пачуўся перапалоханы голас жанчыны, якая ўбачыла чырвоныя стужкі на шапках. Яна брала ваду са студні і здагадалася, што з лесу выехалі партызаны.

— Назад! — крыкнуў Мархвіда і крутнуў каня.

У канцы вуліцы застукаў кулямёт, кулі чмялямі засвісталі над галовамі.

— Коней не кідаць! На двор! — крыкнуў Мархвіда, прыпаў да грывы, галопам павярнуў на першы ж двор. Коля — за ім. Віхрам пранесліся разведчыкі да кустоў і схаваліся ад фашыстаў. Пазней Чыкун даведаўся, што гэта была не вёска, у якую збіраліся заехаць, а гарадскі пасёлак Чырвоная Слабада, дзе ў той час знаходзіўся фашысцкі гарнізон.

«У разведцы ўсяк бывае», — думаў падлетак і больш уважліва стаў прыглядацца да наваколля.

А на скрыжаванні ляжала фашысцкая засада. Афіцэр загадаў салдатам прапусціць разведку, калі будзе, і ўдарыць па асноўнай групе партызан.

Разведчыкі крочылі памалу, прыслухоўваліся да начных гукаў. З хутара ўсё яшчэ даносіўся сабачы брэх. Ззаду, каля чыгункі, трашчалі кулямётныя чэргі чыгуначнай аховы. Над гарнізонам у Жалудку ўзляталі ракеты, адтуль чуліся стрэлы — выбух на чыгунцы разварушыў ворага, прымусіў нервавацца.

Мясцовасць была адкрытая. Толькі зрэдку сустракаліся невысокія кусты ды цямнелі адзінокія валуны. Даводзілася падыходзіць да іх з асцярогай, запавольваць хаду, прыпыняцца, прыглядацца і прыслухоўвацца. З-пад ног разведчыкаў залапатала птушка. Малады партызан здагадаўся, што гэта, напэўна, жаваранак. Справа, з-за Мастоў, дакацілася водгулле далёкага выбуху — там таксама дзейнічалі партызаны.

Кузьмін ішоў першы. Коля — за ім. Ззаду — Чуеўскі.

Месяц блісне на імгненне ды зноў знікае за цёмнай хмарай, быццам хоча папярэдзіць хлопцаў, каб збочылі з палявой дарожкі, бо ўперадзе прытаіліся фашысты, чакаюць іх, прыціснуўшыся ў разорах да зямлі. Але разведчыкі, вядома, нічога не ведалі і не бачылі пакуль што. Набліжаліся да засады. Фашысты чулі брэх сабакі на хутары і здагадаліся, што падрыўнікі побач, набліжаюцца. Колькі іх? Малая група ці сотня? Яны таксама са страхам чакалі сустрэчы, бо ведалі, што партызаны бясстрашныя і проста не здаюцца смерці, а змагаюцца за жыццё да апошняга патрона, да апошняга дыхання. Многіх гітлераўцаў калацілі дрыжыкі, але трэба ляжаць, чакаць каманды на стральбу. Яны гатовы былі пастраляць здалёк, каб партызаны павярнулі ўбок і не набліжаліся да іх, але ж загад афіцэраў быў жорсткі: пачаць агонь толькі па камандзе.

— Кузьмін выйшаў на скрыжаванне, агледзеўся, але не заўважыў у цемры нічога падазронага. Ён ціха свіснуў і прыслухаўся, трымаючы палец на спускавым кручку, гатовы страляць. Навокал панавала цішыня. Толькі шапацела лісце адзінокай грушыдзічкі за метраў дзесяць ад дарогі. Коля ўбачыў камень на абочыне і накіраваўся туды.

— Ты куды? — запытаў Кузьмін.

— Пасяджу, пакуль хлопцы падыдуць.

А за гэтым каменем ляжалі два фашысты.

— Можна адпачыць хвілінку, — згадзіўся Кузьмін і пайшоў за Колем.

Гітлераўцы замерлі ў разорах, нецярпліва чакалі каманды страляць. Многіх ужо трэсла са страху: партызаны побач, ходзяць між імі. Афіцэру таксама не ляжалася за грушай, але ён чакаў падыходу асноўнай групы падрыўнікоў. Разгубіўся нават: адкрываць агонь ці прапусціць партызан, абстраляць іх ззаду — хай уцякаюць, а не кідаюцца ў схватку лоб у лоб.

Тут усё пачало адбывацца незапланавана.

Разведчыкі падышлі да валуна. Коля спыніўся, правёў рукой па камені. Ён быў шурпаты, сядзець на ім нязручна. «Лепш пасяджу на калодзе, — падумаў і ступіў колькі крокаў да яе. — Праверу, ці не гнілое палена часам», — мільганула думка. І Коля ступіў на палена.

Нешта мяккае, жывое здрыганулася, страсянулася пад цяжарам яго цела — і немы нялюдскі крык так вусцішна вырваўся з «калоды», што Коля адхапіў нагу, быццам наступіў на гадзюку ці ўсадзіў босую нагу ў распалены прысак, ступіў крок назад, пахіснуўся — не кожнаму найхрабрэйшаму асілку выпадала на долю такое нечаканае страшнае выпрабаванне.

«Калода» тут жа стрэліла. Чыкун ад успышкі заплюшчыў вочы, здрыгануўся ўсім целам, але ўтрымаўся на нагах.

«Вось дзе затаіўся фашыст!» — маланкай мільганула думка і выціснула з галавы страх. Злосць, страшэнная злосць бушавала ў галаве падлетка. І ён ва ўпор стрэліў у «калоду».

— Кладзіся! — крыкнуў Кузьмін. Ён убачыў каля каменя другога фашыста, які заварушыўся і ўскінуў вінтоўку, стрэліў у Чуеўскага, які падыходзіў да сяброў.

Кузьмін выпусціў вінтоўку і скокнуў на фашыста, схапіў таго за горла і сціснуў рукі з такой сілай, што пад імі штосьці хруснула. Падняўся, з агідай выцер пальцы аб штаны, быццам выняў рукі з кучы гною, падняў вінтоўку і стрэліў яшчэ ў фашыста.

Над дарогай засвісталі кулі. Коля Чыкун ляжаў каля забітага ім фашыста, цела якога яшчэ ўздрыгвала. Здавалася партызану, што салдат прытаіўся і зараз кінецца на яго — непрыемнае было суседства! Стрэлы ж нагадалі, што ідзе бой, што трэба абараняцца. Малады партызан паслаў патрон у патроннік, а затвор не закрываўся — туды трапіў пясок. Коля схапіў вінтоўку забітага салдата і страляў па камяніцы, адкуль несліся кулямётныя чэргі.

Падрыўнікі ішлі за метраў трыста ад разведчыкаў. Пры першых стрэлах яны залеглі і сталі страляць па засадзе, абстрэльвалі кулямётчыкаў і аўтаматчыкаў, каб не зачапіць разведчыкаў, у якіх былі вінтоўкі. Гітлераўцы трапілі пад перакрыжаваны агонь, але агрызаліся.

Коля выстраляў патроны, якія былі ў магазіне трафейнай вінтоўкі, падняўся на калені, перавярнуў салдата, каб расшпіліць яго рэмень і забраць патранташы з патронамі. У гэты час над скрыжаваннем успыхнула ракета.

— За камень! Галаву беражы! — крыкнуў Кузьмін і стрэліў у фашыста, якога ўбачыў пры святле ракеты. — Адыходзім! Паўзіце за мной!

— Ранены я, — прастагнаў Чуеўскі.

Кузьмін падпоўз да яго, дапамагаў рухацца. Разведчыкі адпаўзалі ад скрыжавання ўправа, як дамаўляліся. Не заўважылі нават, калі заціх варожы агонь. Фашысты зразумелі, што засада не ўдалася, сталі ўцякаць у гарнізон. Смеласць і знаходлівасць разведчыкаў сарвалі іхнія планы.

Падрыўнікі сабраліся разам. Яны даведаліся, што яшчэ адзін партызан быў паранены. Чуеўскі па дарозе ў лагер памёр. У Колі Чыкуна быў прастрэлены шынель.

Чыкун крочыў са сваім карабінам і трафейнай вінтоўкай — не хацеў аддаваць нікому. Ён быў стомлены, але задаволены: удзельнічаў ва ўзрыве эшалона, узяў ноччу верх над сваім страхам і асіліў у баявым паядынку фашыста. У лагеры да Колі падышоў камандзір атрада Якаў Грыцаневіч і не то сказаў, не то загадаў:

— Так трымаць і далей!

— Ёсць так трымаць! — цвёрда адказаў Коля. Па твары яго прабегла задаволеная ўсмешка.



Штрышок да партрэта вайны

Яўген АКСЯНОВІЧ

# ГОРКІЯ ВЫПРАБАВАННІ

## ШЛЯХ У НЯВОЛЮ

*У 5-м нумары часопіса «Маладосць» за мінулы год я расказаў чытачам пра падзеі падчас барацьбы партызан і насельніцтва Ушаччыны з фашысцкімі захопнікамі. Там мае ўспаміны заканчваліся эпізодам, як мы з таварышам уцякалі ад фашыстаў з вёскі ў лес, як нас абстрэльвалі немцы, як ад выбуху снарада мяне кантузіла і як мяне, непрытомнага, знайшоў нейкі дзядзька, які ехаў па лесе па сваіх справах. Ён і пасадзіў мяне да сябе ў фурманку.*



*Далёкі Усход, пас. Арцёмгрэс, май 1953 г.*

Невядома, як бы склаўся мой лёс, каб той дзядзька не прывёў мяне ў прытомнасць каля лясной дарогі паблізу вёскі Мар'янполле. Можа, карнікі, якія гналі калону жыхароў навакольных вёсак, мяне б не заўважылі, бо ляжаў, павалены выбухам, у нейкіх дваццаці-трыццаці метрах ад дарогі, а мо палічылі б за мерцвяка, якіх у той час шмат дзе ляжала, і хаваць іх не было каму? Хто ведае. Але здарылася тое, што здарылася — фурманку дзядзькі далучылі да калоны.

У першыя гадзіны я адчуваў сябе кепска. Вельмі балела левая рука, было млосна, у галаве шумела, я дрэнна чуў і быў абыякавы да таго, што рабілася навокал. Але паступова стан мой паляпшаўся, дзядзька напаіў мяне квасам, стаў распытваць, як я трапіў у той лясок. І я яму распавёў, як мяне фашысты адлучылі ад мамы з сёстрамі, як насіў нямецкую рацыю, як уцёк. А ён мне расказаў, што сам ён з вёскі Воцькавічы і ехаў да сваяка ў Селішча, каб пасадзіць бульбу, і вось папаўся фашыстам.

Лясок скончыўся, і калона выйшла ў поле. У галаве яе і ззаду было чалавек па пяць канвіраў і столькі ж прыкладна з абодвух бакоў. Сярод зняволеных былі людзі розных узростаў — ад немаўлят да сівых дзядоў і бабуль. Балюча было глядзець, як маленькія, двух-трохгадовыя дзеткі, трымаючыся за рукі матак, чапляючыся за іх спадніцы, знемагаючы ад спякоты і стомленасці, дыбалі маленькімі ножкамі па разбітай каляінамі дарозе. Але яны не плакалі. Яны проста кро-

чылі разам з мамамі, многія з якіх са сцятымі вуснамі неслі на руках сваіх немаўлят. Гора, роспач, непаразуменне, разгубленасць, што зваліліся на іх, былі такімі неверагоднымі, нечаканымі, недарэчнымі, што не ўкладваліся ў здаровы чалавечы сэнс, не ўсведамляліся як рэчаіснасць. Усё гэта адбывалася, быццам у кашмарным, жахлівым сне…

А канваіры з выглядам пераможцаў, быццам нічога не здарылася, з расшпіленымі гімнасцёркамі і закасанымі рукавамі малайцавата крочылі, час ад часу падганяючы знясіленых вокрыкамі «форвардс марш, шнелле, шнелле, русіш швайнес»… Праўда, таго бляску і самаўпэўненасці, як у 41-м годзе, у іх не было, калі яны трыумфальным маршам ішлі на Усход. І «Сталін капут» яны ўжо не крычалі, але чалавечнасці ў іх усё роўна не было — звяры засталіся звярамі.

Калона зняволеных расцягнулася метраў на 150—200, і па маіх падліках у ёй было 700—800 чалавек. Рухалася яна ў напрамку вёскі Селішча на Ушачы. Большасць вязняў ішла пешшу. Але было акрамя нашай яшчэ 7 ці 8 падвод. На двух з іх ехалі нямецкія вазніцы з правіянтам для канваіраў і з нарабаванай маёмасцю сялян, а на астатніх сяляне са сваім скарбам: відаць, тыя, хто паспеў запрэгчы коней і пагрузіць самае неабходнае ў час згону людзей. Па ўсім шляху траплябыліся спаленыя вёскі, перавернутыя калёсы, брычкі, трупы людзей і коней. Асабліва многа іх было каля вёскі Паперана. Відаць, тут ішлі жорсткія баі.

Ішлі мы паволі з хуткасцю не больш як 2—2,5 км у гадзіну, таму што сярод зняволеных было шмат дзяцей і старых. І як ні стараліся канваіры падганяць людзей, нічога не атрымлівалася. Гадзіны праз чатыры шляху фашыстам спатрэбілася падвода, на якой ехаў я з дзядзькам і куды мы яшчэ пасадзілі пяць ці шэсць зmoраных дзяцей. Немец падбег да нашага каня, выхапіў лейцы ў гаспадара і закрычаў на нас: «Вэг, вэг». Дзеткі саскочылі, злез і дзядзька, а я папрасіў немца пакінуць мяне на калёсах, бо быў яшчэ слабы ад кантузіі. Сабраўшы ўвесь свой слоўнікавы запас з нямецкай мовы, я сказаў, як мог, па-нямецку: «Пан салдат, я хворы і не магу ісці далей». — «А, — зароў салдат, — ду біст кранк?» — і нечакана перайшоў на рускую мову: «Іхь буду тэб’я лечыт». З гэтымі словамі ён рвануў з пляча «шмайсэр» і лязгнуў затворам. Ад гэтых слоў і ўбачаных здзекаў над людзьмі, ад лютай нянавісці да гэтых звяроў у чалавечым абліччы, ад усяго таго, што яны зрабілі нашай краіне, кроў ударыла мне ў твар, забілася ў скронях — я саскочыў з калёс і крыкнуў што было сілы забойцу: «Шыссен, ферфлюхтэр унтэрмэнш» (страляй, праклятыя вылюдак). Відаць, ад нечаканасці, што мясцовы хлопец выкрыкнуў яму ў твар лаянку на ягонай, нямецкай мове, фашыст аслупянеў. У яго адвісла ніжняя сківіца ад здзіўлення, ён вылупіў вочы і ўтаропіўся на мяне. У гэты час, зацікаўлены маёй лаянкай, да нас падышоў нямецкі афіцэр і сказаў салдату: «Рудольф, ду ман золь віссэн бэффэль: юнген ніхт шыссэн» (Рудольф, ты павінен ведаць загад: маладых не страляюць), на што той гаркнуў «яволь» і знік. Мы з дзядзькам зноў селі на воз, пасадзілі да сябе яшчэ дзетак і паехалі пацііху далей. Я доўга не мог апамятацца пасля гэтага выпадку. Перакошаны нянавісцю твар фашыста стаяў перад вачыма. Прайшло ўжо больш за 60 год з таго часу, але і цяпер усё бачу як у яве. Аднаго не мог уцяміць: чаму афіцэр напомніў салдату пра загад не страляць маладых? Няўжо фашысты клапаціліся, каб захаваць будучыню — маладое пакаленне беларусаў? Неяк не стасавалася гэта з рэчаіснасцю. Забягаючы наперад, скажу, што ўсё гэта я зразумеў пазней, калі трапіў у Германію: нашу моладзь яны берaглі не для нас, а для сябе — у якасці рабоў.

Ужо на змярканні нас прыгналі ва Ушачы і размясцілі нанач у вялікім цагляным напаўразбураным будынку, які стаяў прыкладна ў тым месцы, дзе цяпер размяшчаецца офіс райспажыўсаюза, райгаза і рэстаран. Што гэта быў за будынак, не ведаю, таму што ва Ушачах ніколі раней не быў. Нас, як жывёлу, загналі туды. Было дужа цесна. Хто, знямогшыся, заваліўся спаць на бітым цагеллі, а хто, як коні, спаў стоячы. Я прысеў на кучу нейкага смецця і імгненна заснуў. Прачнуўся гадзін у 6 раніцы ад бруднай лаянкі — гэта канваіры выганялі людзей, фарміравалі ў калону, каб гнаць нас далей — на Лепель. Таго дзядзькі — майго выратавальніка — я больш не ўбачыў, як і яго фурманкі. Можа, фашысты прымусілі везці іх рэчы, а можа, забілі, бо ён быў ужо немалады. Нас пагналі не самай кароткай дарогай на Лепель, цераз Жары, а кружной — цераз Старынку, Вялікія Дольцы, рэчку Тартак і далей каля

Пышна на Лепель. Чаму так — можна было толькі здагадвацца. Відаць, у раёне вёскі Жары — там навокал лясы — былі партызаны.

На другі дзень, паспаўшы на смецці, я стаў адчуваць сябе трохі лепш: паменшыўся шум у галаве, палепшыўся слых, бо я стаў ужо добра чуць гаворку, знікла дурнота пад грудзьмі, балела толькі рука. Ішлі мы паціху, як і ўчора, таму што было многа нямоглых, у большасці старых людзей. Ды і голад даваўся ў знакі. У некаторых было з сабой прыхоплена трохі ежы, і яны на хаду жавалі скарынкі, дзелячыся імі з суседзямі па калоне. А я апошні раз еў учора ў гадзін дзесяць у Мар'янполлі з нямецкай рацыяй за плячыма і таксама быў галодны. Але не гэта было галоўнай непрыемнасцю. Прыгнятала няволя, пакуты людзей, якія ішлі побач са мной. Асабліва цяжка было глядзець на пакуты дзяцей. Я ішоў, сцяўшы зубы, у роспачы ад немагчымасці дапамагчы людзям. Часам я парываўся кінуцца на канваіра, біць і душыць яго, але даводзілася заціскаць у сабе такія парывы, бо гэта нарабіла б людзям больш шкоды, чым карысці. Калі б можна было дамовіцца паміж сабой і кінуцца раптоўна на канваіраў, пабіць іх і вызваліць нявінных людзей... Але, на жаль, гэта было немагчыма. Даводзілася стрымліваць сябе, ісці і пакутаваць ад бяссілля…

Цераз гадзіну-другую пасля выхаду з Ушачаў у хвасце калоны час ад часу чуліся адзіночныя стрэлы. Спачатку я падумаў, што па канваірах страляюць з хмызняку партызаны, і ўзрадаваўся, што хутка пачнём разбягацца, але стрэлы нечакана змаўкалі на нейкі час, каб зноўку паўтарыцца. Хутка прыйшла разгадка, яе шэптам перадавалі адзін аднаму з хваста калоны: гэта фашысты прыстрэльвалі знясіленых хадой і голадам людзей, каб не прыпыняць рух. Усё проста і па-нямецку рацыянальна…

Позна ўвечары, гадзін, напэўна, у дзесяць, мы прыйшлі ў Лепель. Нас загналі ў нейкія доўгія пабудовы кшталту складоў без вокан і дазволілі легчы спаць. Я тут жа, як падкошаны, паваліўся на падлогу, бо сіл у мяне больш не было: перажытае, стомленасць, голад, наступствы кантузіі мяне канчаткова знясілілі. Каб яшчэ трэба было ісці, я ўжо не змог бы. Раніцай наступнага дня (7 мая 1944 года) да нас у барак прыйшлі немцы з паперамі, паставілі сталы і сталі па чарзе анкетаваць: прозвішча, імя, год нараджэння, нацыянальнасць і гэтак далей. А затым выдалі па 200 грамаў хлеба і літровую (з-пад кансерваў) бляшанку супу з вады і ячных круп, якія можна было злічыць паштучна. Гэта быў сутачны рацыён. Пражыўшы на такіх харчах тыдзень, я ўжо ледзьве хадзіў, а мой новы знаёмы, які спаў на падлозе побач са мной, хлопец з вёскі Бабынічы — Басак (імя не памятаю), наогул рухацца ўжо не мог. Кожную раніцу санітары выносілі з барака мерцвякоў. Трэба было шукаць выйсце, як выжыць. І я вырашыў прынізіцца і папрасіць для свайго таварыша хоць кавалачак хлеба, бо ён мог памерці. Раней я заўважыў, што сярод салдат, якія сцераглі нашы баракі, быў адзін пажылы немец. Я выбраў яго, бо прасіць хлеба ў маладых вартавых было небяспечна: выхаванцы «гітлер'югенда» нас за людзей не лічылі.

Дапільнаваўшы, калі пажылы салдат быў сам-насам, я ціха падышоў да яго і папрасіў па-нямецку: «Пан салдат, дайце мне, калі ласка, маленькі кавалачак хлеба, таму што мой таварыш вельмі хворы». Сказаўшы гэтыя словы, я сцяўся ў чаканні лаянкі і біцця. Аднак гэтага не здарылася. Салдат паглядзеў на мяне спачувальна і, адшпіліўшы дзягу, якой быў падперазаны, зняў з яе пляскаты, з накрыўкай салдацкі кацялок і працягнуў мне. Я ўзяў яго і пашыбаваў да ляжачага Басака. Зняўшы накрыўку, я падскочыў ад здзіўлення: кацялок быў амаль поўны тушанай капусты з мясам. Я пакарміў майго таварыша, сказаў яму, каб не еў адразу многа, таму што з голаду можна нашкодзіць здароўю. Ён крыху з'еў, а рэшту паклаў у свой слоік на потым. З'еў некалькі лыжак і я. Ніколі ў жыцці нічога смачнейшага, здавалася, не еў. Я ледзь стрымаў сябе, каб не зачэрпнуць яшчэ адну лыжку.

Калі я аднёс кацялок вартавому са словамі ўдзячнасці, ён сказаў: «Іхь кайн фашыст, іхь бін айн баўэр, іхь габэ цвай тохтэр унд айн зон» (я не фашыст, я селянін, у мяне дзве дачкі і сын). І яшчэ ён расказаў, што сын загінуў пад Сталінградам, і ён ненавідзіць фашыстаў, і папрасіў нікому не гаварыць пра нашу размову. Я сказаў, што ніколі нікому нічога не скажу, яшчэ раз падзякаваў і пайшоў у барак. Праз два дні знаёмы салдат зноў стаяў на варце і, убачыўшы мяне, паклікаў да сябе. На гэты раз я атрымаў не толькі кацялок, поўны грэцкай



*Я. Аксяновіч (справа) з сябрам каля в. Прылепы Бранскай вобл., 1949 г.*

кашы з тушонкай, а і больш за паўбохана хлеба. Прынёс усё гэта ў барак, частку кашы паклаў Басаку, крыху сабе, адрэзаў бляшанкай дзве лустачкі хлеба — сабе і таварышу, а астатняе — па лыжцы кашы і кавалачку хлеба — раздаў дзеткам, якія ляжалі побач з намі. Трэба сказаць, што гэты салдат яшчэ некалькі разоў прыносіў нам ежу і, лічу, ён выратаваў ад галоднай смерці дзесяткі два дзяцей. Высветлілася, што немцы таксама бываюць розныя.

Тыдні праз два, дзесьці 22 ці 23 мая (добра не памятаю) нас пашыхтавалі каля баракаў і па прозвішчах выклікалі больш за сотню чалавек. Потым нас пагрузілі ў аўтамашыны і павезлі на станцыю Бярэзіна, дзе пасадзілі ў вагоны вузкакалейнай чыгункі і прывезлі ў Мінск. Там на ўскрайку горада ў рэдкім саснячку быў пабудаваны лагер для зняволеных беларусаў. Умовы ўтрымання ў ім былі трохі лепшымі: у казармах мы спалі на двух’ярусных нарах, і кармілі нас двойчы ў суткі. Лагер быў вялікі, вязні падзяляліся на некалькі ўзростаў, і іх бясконца сартавалі: старэйшых адпраўлялі ў другі лагер, казалі, што ў Трасцянец, а маладзейшых — у Германію. У казарме мы ўладкаваліся таксама разам з Басаком. Ён быў не толькі старэйшы за мяне, можа, на год ці два, але і шырэйшы ў плячах, і вышэйшы за мяне, так што калі мясцовыя вязні за нейкую дробязь хацелі мяне пабіць, ён іх хутка супакоіў.

Нарэшце прыйшла чарга адпраўкі ў Германію і для нас. У сярэдзіне чэрвеня нас пагрузілі ў вагоны і прывезлі ва Усходнюю Прусію — горад Гогенштайн. Там мы прабылі ўсяго з тыдзень, і нас перавезлі ў Германію, горад Штаргарт. Нас патрымалі тут не больш як месяц і перавезлі ў канцлагер «Іоганніс-Бамберг», побач з горадам Болхен. Гэта паблізу граніцы з Францыяй, зямля «Эльзас-Латарынгія» — спрэчная тэрыторыя, якая на працягу многіх год не раз пераходзіла ад немцаў да французаў і наадварот. Па складзе гэта быў інтэрнацыянальны лагер: тут сядзелі не толькі рускія, але і югаславы (у асноўным сербы і харваты), балгары, чэхі, славакі, палякі, французы і іншыя, і нават немцы-антыфашысты. Дарэчы, умовы іх утрымання былі горшымі, чым для астатніх, асабліва пасля раскрыцця замаху на Гітлера.

Уся тэрыторыя лагера была падзелена на нацыянальныя зоны агароджамі з калючага дроту ў адзін рад, у адрозненне ад вонкавай шматраднай, узмоцненай дадатковай электратокавай агароджай. Таму здараліся выпадкі пераходу вязняў з зоны ў зону, а адказнасць за парадак у зонах была ўскладзена на нейкага жвавага фельдфебеля, якога нашы празвалі Марусяй і які бясконца сноўдаў па лагеру, караў парушальнікаў гумовай палкай. З ранку да вечара раздавалася яго лаянка: «Цурук, фэрфлюхтэ швайн» (назад, праклятая свіння). У нашай зоне старастам быў прызначаны кадравы афіцэр з ваеннапалонных — Собалеў Мікалай Васільевіч. Нельга сказаць, што ён быў вельмі жорсткім, але і спуску парушальнікам лагернага рэжыму не даваў. І нярэдка яны атрымлівалі ад яго спагнанні: мыццё падлогі без чаргі, чыстка прыбіральні і іншыя. Але самым цяжкім спагнаннем было пазбаўленне абеду,

таму што кармілі нас, як і ў Лепелі. Праўда, кармілі (ці, дакладней, паілі) тры разы: раніцай посны суп з бручкі без хлеба, у абед — той жа суп, 200 г эрзац-хлеба (дзе мукі — 50 працэнтаў, а астатняе — драўлянае пілавінне) і лыжка кашы з чачавіцы, а на вячэру — чай з сахарынам і адна галета вагой 20 грамаў.

Таму трапіць у нарад на кухню чысціць бручку было марай кожнага вязня. Але здаралася такое нячаста. Мне, напрыклад, удалося ўсяго два разы патрапіць у гэты рай. Там можна было наесціся бручкавага супу, як кажуць, «ад пуза», а часам чаго-небудзь лепшага з рацыёну другіх зон лагера. Будучы на кухні, я вырашыў узважыцца. Вагі пры маім росце 161 см паказалі 39 кг. Калі я сказаў пра гэта свайму лагернаму лекару, ён адказаў, што такая вага крытычная (дома я важыў 57 кг), пасля якой можа надысці галодная непрытомнасць. Так яно потым і здарылася, але ўсё па парадку.

У нашым блоку рускай зоны было каля 600 вязняў грамадзянскага насельніцтва (каля 400 у жаночым бараку і каля 200 у мужчынскім), усе ва ўзросце ад 18 да 30 год. Сюды час ад часу прыязджалі так званыя купцы: баўэры (сяляне), будаўнікі, гандляры, прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў — і набіралі рабочую сілу. Вязні імкнуліся да іх патрапіць, асабліва да баўэраў, але не ўсім шанцавала, бо купцы выбіралі толькі маладых і фізічна здаровых людзей, а такія, як я, не мелі поспеху. Да таго ж, другая палова 1944 года была маласпрыяльнай для бізнесу. Па-першае, на ўсходнім фронце немцы імкліва каціліся на Захад, па-другое, саюзнікі ў чэрвені адкрылі другі фронт, які цісnуў гітлераўцаў з захаду, па-трэцяе, замах на Гітлера ўзмацніў няўпэўненасць і нервовасць не толькі сярод палітыкаў, але і ў асяроддзі ахоўнікаў лагера.

У такіх умовах гандаль «жывым таварам» ішоў вяла. Праўда, не ўвесь час мы сядзелі за кратамі. Час ад часу нас выводзілі за калючы дрот, і мы чысцілі лес, які прымыкаў з захаду да лагера: зразалі сухія дрэвы, зграбалі ў кучы сучкі і смецце, прыбіралі пустазелле. Трэба адзначыць, што лес у немцаў заўсёды ўтрымліваецца ў ідэальным стане, як у гарадскім парку.

Акрамя нашага барака з грамадзянскімі вязнямі ў рускім сектары яшчэ быў блок ваеннапалонных. Тых нікуды не выводзілі, і «купцы» да іх не прыязджалі. Нам таксама не дазвалялася туды хадзіць. Кармілі іх, як і нас, таксама дрэнна, але на снеданне да бручкавага супу яшчэ давалі 100 г эрзац-хлеба.

З-за хранічнага недаядання я стаў слабець. А тут яшчэ фельдфебель Маруся застаў мяне за перамовамі з вязнем польскага сектара, які быў па суседству з намі. Мая радзіма — вёска Вялікае Сяло — была за нейкія тры кіламетры ад польскай граніцы (да 1939 года), што, канечне ж, не магло не адбіцца на мясцовым слэнгу. Таму ў лексіконе маёй вёскі было шмат паланізмаў. Вось я з тым палякам цераз дрот і абменьваўся навінамі, калі нас заўважыў Маруся. Ён тут жа выклікаў Собалева і загадаў яму пазбавіць мяне на два дні абеду. Трэба сказаць, што гэта мяне не вельмі засмуціла. Ад працяглага хранічнага голаду апетыт неяк прытупляўся, і мне здалося, што нічога страшнага ў гэтым няма. Але я памыліўся. Як даведаўся потым, ужо пасля вызвалення, ад сваіх таварышаў па нарах, на другі дзень без абеду я не падняўся на вячэрні чай. І санітары мяне, як і іншых, завезлі на тачцы на лагерныя могілкі і выкінулі ў траншэю. Траншэі для мерцвякоў капаліся экскаватарам. Туды на працягу дня і першай паловы ночы звазілі мёртвых, а пасля да раніцы экскаватар закідваў іх зямлёй. І так кожны дзень працаваў гэты канвеер. Колькі іх палягло ў гэтыя траншэі, дакладна, відаць, ніхто і ніколі не дазнаецца…

На другі дзень без абеду я паснедаў, як заўсёды, бручкавым супам, выйшаў у двор барака, пасядзеў з суседзямі, але мне зрабілася млосна, і я пайшоў на свае нары паляжаць — у нас такое дазвалялася. Лежачы, думаў пра тое, што ўжо з боку Саарлаўтэрна чуваць кананада і што, мабыць, вырвемся на волю, што сёння ўжо другі дзень галадоўкі, а заўтра я ўжо буду абедаць. Потым, відаць, задрамаў, і ўсё — больш нічога не памятаю. І калі пры штодзённым вячэрнім абходзе мяне знайшлі санітары, я быў ужо без прыкмет жыцця. Прафесіянальныя ўрачы заўважылі б, што чалавек проста страціў прытомнасць. А падобную работу выконвалі звычайныя магільшчыкі, і ім не было калі слухаць, ці б’ецца ў чалавека сэрца, ці дыхае ён — зграблі і ў тачку. Апрытомнеў я толькі ў прыцемках. Стаяла першая палова кастрычніка. Ночы былі

ўжо дастаткова халоднымі. Магчыма, гэта і дапамагло мне прачнуцца. Спачатку я не разумеў, дзе я, рукі мае былі свабоднымі, а на нагах ляжаў чалавек. Я абмацаў яго: халодны — значыць, мярцвяк. Здагадаўся, што я ў траншэі. Паціху за некалькі хвілін я вызваліў ногі і папоўз, не ведаючы куды. Праз некаторы час натрапіў на калючы дрот, зразумеў, што драцяная сцяна ўнутрылагерная, а не вонкавая. Паспрабаваў прыўзняць драціну — атрымалася. Падпоўз пад дротам — бачу сілуэт пабудовы. З апошніх сіл дапоўз да ганка барака, пагрукаў. Выйшаў чалавек, схіліўся нада мной і сказаў: «Добрэ дошлі». Ён узяў мяне на рукі, як ляльку, занёс у барак і паклаў на нары. Тут я зноў страціў прытомнасць.

Ужо потым я даведаўся, што патрапіў у югаслаўскую зону, а «добрэ дошлі» па-сербску — як беларускае «ласкава просім». Аказалася, што сярод палонных сербаў быў урач, які на другі дзень прывёў мяне ў прытомнасць, а сербы паступова паілі мяне гаючымі сокамі. Яны, у адрозненне ад нашых зняволеных, атрымлівалі пасылкі «Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца», ды і фашысты кармілі іх нашмат лепш, чым нас. Днём падчас праверкі сербы трымалі мяне пад нарамі. Тыдні за два яны паставілі мяне на ногі.

І тут грымнула вестка: фашысты з лагера збеглі, а нас вызвалілі войскі 3-й амерыканскай арміі. Было гэта 26 кастрычніка 1944 года. Пачалася агульная радасць. Людзі смяяліся, спявалі песні, абдымаліся, скакалі ад шчасця, свабодна хадзілі з адной зоны ў другую, на розных мовах выказвалі сваю ўсхваляванасць. Але ў гэтым была і небяспека. Маглі пачацца пагромы кухні, прадуктовых складоў, сховішчаў зброі і г. д. Таму старэйшыны зон, параіўшыся паміж сабой, выставілі ахову каля складоў і абвясцілі людзям, што да прыбыцця амерыканскай адміністрацыі трэба захоўваць спакой і парадак, за межы лагера не выходзіць. Гэта было разумна, таму ніхто супраць такіх патрабаванняў не выступаў.

## ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ

Вестка пра вызваленне мяне ўзрушыла, і я, пачуўшы новы прыліў радасці і сілы, вымушаны быў развітацца з сербамі і вярнуцца ў сваю зону. Яны прапаноўвалі мне пабыць у іх яшчэ некаторы час, каб паправіць здароўе, але дзе там — я рваўся да сваіх, і лепшым бальзамам для мяне была свабода. Таму я вельмі цёпла развітаўся з людзьмі, якія выратавалі мяне ад немінучай смерці. Гаварыў я з імі на сваёй, беларускай мове. Рускую мову я таксама ведаў, але пры хуткай гаворцы часта запінаўся, падшукваючы патрэбнае слова. І перакладчыкі нам былі не патрэбны. Так, скажам, па-беларуску «маці (ці матка)», па сербску «майка», па-нашаму «добра», па-іхняму «добрэ», па-нашаму «хата», па-іхняму «куча» і г. д. На развітанне сербы напіхалі мне ў кішэні ўсялякіх ласункаў… У нашай зоне мае суседзі па нарах доўга не маглі паверыць, што я жывы, нават абмацвалі мяне, каб пераканацца, што гэта не прывід, бо бачылі, як мяне павезлі ў траншэю, і паверылі толькі тады, як я выклаў ім сербскія пачастункі. На жаль, Басака са мной у той час ужо не было — нас разлучылі ў Гогенштайне.

Неўзабаве ў лагер прыйшлі амерыканскія афіцэры. Яны прызначылі нам новую адміністрацыю і сказалі, што цяпер мы лічымся не вязнямі, не палоннымі, а інтэрніраванымі, што цяпер мы свабодныя, але да адпраўкі на радзіму павінны выконваць правілы пражывання ў лагерах для інтэрніраваных. Гэтыя правілы на англійскай, нямецкай, рускай, французскай і італьянскай мовах былі вывешаны на плошчы лагера. Карміць цяпер нас сталі добра. Я ж першыя дні абмяжоўваў свой рацыён, бо ведаў, чым пагражае пераяданне.

Мне вельмі хацелася як мага хутчэй выйсці за калючы дрот, і, згодна з новымі правіламі, я ўзяў пісьмовы дазвол на выхад з лагера на 4 гадзіны і выйшаў за браму. Цяжка апісаць тыя пачуцці, якія авалодалі мной ад прадчування волі. І хоць на дварэ быў пахмурны восеньскі дзень, у душы, здавалася, спявалі салаўі. І мне падумалася: не можа ацаніць свабоду той, хто не праседзеў за кратамі. Мы з таварышамі — а было нас трое ці чацвёра — паблукалі па наваколлі, натрапілі на нейкую дарогу і пайшлі па ёй. Праз які кіламетр ці паўтара ўбачылі вёску, а перад ёй слуп з шыльдай «Нідэрвізэн». Дамы пераважна аднапавярховыя, старанна выбеленыя, з чырвонымі чарапічнымі дахамі, вакол чысціня і парадак, каля домікаў кветнікі, на агародах завіхаліся людзі — відаць, выкопвалі бульбу ці буракі.

Так мы блукалі з паўгадзіны, з цікавасцю аглядаючы наваколле, пакуль раптам да нас шпаркімі крокамі не падышоў нейкі чалавек у форме — мабыць, паліцэйскі. Спыніў нас і запытаўся: «Вогін зі коммен? Біттэ, зайне аусвайсен». (Адкуль вы ідзяце? Калі ласка, вашы дакументы.) Мы паказалі яму нашы паперкі, а я, з усіх трохі ведаючы нямецкую мову, сказаў яму, што нас два дні таму вызвалілі амерыканцы, што мы ідзём з лагера «Іоганніс-Бамберг» на прагулку, бо многа месяцаў адсядзелі за кратамі. Ён уважліва прагледзеў нашы «аусвайсы», казырнуў і адпусціў. Неўзабаве мы, поўныя новых прыемных уражанняў, вярнуліся ў лагер, павячэралі і, можа, упершыню за паўгода заснулі спакойным сном.

А 6 лістапада жыхароў рускай зоны пагрузілі ў «Студэбеккеры» і адвезлі спачатку ў французскі горад Туль, а затым, праз некалькі дзён, пад Парыж, у горад Ле Ман. Побач з горадам нас размясцілі ў салдацкіх казармах і растлумачылі, што нас адправяць на Радзіму, а пакуль яны (саюзныя войскі) адказваюць за нашу бяспеку. На наша пытанне: «Калі гэта будзе?» — адказалі, што яшчэ ідзе вайна, і паколькі дамоў нас можна адвезці толькі марскім шляхам, а ў моры шмат нямецкіх падлодак, то дакладную дату адпраўкі яны сказаць не могуць. Але цяпер наконт гэтага вядуцца кансультацыі з савецкім урадам, і час нашага вяртання на радзіму высветліцца пазней. І яшчэ дадалі, што хаця мы і з’яўляемся грамадзянамі СССР, тым не менш маем права змяніць грамадзянства і застацца на Захадзе ў любой краіне. Трэба толькі падаць заявы кіраўніцтву тых дзяржаў, дзе мы хочам жыць. Вядома, узнікла пытанне: ці многія з нас прымуць гэтыя прапановы? У мяне такой інфармацыі няма. Магу толькі меркаваць, што такіх было вельмі мала — адзінкі. Магчыма, гэта тыя, хто ў нейкай меры супрацоўнічаў з акупантамі, такія, як наш лагерны стараста Собалеў, хаця я не ведаю, ці падаваў ён такую заяву. З прыходам амерыканцаў ён знік з нашай зоны, і больш я яго не сустракаў.

Што датычыцца мяне, то ні пры якіх умовах я на Захадзе не застаўся б. Трэба сказаць, што за час знаходжання на Захадзе акрамя афіцыйных заяў адміністрацыі пра магчымасць застацца жыць у іх у нашым лагеры інтэрніраваных пад Ле Манам з’яўляліся і прыватныя вярбоўшчыкі з прапанo-




*Я. Аксяновіч (злева) з таварышам па службе. Бранская вобл., 1949 г.*

вай на жыццё. Але гэта былі ўжо не палітыкі, а звычайныя авантурысты ад бізнесу — шукальнікі дармавой працоўнай сілы….

Мы пражылі пад Ле Манам, знемагаючы ад тугі па дому, да сярэдзіны красавіка 1945 года. Нарэшце нас пасадзілі ў вагоны і павезлі на поўдзень да Міжземнага мора пад Марсель, і размясцілі ў палатках на пагорку, кіламетраў за дзесяць ад французскага порта…

Непадалёку ад нашага лагера на беразе Міжземнага мора знаходзіўся невялікі правінцыйны гарадок Марынань (Marignane). Ён быў увесь у зелені, цяністыя бульвары і паркі з утульнымі альтанкамі спрыялі мірнаму і лагоднаму жыццю. Аднойчы я са сваім суседам па ложку з Лепельскага раёна, якога звалі, здаецца, Мішам, блукаў па магазінах у Марынані. Зайшлі ў бістро, і ён заказаў нам па кілішку каньяку. Дарэчы, французскі каньяк зусім не падобны на наш: гэта цягучая вадкасць з нейкімі драбнюткімі бліскаўкамі, кшталту вельмі дробных крышталікаў слюды. Міша напярэдадні выганд-

ляваў некалькі франкаў за сувеніры. Выпілі каньяк і закусілі цукеркамі, сталі дзяліцца ўражаннямі пра звычаі жыцця французаў. Вядома, гаварылі мы на сваёй мове. І раптам да нашага століка падыходзіць немалады ўжо чалавек і вітаецца з намі на чыстай рускай мове. На нашыя здзіўленыя позіркі ён сказаў, што з'яўляецца эмігрантам і з'ехаў з Расіі яшчэ ў час рэвалюцыі, бо сяляне разрабавалі і спалілі сядзібу ягонага бацькі-памешчыка, і яны ўсёй сям'ёй эмігрыравалі (а вось з якой мясцовасці, не памятаю). Ён запрасіў нас наведаць яго дом, даў адрас. Мы паабяцалі ў наступны раз зайсці, але гэтага ў нас не атрымалася. Калі мы прайшлі ў лагер і расказалі сваім пра тую сустрэчу, то мой знаёмы па Ле Ману Валодзя Дубавенка (а можа, Дубаўцоў, дакладна не памятаю) сказаў, што ў нашым асяроддзі ёсць агенты савецкіх спецслужбаў і кантакты з эмігрантамі могуць нас скампраметаваць. Я запярэчыў, што ніякіх сакрэтаў таму эмігранту не выдаў, але перасцярогу прыняў і ў госці да эмігранта не пайшоў…

А тым часам нашаму чаканню прыйшоў канец. Здаецца, 16 мая нас завезлі ў марсельскі порт і пасадзілі на параход пад назвай Monowal. Гэта была другая значная падзея за апошні тыдзень. Першая — гэта Дзень Перамогі, 9 мая, калі фашысцкі рэжым у Германіі паў з поўнай капітуляцыяй. Было і радасна, і балюча. Радасна, што вылюдкі атрымалі па заслугах, а сумна ад страшэнных страт і ад таго, што не давялося напрыканцы вайны ўдзельнічаць у разгроме фашыстаў.

Мы ішлі па маршруце: Цірэнскае мора паўз Корсіку і Сардзінію, Месінскі праліў, паміж мацерыковай Італіяй і востравам Сіцылія, Іанічнае і Эгейскае моры, пралівы Дарданелы і Басфор, Чорнае мора, Адэса. Я выбраў месца на верхняй палубе і на працягу ўсяго трохсутачнага шляху не выходзіў з яе, любуючыся морам. Гэта было так незвычайна і захапляльна, што немагчыма было адарваць позірк ад марскіх прастораў, якія рэзаў сваім фарштэўнем параход.

Нарэшце, 20 ці 21 мая, прыйшлі ў Адэсу, сышлі з парахода, і нас строем павялі па горадзе да салдацкіх казарм і размясцілі проста на падлозе. Дні праз тры нас цягніком прывезлі ў Жытомірскую вобласць Украіны і паблізу вёскі Васькавічы Карастэньскага раёна залічылі ў вайсковую часць — 77-ы Запасны стралковы полк 21-й Запасной стралковай дывізіі. Гэтая часць месцілася на ўскрайку сасновага бору. У якасці казарм былі зямлянкі. Тут мы праходзілі праверку спецслужбамі «Смерш» Міністэрства бяспекі. У выніку праверкі былыя вязні дзяліліся на тры катэгорыі. Першая — з чыстымі біяграфіямі падчас знаходжання ў акупацыі і за мяжой. Тыя, хто трапляў у гэтую групу, залічваліся ў Савецкую Армію, прымалі прысягу і служылі да дэмабілізацыі. Другая катэгорыя — людзі з кампраматам, замешаныя ў супрацоўніцтве з немцамі або са спецслужбамі саюзнікаў — адпраўляліся на будоўлю альбо на ўранавыя руднікі. Трэцяя катэгорыя — ваенныя злачынцы, ваяваўшыя супраць сваёй краіны. Яны ішлі за краты.

Я прайшоў праверку дзесьці ў жніўні 1945 года, без заўваг, па першай катэгорыі, прыняў прысягу і быў прызваны на вайсковую службу спачатку ў 3-і Асобны Аэрадромна-будаўнічы полк. У чэрвені 1949 года на базе 3-га палка фарміруецца новы, 27-ы Асобны Аэрадромна-будаўнічы полк. Служыў на Украіне: Львоў, Шапятоўка (між іншым, радзіма пісьменніка Мікалая Астроўскага); у Бранскай вобласці на станцыі Сешчынская; у Беларусі (Стары Быхаў); на Далёкім Усходзе — пад Арцёмам і Уладзівастокам. Дэмабілізаваны ў лістападзе 1953 года.

Далей была вучоба ў сельскагаспадарчых тэхнікуме і акадэміі, а потым праца ў сельскай гаспадарцы… Маю ўзнагароды.



# ЗАЛАТЫ НАШ АЛЯКСЕЙ ГРЫШЫН

Дзень перамогі беларускага фрыстайліста **Аляксея ГРЫШЫНА** на Алімпіядзе ў Ванкуверы назаўсёды застанецца ў гісторыі. Гэта першая перамога суверэннага беларускага спорту на зімовых алімпіядах. І радаваліся гэтаму ўсе — і заўзятары, і тыя, хто пачуў пра гэта ў маршрутцы ад пасажыраў ці ў навінах ад журналістаў. Такім чынам, радасць і гонар за земляка аб'ядналі ўсіх нас.




Турнір лыжных акрабатаў на гары Сайпрэс стаў для нашых спартсменаў жорсткай, бязлітаснай бітвай з сапернікамі, якія рыхтаваліся 4 гады, з суддзямі, якія часта выстаўлялі адзнакі ў адпаведнасці з уласнымі інтарэсамі, а галоўнае — у проціборстве з нервовай напругай, якая была ўнутры нават у самых устойлівых.

Заўзятары спорту перажылі шок, калі ўладальнік Кубка свету і лідэр нашай каманды Антон Кушнір дапусціў першую і апошнюю памылку ў сезоне — праваліўся ў кваліфікацыі і нават не патрапіў у фінал. Але трэнеры абнадзейвалі: маўляў, не панікуйце, у нас яшчэ ёсць Дзмітрый Дашчынскі (4-ы ў кваліфікацыі), Аляксей Грышын (7-ы) і Цімафей Слівец (12-ы). Усе яны — прэтэндэнты на медалі. Хлопцы прыехалі змагацца і так проста не здадуцца.

## ПАЧАТАК КАР'ЕРЫ

Трэба сказаць, што фрыстайл у Беларусі не з'яўляецца масавым відам спорту. Ім займаюцца адзінкі. Вось і Аляксея Грышына бацькі спачатку аддалі ў секцыю гімнастыкі. Займаўся ён там год, але з-за пэўных праблем з рукамі не здолеў займацца гэтым відам спорту, хоць першы трэнер па гімнастыцы казаў: «Здольны, вельмі здольны, шкада, што ў гімнастыцы нічога не атрымаецца».

Тады бацькі выпадкова знайшлі аб'яву ў газеце пра набор у секцыю па фрыстайлу і аддалі сына туды. Першая сусветная ўзнагарода была на юнацкім чэмпіянаце свету ў 1992 годзе. Калі Аляксей выйграў гэты срэбны медаль, то адчуў смак перамогі і вырашыў, што гэта ягонае, што трэба займацца, дамагацца — і ўсё будзе.

У інтэрв'ю Грышын прызнаецца журналістам, што сваімі дасягненнямі шмат у чым абавязаны бацькам. Узгадвае, як у дзяцінстве бывала, што і ленаваўся, уцякаў з трэніровак. Бацькі даганялі і прыводзілі назад, і прымушалі, прымушалі, прымушалі… Аляксей лічыць, што ў першую чаргу ўсё залежыць ад бацькоў, ад таго, ці здолеюць яны ўтрымаць дзіця там, у зале,

ці прымусяць займацца. А калі пачнуцца нейкія спаборніцтвы, тады і дзіця адчуе смак. Калі яму гэта будзе цікава, яно зразумее, што гэтым трэба займацца. Калі не, то праз тры-чатыры гады дзіцёнак падрасце і зможа растлумачыць бацькам: не мае гэта, давайце я пайду займацца музыкай ці чымсьці іншым.

Сённяшні алімпійскі прызёр прыйшоў у спорт у 7 гадоў і ведаў толькі: фрыстайл — гэта горы, лыжы, і гэта вельмі цікава. Ніколі не бачыў такіх незвычайных чаравікоў, як гарналыжныя — яму было цікава на гэта паглядзець. Доўгія гады трэніровак, вера ў сябе дапамаглі яму дасягнуць найвышэйшага поспеху.

Цікава, што ў студзені 2009-га Аляксей Грышын распавёў газеце «Спортивная панорама» наступнае:

—Летась шмат хто пытаў, ці не час сыходзіць са спорту. А я адчуваю, што самыя важныя мае перамогі яшчэ наперадзе, што далёка не рэалізаваў яшчэ свой патэнцыял… А там і Алімпіяда ў Ванкуверы не за гарамі, дзе спадзяюся ажыццявіць мару любога спартсмена — падняцца на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару. А наогул разлічваю выступіць і на Гульнях у Сочы, якія ўяўляюцца асабліва прывабнымі, паколькі могуць разглядацца амаль як дамашнія. На іх асабліва хацелася б дамагчыся поспеху. Думаю, гэта рэальна, калі рыхтавацца з такой жа мэтанакіраванасцю, як сёння. На той момант мне будзе 34 гады.

Трэніруецца Аляксей Грышын пераважна за мяжой. Улетку спартсмены скачуць на ваду ў Швейцарыі, у паўгадзіне язды ад Цюрыха. Часам трэніруюцца і ў Мінску: скачкі на батуце, акрабатыка і лонжа — пояс са страхоўкай. На батуце выконваюцца гравітацыйна складаныя скачкі. Пакуль у нашай краіне, на жаль, няма той базы, на якой можна было б рыхтавацца.

**НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ДАСЯГНЕННІ АЛЯКСЕЯ ГРЫШЫНА:**

- **У 1999 годзе скончыў Рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву, становіцца срэбным прызёрам Кубка свету (г. Лівінья, Італія).**
- **З 1995 — спартсмен-інструктар Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь.**
- **У 2001 — чэмпіён свету па лыжнай акрабатыцы (г. Уістлер, Канада).**
- **У 2002 — бронзавы прызёр Зімовых алімпійскіх гульняў у Солт-Лейк-Сіці (ЗША), срэбны прызёр Кубка свету (г. Стынбоут, ЗША).**
- **У 2003 — срэбны прызёр чэмпіянату свету ў Солт-Лейк-Сіці (ЗША).**
- **У 2004 — бронзавы прызёр этапу Кубка свету (г. Турын, Італія).**
- **Акрамя таго, ён удзельнік Зімовых алімпійскіх гульняў 1998 (8-е месца), 2002 (бронзавы прызёр), 2006 (4-е месца) гадоў. Чэмпіён свету (2001), спартсмен года (2002).**
- **Цяпер у гэты шэраг стане і самы зыркі радок — алімпійскі чэмпіён 2010 года.**

## ШЛЯХ ДА ПЕРАМОГІ

Пасля першай спробы на Алімпіядзе ён быў другім, а фінальную другую выканаў так добра, што душа ў спартсмена проста разгарнулася: Аляксей радасна закрычаў, ускінуў рукі ўгару, а потым, упаўшы на снег, прыняўся біць кулакамі па зямлі. Ён зразумеў, што медаль будзе, а вось якой вартасці… Гэта павінен быў вырашыць скачок прамежкавага лідэра — канадца Кейла Нісэна. Пасля першага скачка ў яго была перавага над Аляксеем у шэсць балаў. Але ў Кейла ад створанага беларусам шэдэўра падкасіліся ногі, і суддзі змаглі «падарыць» яму толькі пятае месца. А гэта значыла, што Грышын — сапраўдны чэмпіён. На 1,2 бала (гэта вельмі мала) ён змог апярэдзіць амерыканца Петэрсана і на 6 балаў — кітайца Ліу. Трыумф беларускага фрыстайла адбыўся.

Аднак да гэтай перамогі былі доўгія гады трэніровак, спаборніцтваў і змаганняў.

У 2005 годзе Грышын быў бронзавым прызёрам чэмпіянату свету. Але пасля гэтага пайшоў плаўны спад. Заканамерная з’ява ў спорце. Прайшло нямала часу, ды і ў апошнія гады ён вельмі сур’ёзна займаўся, скінуў 15 кілаграмаў і паступова набыў

добрую форму. Да таго ж спартсмен быў апантаны мэтай перамагчы на Алімпіядзе і для гэтага рабіў усё, што ад яго патрабавалася. Перад Алімпіядай, кажа Аляксей, адчуваў сябе ў ідэальнай форме, а на саміх Гульнях выйшаў на яе пік.

Варта адзначыць, што ў выступленні ў Ванкуверы патройнае сальта з чатырма вінтамі ў спаборніцкую праграму Грышын уключыў упершыню, а гэта сведчыць пра азартнасць і рызыкоўнасць спартсмена. Дарэчы, ён з'яўляецца заўзятарам і іншых відаў спорту. Любіць футбол, хакей і вялікі тэніс. Стараецца не прапускаць ніводнай сур'ёзнай гульні, апантана перажывае за «нашых».

**БЛІЦ-АПЫТАННЕ**

• ***Любімая страва?***

**— Мучныя бліны з ікрой.**

• ***Любімая музыка?***

**— Аддаю перавагу ў музыцы накірунку рэлакс. Люблю песні гурта Enigma.**

• ***Любімы фільм?***

**— «Гладыятар», «Зялёная міля», «Уцёк з Шоушэнка».**

• ***Самае прыгожае віншаванне з перамогай?***

**— Самае прыгожае віншаванне было ў рэстаране, дзе мы адзначалі 8 Сакавіка. На талерцы для гарачага было напісана: «Дзякуй за перамогу». Прычым афіцыянты зрабілі ўсё спакойна, не напружваючы і не адцягваючы нашу ўвагу.**

• ***Ці скачаце ў сне?***

**— Так, вельмі часта. І нават часам лётаю.**

• ***Якое ў вас хобі?***

**— Люблю більярд, вельмі падабаецца боўлінг. Люблю хуткую язду на аўтамабілі. Часам гуляем з сябрамі ў покер.**

• ***Калі б не склалася кар'ера фрыстайліста, якому віду спорту вы хацелі б прысвяціць сваё жыццё?***

**— Фрыстайлу і толькі фрыстайлу.**

## ПЕРАМОЖЦУ СУСТРАКАЕ СЯМ'Я

Першыя, з кім Аляксей размаўляў пасля перамогі, былі яго родныя — бацькі і жонка. Тыя не спалі ўсю ноч, бо трансляцыя ў Беларусі прыходзілася на 4 гадзіны раніцы. Перажывалі ўсёй сям'ёй. А калі суддзі абвясцілі вынікі, радаваліся ўжо і родныя, і сябры, і суседзі… Дый што казаць — уся краіна. Грышын прызнаецца, што пасля Алімпіяды з віншаваннямі яму тэлефанавалі абсалютна незнаёмыя людзі. Яны дзякавалі за перамогу, за тое, што Беларусь стала першай.

Пра характар і нораў алімпійскага спартсмена распавядае яго жонка Ірына:

— Аляксей — прамы і адкрыты чалавек, гэта чыста мужчынскія рысы характару. Круціцца ён не будзе. Лёша — сапраўдны мужчына ва ўсіх адносінах. Ён і заляцацца ўмее, і кампліменты рабіць. Ён вельмі дамашні чалавек, выдатны сем'янін. Мне камфортна побач з ім не толькі як з каханым чалавекам, але і як з добрым сябрам.

З Аляксеем яны пазнаёміліся шэсць год таму на аўтамыйцы. Сустрэліся абсалютна выпадкова, але пасля таго ўвесь час разам.

— Вельмі важна, калі побач з табой ёсць чалавек, які можа падтрымаць, — кажа Ірына Грышына. — Калі спартсмен паказвае вынік, пра яго кажуць, а калі яго праследуюць няўдачы — забываюць. А я падтрымлівала як магла.

Апроч спорту Аляксей займаецца бізнесам — мае некалькі крамаў з морапрадуктамі. Ці застанецца ён у спорце, пакажа медыцынскае абследаванне. На сёння ў спартсмена дзевяць грыж, але фрыстайліст кажа, што адчувае сябе добра, таму цалкам верагодна, што мы ўбачым яго на Алімпіядзе ў Сочы.

## ФОРМУЛА ПОСПЕХУ АД АЛЯКСЕЯ ГРЫШЫНА

— Імкнуцца толькі наперад і па максімуме дасягаць мэты, якую чалавек ставіць перад сабой. У кожнага ўсё атрымаецца, у гэтым я ўпэўнены, бо не раз адчуваў на сабе. Я зразумеў: калі ў чалавека ёсць жаданне і імкненне, ён дасягне мэты, якую паставіў перад сабой.

***Дар'я ГУШТЫН***

*На здымку: Аляксей ГРЫШЫН.*

# «ГАЛОЎНАЯ МЭТА — СТАЦЬ САМАДАСТАТКОВЫМ»



***Дзянісу ФАМІЧЭЎСКАМУ ўсяго 24 гады, але ён не толькі паспеў скончыць БДУІР і папрацаваць па спецыяльнасці, але і стварыць інтэрнет-студыю дызайну Pix.by. Цяпер ён індывідуальны прадпрымальнік і займаецца распрацоўкай сайтаў і фірмовага стылю. Адмыслова для часопіса «Маладосць» ён прапанаваў свае парады па прамоцыі літаратурных часопісаў.***

**— Перш за ўсё, чаму ты вырашыў стаць індывідуальным прадпрымальнікам у такім маладым узросце?**

— Мне заўсёды хацелася рабіць нешта сваё. Я амаль ніколі не пагаджаўся з тым, што мне прапаноўвалі рабіць, бо разумеў, што можна зрабіць па-іншаму і, на мой погляд, лепей. Гэта атрымалася. Гады два назад з'явіўся дызайн-праект Pix.by. З таго часу склад удзельнікаў неаднаразова мяняўся, але ў выніку я стаў поўным уласнікам.

**— Якія паслугі можна атрымаць, звярнуўшыся да цябе?**

— Pix.by займаецца непасрэдна распрацоўкай сайтаў, дакладней, стварэннем сайтаў з нуля. Напрыклад, да мяне звяртаецца кліент, які жадае мець уласны сайт. Я задаю яму пэўныя пытанні, каб вызначыць, што ён хацеў бы мець на сваім сайце. Пасля прапаноўваю некалькі дапаўненняў, таму што часта людзі, далёкія ад інтэрнет-тэхналогій, проста гэтага не ведаюць. Я займаюся таксама рэдызайнам для сайтаў, якія патрабуюць перапрацоўкі ў сувязі, напрыклад, са зменай відаў дзейнасці прадпрыемства або зменай яго кіраўніцтва. Яшчэ адна з паслуг — распрацоўка фірмовага стылю кампаніі (візітоўкі, сімволіка, колеры) і суадноснай з ім рэкламнай прадукцыі (паштоўкі, асадкі, футболкі і іншае). Я адказваю не толькі за распрацоўку сайтаў, але і іх прамоцыю ў Інтэрнеце для пошукавых машын (СЕО-аптымізацыя). Гэта поўны комплекс паслуг: той, хто толькі што адкрыў сваю фірму, можа замовіць адразу візітоўкі, запрашальнікі, рэкламу ў Інтэрнеце (банеры) і офлайн (на білбордах), любую фірмовую прадукцыю (ад запальнічак да афармлення службовага транспарту). Кліенту прапаноўваецца некалькі варыянтаў фірмовага стылю, з якіх ён зацвярджае адзін, які і ажыццяўляецца.

**— Чаму такая назва — Pix.by?**

— Справа ў тым, што дызайн-студыя прайшла доўгі шлях у сваім развіцці, мяняліся ўсе людзі, акрамя мяне. Яшчэ ў школе з'явілася назва Іў-дызайн, пасля быў партал і спроба зарэгістраваць назву Экстра-дызайн, нарэшце, разам з двума сябрамі я стварыў К'юпэ-бай. Але паміж намі адбылася спрэчка, і толькі адзін з іх застаўся ў якасці калегі,

а я перайшоў у ранг аднаўласніка. Я ўвогуле лічу, што нельга адкрываць бізнес з сябрамі. Калі справа даходзіць да вялікіх прыбыткаў, а ўласнікаў некалькі, пачынаецца падзел грошай, размеркаванне адказнасці. Мне здаецца, што гэта павінна быць у адных руках, а ў іншым выпадку мусіць быць дакладна вызначана, хто які робіць унёсак і чым займаецца. Ідэя, як правіла, з'яўляецца ў аднаго чалавека, а рэалізуецца сумесна. Таму ў выніку той, хто ўнёс і грошы, і ідэю, часта аказваецца несправядліва абдзеленым. Працаваць лепш аднаму.

**— У цябе такі цікавы лагатып. Што на ім выяўлена?**

— Гэта выява японскага вусеня. Я хацеў мець нешта крэатыўнае, каб адрознівацца ад астатніх. На некаторых сайтах бачыш, напрыклад, зверху жоўтую палоску, пасля белы тэкст, а ўнізе чырвоную палоску — вось і ўвесь дызайн. Я вельмі люблю мультфільмы і стыль анімацыі, які прадугледжвае яркую графіку, выразныя лініі. Мне прапанавалі некалькі варыянтаў у такім стылі, і я звярнуўся за меркаваннем да калег і знаёмых, у выніку большасць выбрала вусеня.

**— У сваёй дзейнасці ты ўлічваеш меркаванне і парады іншых ці вырашаеш усё сам?**

— Залежыць ад таго, чаго гэта датычыцца. Я прыхільнік ідэі, што кожны павінен рабіць тое, што ён умее лепш за ўсё. Напрыклад, дызайнер ведае сваю справу, праграміст — сваю, а ўмяшальніцтва кіраўніка можа сапсаваць увесь праект.

**— Якія якасці павінен мець паспяховы прадпрымальнік?**

— Кіраўнік павінен наладзіць вельмі добрыя стасункі са сваімі работнікамі, каб яны, выконваючы праект, мелі адчуванне, што робяць гэта для сябе. Менавіта ў такім выпадку праца будзе выканана на вышэйшым узроўні.

**— Што трэба зрабіць, каб літаратурны часопіс быў папулярным?**

— У першую чаргу — прыцягваць увагу грамадскасці. Можна, напрыклад, завесці літаратурны блог і выкладваць там цікавыя артыкулы, бо моладзь чытае звычайна онлайн. Папяровыя часопісы чытаюць звычайна людзі старэйшага ўзросту. Папулярнасцю ў прадстаўнікоў пэўных сацыяльных груп карыстаюцца таксама вузкаспецыялізаваныя выданні. Я, напрыклад, чытаю часопіс «Форбс», які ёсць і ў Інтэрнэце, але мне больш падабаецца папяровы варыянт. Зараз больш за ўсё чытаюцца «папсовыя» глянцавыя часопісы для мужчын і жанчын. Элітарную літаратуру чытае вузкае кола людзей. Да таго ж, многія проста не ведаюць, якія часопісы ў нас выдаюцца і якія культурныя мерапрыемствы праводзяцца. Хацелася б звярнуць увагу на праблему інфармавання.

**— Думаеш, Інтэрнет можа вырашыць гэтую праблему?**

— Часткова так. Напрыклад, у сацыяльных сетках можна ствараць тэматычныя групы, запрашаць да ўдзелу ў мерапрыемствах. Ёсць форумы, на якіх стасуецца моладзь пэўнага ўзросту. Ёй было б цікава наведаць спектакль ці даведацца пра нейкі выступ. Можна дамовіцца з адміністратарам такога форума і размяшчаць там свае абвесткі і артыкулы.

**— З аднаго боку, ты ўзгадаў пра размяшчэнне артыкулаў на блогу ў Інтэрнэце, але там можна лёгка іх спампаваць і скапіраваць. Тады навошта купляць папяровы варыянт? Але ты таксама сказаў, што сам любіш чытаць «сапраўдныя» часопісы.**

— Тое, што можна спампаваць літаратуру, не азначае, што яе прачытаюць. На гэта, напрыклад, у мяне проста няма часу. А выкладваць можна невялікія анонсы нумароў ці анатацыі, каб завабіць чытачоў і матываваць для пакупкі. Ідэя недаказанасці добра і шырока выкарыстоўваецца «папсовымі» сайтамі, якія падбіраюць пэўныя словы і такім чынам заахвочваюць наведвальнікаў. Але для літаратурнага часопіса патрэбна іншая стратэгія: трэба выкладваць сапраўды цікавыя поўныя звесткі, каб з'явілася жаданне купіць часопіс або прачытаць яго на сайце і набыць наступны нумар.

Абавязковай умовай для капіравання з'яўляецца спасылка на першакрыніцу. Таму

калі ў Інтэрнэце вашы артыкулы будуць карыснымі і колькасць спасылак на сайт будзе павялічвацца, то ў пошуках новых артыкулаў будуць ісці менавіта да вас. Гэта рэклама, якая робіць сябе сама, да таго ж, магчымасць спампаваць офлайн-версію мае перавагу ў тым, што там будзе напісаны ваш адрас і іншая інфармацыя. Калі часопіс будзе цікавы чытачу, яго онлайн-версія будзе распаўсюджвацца значна хутчэй і трапіць большай колькасці чытачоў.

Думаю, што часопіс павінен быць даступным, каб можна было яго знайсці ў кожным кіёску Белсаюздруку.

**— Чым ты займаешся ў вольны час?**

— Проста адпачываю. Тэлевізар гляджу рэдка, таму што ён разлічаны на масавага гледача. Люблю прыгатаваць нешта і паглядзець мультфільмы на камп'ютэры. Бывае, падчас такога прагляду ў мяне з'яўляецца пэўная ідэя, і я выключаю мультфільм і пачынаю працаваць. Тое ж бывае і на вуліцы: напрыклад, я заўважаю цікавую рэкламу і раблю выснову. У мяне на тэлефоне ёсць нават праграма, каб сфатаграфаваць, зрабіць відэа- ці аўдыёзапіс ідэі. У часопісе «Форбс» таксама ёсць цікавыя думкі. Я шукаю сутнасць, таму што, як вядома, выказаная ідэя ўжо некім была рэалізаваная.

**— Як наконт аўтарскіх правоў? Ці былі ў цябе выпадкі «скрадвання» ідэі?**

— Было і такое. Пажадана, калі ёсць сродкі, абараняць свае ідэі. Той жа дамен можна зарэгістраваць гэтак жа, як і спалучэнне словаў. У нас ёсць некалькі ніш, назвы ў якіх, напрыклад, у забаўляльнай, камп'ютэрнай сферы, могуць выкарыстоўвацца многімі. Некалі мы хацелі зарэгістраваць гандлёвую марку «Экстра» ў напісанні вялікімі літарамі праз літару «ікс». Аказалася, што мноства прадуктаў ужо выкарыстоўвалі менавіта такое напісанне. Гэта не крадзёж, проста так зручней пісаць гэтае слова. Самая лепшая тактыка для абароны ідэі — не расказваць пра яе нікому да яе ажыццяўлення. Праўда, у нас быў выпадак, калі нават гэта не дапамагло. Некалькі гадоў таму мы вынайшлі сістэму блогаў з шаблонамі, дзе можна было выбраць свой дызайн, прастору для музыкі, а таксама віталася актыўнасць чытачоў: чым больш чалавек пісаў на сваім блогу, тым больш блог рабіў для яго, павялічваў прастору і дадаваў функцыі. А праз некалькі месяцаў мы пабачылі тэлевізійны выступ маладога хлапца, які расказваў пра такую ж сістэму блогаў. Мы кінулі гэты занятак, таму што дзякуючы тэлевізійнай рэкламе ўсе перайшлі на яго сістэму. Але праз нейкі час і яна «знікла», бо ёсць рэсурсы-гіганты «Майспэйс», «Лівджорнал»…

**— Ці многа ўкладанняў патрабуе прадпрымальніцтва?**

— Хутчэй многа сіл і энергіі, асабліва што датычыцца афармлення і зацвярджэння дакументаў.

**— Ты задаволены такой формай дзейнасці ці хочаш змяніць яе?**

— У цэлым задаволены. З аднаго боку, плюс — гэта спрошчанае падаткаабкладанне і запаўненне дакументаў. З іншага боку, я не магу наймаць супрацоўнікаў на пастаянную працу. Але ж унітарнае прадпрыемства — гэта нашмат больш дакументаў…

**— Якім ты сябе бачыш праз 10 гадоў?**

— Нават не ведаю. Канечне, хацелася б развіць дызайн-студыю ў вялікую кампанію. Але чым больш кампанія, тым больш праблем.

**— Чаму дызайн? Якую ролю ён адыгрывае ў тваім жыцці?**

— Я імкнуся займацца тымі сервісамі, якія былі асабіста мне карыснымі. Напрыклад, мне трэба было паказаць фотаздымкі або макет сайта, і я зрабіў хостынг выяваў у Інтэрнэце, каб мець гатовую спасылку, а не мучыцца з капіраваннем выявы экрана. Спачатку я карыстаўся ім адзін, але пасля паказаў сябрам, а тыя расказалі знаёмым — і праект «разросся». Тое ж і з дызайн-студыяй. Мне былі патрэбны сайты для таго ж хостынгу выяваў, і з'явілася жаданне стварыць умовы для рэалізацыі такіх ідэй.

**— Чаму ты абраў віртуальную прастору для сваёй дзейнасці? Таму, што гэта звязана з тваёй адукацыяй?**

— Скажам, я зацікавіўся віртуальнай прасторай яшчэ да выбару прафесіі. Мне вельмі падабаўся Інтэрнет і стварэнне сайтаў, хацелася зрабіць праект, назіраць, як ён развіваецца, і самому ў гэтым удзельнічаць. Да таго ж, я люблю рабіць нешта сваё, таму і стаў прадпрымальнікам. Я пачаў рабіць сайты, а пасля паступіў у БДУІР і абраў спецыяльнасць, звязаную з інтэрнэт-распрацоўкамі.

**— Ты не заўважаў, што прафесія дызайнера стала вельмі папулярнай?**

— Не толькі дызайнера. Зараз кожны другі — дызайнер, кожны трэці — праграміст. Калі ёсць попыт, будзе і прапанова. Прычым, калі пашукаць у «Гугле» па словах «раскрутка сайтаў» або «дызайн сайтаў», знойдзеш мільёны спасылак на фірмы, якія сёння ўтвараюцца, заўтра знікаюць. Многія студэнты гэтым займаюцца.

**— Як жа вылучыцца з такога мноства?**

— Толькі талентам. Так, напрыклад, ёсць простая схема для пошуку спецыялістаў пад канкрэтнае заданне. На спецыялізаваных сайтах можна прагледзець работы або змясціць сваю абвестку. Пасля на конкурснай аснове адбіраюцца некалькі чалавек, якім прапаноўваецца тэставае заданне. У выніку можна сапраўды знайсці лепшага. Дарэчы, мне не важна, колькі спецыялісту гадоў: калі школьнік намалюе лепш за студэнта, то трэба выбіраць першае.

**— А як ты вырашаеш праблему вялікай канкурэнцыі і рэкламы?**

— Гэта сапраўды складана. Трэба растлумачыць, чаму кліенту лепш замовіць сайт у мяне, чым у студэнта, які зробіць у пяць разоў танней. Справа ў тым, што ў нас розныя мэты: студэнту-аматару дастаткова проста зарабіць грошай, каб, скажам, схадзіць на дыскатэку ці купіць новую вопратку, да таго ж, ён не плаціць падаткаў і не дае гарантыі. Гэта як купляць тэлефон «б/у»: ён можа зламацца, і той, хто прадаў, не будзе яго рамантаваць. Чым большая кампанія, тым больш даверу і надзейнасці. Калі сайт, які прапаноўвае распрацоўку дызайну, сам яго не мае і зроблены, напрыклад, на бясплатным хостынгу… Мне важныя толькі сапраўдныя канкурэнты.

**— Табе было б цікава распрацаваць сайт для беларускага пісьменніка?**

— Думаю, што так, асабліва калі згадваецца маё імя. Адзін мой знаёмы проста раскруціў сваё імя ў Інтэрнэце, яго запомнілі, хаця нават не ведаюць, чым ён займаецца. З пісьменнікамі нават цікавей, таму што ў кампаніі ёсць абмежаванні, а для пісьменнікаў можна пафантазіраваць.

**— Ці будзеш ты працягваць удзельнічаць у культурных праектах, і ў якіх іншых сферах ты б хацеў «прабіцца»?**

— Увогуле, я прыхільнік «пакрокавага» развіцця. Галоўная мэта — стаць самадастатковым. Справа не ў фінансах, а ў тым, каб пабудаваць самадастатковую сістэму, каб прадастаўляць усе паслугі, якія патрэбныя ў дадзенай сферы, поўны комплекс прадукцыі і паслуг.

**— Якая твая любімая кніжка з дзяцінства?**

— Не ведаю чаму, але з дзяцінства мне запомніўся Том Соер. Зараз я чытаю ў асноўным тэхнічную літаратуру і форумы, асабліва навіны, якія ўплываюць на развіццё майго бізнесу. Хочацца і папрацаваць, і адпачыць. Буду чытаць «Маладосць» :-)).

***Юлія НОВІК***

*Фота Івана СВІТЫ.*








Ірына КЛІМКОВІЧ

# АД ГУСІНАГА ПЁРКА ДА СУЧАСНЫХ ТЭХНАЛОГІЙ

***У** самым цэнтры сталіцы знаходзіцца невялікі будынак — Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж паліграфіі імя В. З. Харужай. Гэта адзіная ў нашай краіне навучальная ўстанова, якая рыхтуе кваліфікаваныя працоўныя кадры і спецыялістаў сярэдняга ўзроўню для паліграфічных прадпрыемстваў, выдавецтваў і кніжнага гандлю. У нашы дні значнасць паліграфічнай прадукцыі вельмі цяжка пераацаніць. Сёння паліграфія — тая галіна, без якой прагрэс і развіццё чалавечага грамадства практычна немагчымы. Паліграфічная вытворчасць акружае нас паўсюль: газеты і часопісы, друкаваная рэклама, а яшчэ кнігі, без якіх мы ўжо не ўяўляем сваё жыццё.*

***Але перш чым гаварыць пра навучальную ўстанову і прафесію паліграфіста, пазнаёмімся з гісторыяй самой паліграфіі, высветлім яе значэнне і этапы развіцця…***

## ПАЧАТАК ДРУКАВАНАГА СЛОВА

У літаральным перакладзе з грэчаскай мовы «паліграфія» — гэта «шматпісанне», іншымі словамі, памнажэнне ідэнтычных экземпляраў аднаго арыгінала. Гісторыя паліграфіі цесна звязана з гісторыяй пісьменнасці, апошняя ж налічвае некалькі тысячагоддзяў, з’явілася задоўга да нашай эры. Чалавецтва з дапамогай графічных знакаў перадавала свае веды і назапашаны досвед будучым пакаленням. Да ўзнікнення кнігадрукавання кнігі пісаліся ад рукі гусіным пяром. Гэтую працу выконвалі перапісчыкі, часцей за ўсё манахі. На тэрыторыі нашай старажытнай радзімы здаўна існавалі бібліятэкі і цэнтры рукапіснага мастацтва: у Полацку, Слуцку, Супраслі, Гродне, Навагрудку, Брэсце і іншых гарадах. Часам кнігі перапісваліся на працягу некалькіх гадоў, таму яны былі дарагімі. Да таго ж нярэдка іх інкруставалі каштоўнымі камянямі, а ражкі ўпрыгожвалі золатам. Такая кніга каштавала не менш, чым дом-камяніца, а важыла некалькі кілаграмаў. Мець такую раскошу маглі толькі багатыя людзі і духоўныя асобы. Кніг было мала, вольна карысталіся імі адзінкі, таму навуковыя адкрыцці і перадавыя погляды ў часы сярэднявечча распаўсюджваліся вельмі павольна.

Ідэя кнігадрукавання літаральна лунала ў Еўропе. Спачатку быў вынайдзены наборны шрыфт. Дзеля гістарычнай справядлівасці адзначым, што ўпершыню ён з’явіўся ў старажытным Кітаі. Будыйскія манахі друкавалі тэкст пры дапамозе выразаных з дрэва іерогліфаў. Але ў старадаўнія часы Кітай не меў сувязяў з заходняй цывілізацыяй, а пра наборны шрыфт ведалі толькі ў краінах Далёкага Усходу. Ад кітайскага вынаходніцтва мінула 400 гадоў, і ў сярэдзіне XV стагоддзя ў нямецкім горадзе Майнцы Іаган Гутэнберг вынайшаў наборны шрыфт і друкарскі варштат. Цяпер тая падзея і лічыцца ва ўсім цывілізаваным свеце пачаткам друку. Дзейнічаў варштат па такім прын-

цыпе: сабраныя ў рамцы свінцовыя або алавяныя літары пад ціскам адбіваліся на паперы з дапамогаю спецыяльнай фарбы, і гэта дазваляла друкаваць значную колькасць аднолькавых кніг, без якіх у хуткім часе немагчыма было ўявіць жыццё чалавека. Прайшло нейкіх 10 год пасля вынаходніцтва Гутэнберга — і ўся Еўропа запоўнілася друкарскімі лаўкамі і кніжнымі кірмашамі.

Ужо шмат стагоддзяў працуюць у свеце выдавецтвы і друкарні. І дзякуючы Гутэнбергу і ягонаму варштату мы валодаем тэхналогіяй кнігадруку — вялікім дасягненнем усёй чалавечай цывілізацыі. Гэта асноватворная тэхналогія атрымала выключную значнасць, яе распаўсюджванне здзейсніла пераварот у сістэме камунікацый Захаду, а яе прымяненне было актуальным да 60-х гадоў XX стагоддзя. З вынаходніцтвам Гутэнберга перад чалавецтвам адкрыліся новыя магчымасці перадаваць свае веды ў вялікай колькасці і на вялікія адлегласці.

## ПЕРШАПАЧЫНАЛЬНІКІ ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКАГА ДРУКУ

Першым буйным выданнем Гутэнберга стала Біблія. Справу вынаходніка падхапілі друкары Германіі, Італіі, Нідэрландаў, Чэхіі, Польшчы і іншых краін. Наш зямляк Францыск Скарына адным з першых зразумеў, што кніга народу патрэбна не менш за хлеб. Адзначым, што ў нас заўсёды шанавалі кнігу і друкаванае слова. Асновы кніжнай культуры ў нашым краі былі закладзены яшчэ ў часы існавання Полацкага княства — калыскі беларускай дзяржаўнасці. Мінулі стагоддзі, і Францыск Скарына, які якраз і паходзіў з Полацка, буйнога гандлёвага, рамесніцкага і культурнага цэнтра сярэднявяковай Беларусі, пачаў новы перыяд у развіцці айчыннага асветніцтва.

Скончыўшы Кракаўскі, а потым і знакаміты Падуанскі універсітэты, маючы ступень доктара, ён у 1517 годзе прыехаў у сталіцу Чэхіі, Прагу. На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, як тады называлася наша радзіма, яшчэ не існавала традыцый кнігадрукавання, таму Скарына і быў вымушаны шукаць іншае месца для пачатку сваёй дзейнасці. У Празе ім на працягу 1517—1519 гг. былі надрукаваны 23 ілюстраваныя кнігі Старога Запавету ў перакладзе на старабеларускую мову. Каля 1520 года Скарына пераехаў у сталіцу Вялікага княства, Вільню, якая ў XVI ст. была буйным цэнтрам культуры, дзе ў розныя перыяды праходзілі жыццё і дзейнасць многіх нашых пісьменнікаў, грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў. Тут Скарына стварыў першую ў Вялікім княстве друкарню, ён выдаў яшчэ дзве кнігі — «Малую падарожную кніжку» і «Апостал». Пражскія і віленскія выданні Скарыны вылучаюцца высокай якасцю друку, арыгінальнымі ілюстрацыямі-гравюрамі, шрыфтам і іншымі выдавецкімі асаблівасцямі. Яны з’яўляюцца унікальнымі помнікамі свецкай рэнесанснабіблейскай пісьменнасці. Сваёй прыгажосцю і дакладнасцю далёка апярэджваюць не толькі раннія царкоўнаславянскія выданні, а нават і тагачасныя венецыянскія.

Кнігі нашага знакамітага земляка, а ўсяго іх дайшло да нашых дзён каля паўтысячы адзінак, былі створаны не толькі з рэлігійнай мэтай. Беларуская Біблія, выдадзеная Скарынам, апярэдзіла нямецкае выданне Лютэра, яна была першай друкаванай Бібліяй ва ўсходне- і паўднёваславянскіх народаў і з’явілася амаль на паўстагоддзя раней за польскую, за восем гадоў да першага выдання па-англійску. Даўшы свайму народу Слова Божае на зразумелай мове, беларускі першадрукар адкрыў шырокую дарогу Асветніцтву на нашых землях. Дзейнасць Скарыны паўплывала на ўсе ўсходнеславянскія народы. Біблія, выдадзеная ім, знаходзіла чытачоў і за межамі Вялікага княства, дасягнула Масквы, Цверы, Ноўгарада і нават Архангельска.

Адна з першых друкарняў, у якой друкаваліся кнігі на беларускай мове, была заснавана ў Нясвіжы, галоўным горадзе ўладанняў Радзівіла Чорнага. Тут у 1562 годзе былі надрукаваны дзве пратэстанцкія кнігі — «Катэхізіс» і «Аб апраўданні грэшнага чалавека перад Богам». У 1563 годзе Мікалай Радзівіл Чорны ажыццявіў грандыёзны праект — выданне Брэсцкай Бібліі. Былі запрошаны вядомыя навукоўцы-хрысціяне, якія ведалі яўрэйскую і грэчаскую мовы. Яны пераклалі ўсю Біблію з гэтых моў на польскую. Добра разумеючы значэнне выдання кніг на беларускай мове, Мікалай Чорны ахвяраваў агромністую суму — 10 тысяч дукатаў, гадавы даход усіх сваіх уладанняў.

Не лішнім будзе адзначыць, што першую друкарню ў Лондане ў 1480 годзе засна-

ваў таксама наш суайчыннік — Ян (Джон) Ліцвін. А кнігадрукаванне ў Маскве распачалі нашы таленавітыя продкі — Пётр Мсціславец ды Іван Федаровіч (Фёдараў). Першы быў з горада Мсціслава, а другі паходзіў з беларускага шляхецкага роду. Яны першымі на Масковіі надрукавалі ў 1564 г. «Апостал», а яшчэ праз год — «Часоўнікі», адкрыўшы такім чынам новую старонку ў гісторыі расійскай культуры, далучыўшы нашых усходніх суседзяў да аднаго з найважнейшых дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі — кнігадрукавання. Вельмі паказальна і тое, што ўсё друкарскае начынне нашы асветнікі прывезлі ў Маскву з радзімы. На жаль, кансерватыўнае маскоўскае духавенства ды неасвечанае баярства варожа сустрэлі беларускіх асветнікаў. Яны абвінавацілі нашых суайчыннікаў у «пашырэнні ерасі». У 1566 г. раз'юшаны натоўп, падбухтораны шматлікімі непрыяцелямі Мсціслаўца і Федаровіча, дарэшты разбурыў іхнюю друкарню і ледзьве не расправіўся з яе гаспадарамі. У выніку яны вымушаны былі вярнуцца на радзіму.

Але і тут ім не давялося сядзець без справы. Беларускі магнат Рыгор Хадкевіч, які даўно марыў пра адкрыццё ўласнай друкарні, запрасіў Мсціслаўца і Федаровіча да сябе ў мястэчка Заблудаў, цяпер гэта Беластоцкае ваяводства ў Польшчы. Там беларускія асветнікі выдалі шэраг кніг рэлігійнага і асветніцкага зместу, якія вытрымалі не адно перавыданне і сталі сімвалам небывалага росквіту ўсходнеславянскай культуры эпохі Адраджэння. Дзякуючы беларускім асветнікам кнігадрукаванне і далей распаўсюджвалася сярод усходніх славян. Паколькі Хадкевіч вырашыў спыніць выдавецкую дзейнасць, Федаровіч у канцы 1572 года пераехаў у Львоў і заснаваў там першую на Украіне друкарню, дзе ў 1574 годзе выдаў першую ўкраінскую дакладна датаваную кнігу «Апостал» і «Азбуку» («Буквар») з практыкаваннямі для навучання грамаце, чым заклаў праграму пачатковай школьнай адукацыі на ўсходнеславянскіх землях.

Апроч Мсціслаўца і Федаровіча ў развіцці расійскага кнігадрукавання бралі ўдзел і іншыя ўраджэнцы Беларусі. Гэта Сімяон Полацкі, які арганізаваў Верхнюю друкарню ў Маскве, Ілья Капіевіч, паплечнік Пятра I, літаратар, выдавец, стваральнік грамадзянскага шрыфту. Варта адзначыць таксама станоўчы ўплыў беларускага кнігадрукавання XVI—XVII стст. на станаўленне літаратурнай мовы нашых усходніх суседзяў. Неўладкаванасць пісьмовай мовы Маскоўскага княства таго часу выклікала ў маскоўскіх кнігадрукароў неабходнасць актыўных кантактаў з нашай філалагічнай культурай. Гэта тычыцца непасрэдна старабеларускай мовы, якая дасягнула ў тыя часы высокага ўзроўню дакладнасці, даволі арганічна спалучыўшы ў сабе кніжныя і размоўныя элементы. І менавіта на той час нашымі кніжнікамі было створана пяць граматык, розных па сваім характары і прызначэнні. Апроч граматыкі-буквара Івана Федаровіча былі яшчэ граматыкі Лаўрэнція Зізанія (ёю ў якасці падручніка карысталіся да XVIII ст. у брацкіх школах Беларусі і Украіны), Мялеція Сматрыцкага, Івана Ужэвіча і ананімная граматыка з друкарні Мамонічаў у Вільні. Апошнюю на свае грошы і ў сваім доме заснавалі знакамітыя на той час кнігавыдаўцы, грамадскія дзеячы браты-купцы Кузьма і Лука Мамонічы, з дапамогаю і пад кіраўніцтвам Пятра Мсціслаўца, які пасля закрыцця друкарні ў Заблудаве пераехаў у Вільню. Друкарня атрымала тры каралеўскія прывілеі і мела шырокія сувязі агульнаеўрапейскага маштабу. Мела яна сваё прадстаўніцтва і ў Маскве, у канцы XVI ст. яе кнігі літаральна запаланілі Расію. Мамонічы першымі ў гісторыі беларускага кнігадрукавання пачалі выпуск кірылічных кніг прававога характару. Так, у 1588 годзе яны надрукавалі такое важнае выданне, як «Статут Вялікага княства Літоўскага», які існаваў дагэтуль толькі ў рукапісных спісах і быў адзіным зводам законаў ва ўсёй Еўропе з часоў Рымскага права і да Напалеонаўскага кодэкса.

Былі і іншыя друкарні, буйныя і не вельмі, на тэрыторыі сярэдневяковай Беларусі. Іх адкрывалі і ўзначальвалі нашы славутыя, адукаваныя і вучоныя землякі. Дзякуючы іх намаганням многія таленавітыя беларусы, украінцы і рускія змаглі атрымаць святло ведаў і данесці яго праз стагоддзі наступным пакаленням сваіх народаў. Гэта быў залаты век у гісторыі і культуры нашай краіны. Сёння ясна адно: у летапісе кнігадрукавання Беларусі, як у люстэрку, адбіўся шматгранны, а часам і супярэчлівы лёс беларускага народа. Беларуская мова і культура, якія на працягу шматлікіх стагоддзяў займалі

першае месца ў Вялікім княстве Літоўскім і ўплывалі на культуру суседніх народаў, з канца XVII ст. паступова здаюць свае пазіцыі. У XVIII ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі існавала 12 друкарняў, дзе выкарыстоўваліся розныя шрыфты, часцей за ўсё лацінска-польскія. Аднак сярод іх друкаванай прадукцыі ўжо не было кніг на беларускай мове.

Але, нягледзячы на шматлікія забароны, беларускі народ і прагрэсіўная інтэлігенцыя змаглі захаваць родную мову і культуру, і ў канцы XIX, а асабліва на пачатку XX ст. зноў загучала беларускае слова, аднавілася выданне кніг на беларускай мове. І сёння, на пачатку трэцяга тысячагоддзя, айчынная кніга годна вытрымлівае канкурэнцыю з іншымі сучаснымі электроннымі носьбітамі інфармацыі.

## ПАЛІГРАФІЧНЫ ДОМ НА ХАРУЖАЙ, 7

***(інтэрв'ю з дырэктарам Мінскага ПТК паліграфіі Р. І. Дробыш)***

Перш чым сучасная кніга, аздобленая з вялікім мастацкім густам і прагрэсіўным тэхнічным дызайнам, трапіць у рукі да чытачоў, яна павінна прайсці складаны шлях пераўтварэння з рукапісу ў друкаваную прадукцыю. Над яе стварэннем працуе цэлае войска спецыялістаў паліграфічнай вытворчасці. А ў наш час паліграфія развіваецца неверагоднымі тэмпамі. Доказ таму — з'яўленне прадпрыемстваў, якія займаюцца не толькі паліграфічнай вытворчасцю ў яе класічным разуменні — выпускам кніг, буклетаў, часопісаў і г. д., але і друкам на вопратцы, посудзе, цэтліках, плёнцы, сувенірах, упакоўках. Таму нельга здзіўляцца, што спецыялісты ад паліграфіі запатрабаваны на рынку працы. І гэта адна з прычын, якая пабуджае маладых людзей паступаць у Мінскі каледж паліграфіі, каб атрымаць там прафесію паліграфіста.

Дырэктар навучальнай установы «Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж паліграфіі імя В. З. Харужай» **Раіса Іванаўна Дробыш** згадзілася расказаць чытачам «Маладосці» пра ўмовы прыёму і навучання ў каледжы, пра новыя тэхналогіі ў сферы друкарскіх паслуг, якія тут вывучаюць. Усё жыццё Раісы Іванаўны прайшло ў



*Дырэктар каледжа паліграфіі Дробыш Раіса Іванаўна.*

сценах каледжа, а пачынала свой працоўны шлях яшчэ яго выпускніцай. Працавала і майстрам вытворчага навучання, і, пасля атрымання вышэйшай педагагічнай адукацыі — заканчэння айчыннага педінстытута імя М. Горкага, — намеснікам дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце. А з 1995 года яна дырэктар каледжа, пяты па ліку. Дзесяць гадоў таму спрабавала сумяшчаць чытанне лекцый па курсу «Асновы паліграфічнай вытворчасці» з кіраўніцтвам каледжам. Так ёй прасцей было вывучаць найноўшыя тэхналогіі ў паліграфічным працэсе, ды і кантакт з навучэнцамі для яе стаіць не на апошнім месцы. Але занятасць і недахоп часу вымусілі прыпыніць гэты занятак. Пра што шкадуе і марыць аднавіць такую практыку зноў. І вось 42 гады аддадзены роднаму паліграфічнаму Дому, так ласкава дырэктар называе сваю навучальную ўстанову. У выніку — адзіны запіс у працоўнай кніжцы. Згадзіцеся, вельмі рэдкая з'ява ў наш час.

**— Раіса Іванаўна, як і кожная ўстанова, ваш каледж мае сваю гісторыю і асаблівасці. Па якіх спецыяльнасцях ажыццяўляюцца набор і падрыхтоўка навучэнцаў?**




*Друкарскі цэх. Тамара Камека са сваімі вучнямі.*

Пачыналася ўсё ў далёкім 1944 годзе. Менавіта тады ў толькі што вызваленым Мінску ў ліпені адбыўся першы набор у рамеснае вучылішча паліграфістаў. Месцілася вучылішча ў старым Доме друку. Мінуў год, адбыўся першы выпуск, а праз 16 гадоў яно пераехала ў новы будынак. Тут, на Харужай, 7, наша навучальная ўстанова знаходзіцца і дагэтуль. Праходзілі дзесяцігоддзі, мяняліся назвы, спецыяльнасці, сыходзілі выкладчыкі і майстры, прыходзілі новыя, а вучылішча заставалася «кузняй» высокапрафесійных кадраў для паліграфічнай прамысловасці.

З 1994 года ў нашым каледжы ўведзены другі ўзровень адукацыі. На аснове агульнай базавай адукацыі на першым узроўні — прафесійна-тэхнічнай адукацыі, мы даём такія кваліфікацыі рабочых, як друкар плоскага друку; друкар флексаграфскага друку; пераплётчык, машыніст рэзальных машын, кантралёр паўфабрыкатаў і гатовай прадукцыі. Тэрмін навучання 2 гады 10 месяцаў. На аснове агульнай сярэдняй адукацыі мы рыхтуем кантралёраў-касіраў, прадаўцоў (кніжных тавараў). Тэрмін навучання 10 месяцаў. Да апошняга часу на першым узроўні рыхтавалі яшчэ і аператараў электроннага набору і вёрсткі. З-за таго, што рынак насычаны такімі спецыялістамі і людзі працуюць на паліграфічных прадпрыемствах стала, запатрабаванасць у такой кваліфікацыі адпала, як лічаць спецыялісты, гадоў на 20—30. Гэта тычыцца і прафесіі рэдактара тэхнічнага, якую можна атрымаць у каледжы на другім узроўні сярэдняй спецыяльнай адукацыі. На гэтым узроўні ў каледжы рыхтуюць яшчэ тэхнікаў-тэхнолагаў і таваразнаўцаў. Прыём на дадзеныя спецыяльнасці вядзецца на аснове прафесійна-тэхнічнай адукацыі за кошт бюджэтных сродкаў. Тэрмін навучання 1 год 6 месяцаў. Летась у каледжы адкрываецца завочная форма навучання на платнай аснове: тэхнік-тэхнолаг (тэхналогія брашуровачна-пераплётнай вытворчасці) — тэрмін навучання 2 гады 6 месяцаў, таваразнаўца (камерцыйная дзейнасць) — тэрмін навучання 1 год 10 месяцаў.

**— Скончыўшы вашую навучальную ўстанову, дзе можна працягнуць удасканальванне ў прафесіі паліграфіста?**

— Атрымаць вышэйшую адукацыю па паліграфічных спецыяльнасцях можна ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце. Там з 1993 года была створана кафедра паліграфіі, а з 2000 года адкрыты асобны факультэт выдавецкай справы і паліграфіі. Але, на жаль, нашы выпускнікі пачынаюць там вучобу толькі з першага курса. Па спецыяльнасці «Камерцыйная дзейнасць» у нас заключана дамова наконт працягу адукацыі толькі з Беларускім гандлёва-эканамічным універсітэтам спажывецкай кааперацыі ў Гомелі. Каля 50 працэнтаў выпускнікоў гэтай спецыяльнасці паступаюць адразу на трэці курс універсітэта, працягваюць там навучанне і атрымліваюць спецыяльнасць таваразнаўцы.

Да 1993 года вышэйшую адукацыю ў паліграфічнай галіне можна было атрымаць або ў Львове, або ў Маскве. У свой час славіўся Львоўскі паліграфічны інстытут, таму шмат хто з выпускнікоў нашага каледжа павышаў сваё майстэрства менавіта там. Ды і цяпер ягоны аўтарытэт не знізіўся, але навучацца сёння там больш складана: выкладанне ў інстытуце вядзецца на ўкраінскай мове. Зразумела, што не кожны беларус рызыкне туды паступіць і накіроўваецца або ў Маскоўскі паліграфічны універсітэт, або ў наш, тэхналагічны. Наладжаны сувязі і з Маскоўскім паліграфічна-выдавецкім каледжам імя І. Фёдарава, дзе нам дапамагаюць з распрацоўкай і выпускам вучэбных і метадычных дапаможнікаў.

**— Паліграфія развіваецца неверагоднымі тэмпамі. Натуральна, шмат што мяняецца ў ёй, у тым ліку і тэхналогіі. Раскажыце ў агульных рысах пра некаторыя асаблівасці друкарскага працэсу і змены ў гэтай галіне.**

— Яшчэ не так даўно кнігі набіралі ўручную. Наборшчык стаяў перад касай — плоскай скрыняй з мноствам невялікіх металічных літар на «ножках». У адным аддзяленні ляжалі толькі літары «а», у другім — «б», у трэцім — «в» і г. д. Наборшчык браў патрэбныя літары і складваў з іх словы, са слоў — радкі. Справа рухалася павольна. Потым тэксты кніг, часопісаў або газет пачалі набіраць пры дапамозе наборных машын — лінатыпаў. Спераду лінатып нагадвае звычайную пішучую машынку, але вялікіх памераў. Наборшчык садзіўся за такую машыну і передрукоўваў слова за словам тэкст рукапісу. Ззаду стаяла невялікая электрычная печ, дзе ў катле знаходзіўся расплаўлены сплаў (свінец, сурма і волава). Тэмпература яго плаўлення 350 градусаў па Цэльсію. Як толькі наборшчык націскаў клавішу, з магазіна — доўгага канала зверху — выскоквала маленькая матрыца-літара. Калі ў верстаку збіраўся цэлы радок з матрыц, ён рухаўся да адтуліны ў катле са свінцом. Адтуль у матрыцы ліўся расплаўлены метал, ён хутка застываў і ствараўся адліты металічны радок з тых літар, на клавішы якіх націскаў наборшчык. Клішэ для малюнкаў і фотаздымкаў рабілі ў цэху цынкаграфіі.

Дарэчы, такая тэхналогія друкарскага працэсу існавала пры так званым высокім друку. Гэта калі друкуючыя элементы размяшчаюцца вышэй за недрукуючыя — прабелы паміж словамі. Але гэтая тэхналогія



*Пераплётны цэх.*




*Вучэбны магазін.*

вельмі шкодная для здароўя чалавека. Сплаў свінца пры выпарванні можа патрапіць у страўнік чалавека і выклікаць цяжкае атручванне. Таму ў 80-я гады XX ст. адышлі ад такой тэхналогіі і сталі рыхтаваць выключна спецыялістаў плоскага друку. Тут усе друкуючыя і недрукуючыя элементы знаходзяцца ў адной плоскасці. Апроч друкароў плоскага друку, дзе адбіткі тэкстаў або малюнкаў робяцца на паперы, сёлета паралельна ў каледжы рыхтуюць друкароў флексаграфскага друку. У такім выпадку асноўны матэрыял ужо не толькі папера, а і плёнка. А гэта розныя ўпакоўкі, посуд, вопратка...

Але паліграфічная вытворчасць не стаіць на месцы. Пры цяперашнім шырокім распаўсюджванні капмп'ютэрнай тэхнікі ўсе вышэйпералічаныя аперацыі высокага друку замест некалькіх спецыялістаў зможа выконваць ужо адзін чалавек — аператар электроннага набору і вёрсткі. Плюс да ўсяго ён яшчэ зможа выконваць і функцыі аператара лічбавага друку. Рэч у тым, што да камп'ютэраў цяпер падключаюцца лічбавыя друкарскія машыны. І ў выніку адзін чалавек набірае на камп'ютэры тэксты, вярстае іх як наборшчык-вярстальшчык, як карэктар вычытвае і тут жа на лічбавай машыне можа раздрукаваць і выдаць гатовую прадукцыю.

Пасля таго як аператары электроннага набору і вёрсткі зробяць фотаплёнку — звярстаную паласу, капіроўшчыкі — друкарскую форму, друкары бяруць яе і ўладкоўваюць на друкарскую машыну, запускаюць друк. У выніку мы атрымліваем звычайныя аркушы. Калі працэс адбываецца на вялікіх паліграфічных прадпрыемствах, замест аркушаў друкуюцца гатовыя сшыткі, якія пераплётчыкі потым брашуруюць і робяць для іх так званую вопратку — пераплётную накрыўку, якая бывае або цвёрдая, або мяккая. Пасля далейшай пераапрацоўкі друкарская прадукцыя ідзе ў кніжныя крамы. А сённяшнія газеты фарматам А2 друкуюцца на вялікіх сучасных друкарскіх машынах. Такая, да прыкладу, ёсць у нашым Беларускім доме друку. Вышыня яе паўтара метра, шырыня — шэсць, а даўжыня — трыццаць метраў. І калі вы захочаце знайсці друкароў, што працуюць на ёй, вы іх убачыце толькі задраўшы галаў. Яны кіруюць велічэзнай машынай, знаходзячыся наверсе, як на палубе лайнера. І я заўсёды, калі бываю там па справах, вельмі ганаруся сваімі выхаванцамі, якія працуюць на гэтай махіне.

**— А дзе вашы навучэнцы праходзяць практыку і куды ўладкоўваюцца на працу пасля заканчэння каледжа?**

— У нашых навучэнцаў існуе вытворчая практыка, якая адбываецца ў вучэбна-вытворчых майстэрнях каледжа, дзе ўсталявана сучаснае друкарскае абсталяванне. Створана навучальная кніжная крама, відэатэка па агульнаадукацыйных і спецыяльных прадметах. Апроч гэтага ў нас ёсць базавыя прадпрыемствы — ААТ «Паліграфія» імя Я. Коласа, ААТ «Белкніга», РУП «Выдавецтва «Беларускі дом друку» і інш., на якіх нашы навучэнцы ўдасканальваюць свае веды ў галіне паліграфіі. Туды яны і ідуць працаваць пасля заканчэння каледжа, а яшчэ ў іншыя друкарні, рэдакцыі, выдавецтвы, кніжныя крамы, як прыватныя, так і дзяржаўныя. Многія з нашых выпускнікоў ужо самі ўзначальваюць некаторыя раённыя друкарні або займаюць значныя пасады на буйных паліграфічных прадпрыемствах. Гэта **Станіслаў Міхайлавіч Казак** — намеснік дырэктара выдавецтва «Беларускі дом друку»; **Аляксандр Валянцінавіч Мазанік** — намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях Мінскай фабрыкі каляровага друку; **Аляксандр Лаўрэнцьевіч Кароткі** — дырэктар узбуйненай абласной магілёўскай тыпаграфіі; **Юрый Ігаравіч Ракутаў** — намеснік дырэктара па вытворчасці паліграфічнага комплексу «Пушкинская площадь» у Маскве і многія іншыя. Нашы друкары і пераплётчыкі вельмі запатрабаваныя, яны працаўладкоўваюцца без праблем. Таксама працоўныя месцы атрымліваюць усе нашы кантралёры-касіры і прадаўцы.

**— Зразумела, каб быць паспяховым паліграфістам і выпускаць канкурэнтаздольную паліграфічную прадукцыю, трэба гэтаму навучыцца ў дасведчаных прафесіяналаў сваёй справы. Каго б вы хацелі адзначыць з педагагічнага калектыву каледжа?**

— Інжынерна-педагагічны калектыў нашага паліграфічнага Дома сапраўды вельмі з’яднаны і дасведчаны, ён валодае вялікім творчым патэнцыялам. Усіх адразу проста не назавеш, іх 78 чалавек. Назаву толькі тых, хто працуе тут даўно і стала, выпусціў не адно пакаленне кваліфікаваных паліграфістаў.

**Ванда Міхайлаўна Афанасьева** — выпускніца нашай навучальнай установы, некалі атрымала тут прафесію наборшчыка, працуе ў каледжы з 1972 года майстрам вытворчага навучання. Чацвёрты дзесятак працуе **Таццяна Сяргееўна Паўлюць,** у былым майстра вытворчага навучання кантралёраў-касіраў, прадаўцоў кніжных тавараў, а цяпер — камендант каледжа. З 1982 года працуе ў групе друкароў майстрам вытворчага навучання **Тамара Дзмітрыеўна Камека**. З 1991 года перадае свае веды навучэнцам наша выпускніца **Наталля Іосіфаўна Лапко** — загадчык вучэбна-вытворчымі майстэрнямі. Калісьці яна працавала друкаром на фабрыцы каляровага друку, але любоў да роднай навучальнай установы зноў прывяла яе сюды.

Дарэчы, у каледжы на базе вучэбна-вытворчых майстэрняў робяць высакаякасную паліграфічную прадукцыю для насельніцтва. Так навучэнцы вучацца індывідуальна працаваць з кожным кліентам. Каардынатарам на гэтым адказным участку працы з’яўляецца вытворчы аддзел і яго супрацоўнікі. Тут з 1969 года працуе **Юлія Ігнацьеўна Цыўля** (спачатку — майстрам вытворчага навучання, потым — старэйшым майстрам, а цяпер — рэдактарам тэхнічным). **Любоў Леанідаўна Казак** пра-



*Асваенне новай друкарскай тэхнікі.*

цуе ў каледжы з 1976 года: прайшла шлях ад вучня і майстра да намесніка дырэктара па вытворчаму навучанню. Тэхнічная творчасць — яе стыхія, яна распрацоўвае новыя тавары, адказвае за гурткі тэхнічнай творчасці. Намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай працы **Валянціна Леанідаўна Селістроўская** працуе з 1987 года, таксама наша выпускніца, па прафесіі наборшчыца наборных машын. Менавіта яна стаяла некалі ля вытокаў новай прафесіі — аператар настольна-выдавецкіх сістэм. Потым была загадчыкам аддзялення і выконвала абавязкі намесніка дырэктара па выхаваўчай працы. Працу выкладчыкаў агульнаадукацыйных дысцыплін з 1995 года ўзначальвае выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь, знаўца педагогікі і методыкі выкладання **Бічова Элеанора Уладзіміраўна. Ала Сцяпанаўна Патокская** шмат гадоў працавала майстрам вытворчага навучання, цяпер яна выкладчык спецдысцыплін. Да таго ж яна яшчэ і кіруе выпускам газеты «Скарынінцы», што выходзіць у каледжы. У газеце апроч разнастайных навін па навучальнаму працэсу можна пазнаёміцца з творчасцю саміх навучэнцаў. Ёсць тыя, хто піша вершы і апавяданні. Веды па беларускай і нямецкай мовах даносіць да маладога пакалення выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь, патрабавальная да сябе і да навучэнцаў **Зайко Вера Уладзіміраўна.** З 1988 года працуе з навучэнцамі і рыхтуе дастойную змену абаронцаў Айчыны выдатны педагог, падпалкоўнік **Іван Аляксеевіч Леановіч.**

Можна і надалей пералічваць прозвішчы і імёны нашых педагогаў, але, як я ўжо казала, іх шмат. Шмат каго я тут не назвала, хто ўжо на заслужаным адпачынку, але таксама аддаў нашаму паліграфічнаму Дому не адзін дзесятак гадоў жыцця і свае каштоўныя веды. Усе яны вартыя таго, каб іх шматлікія выпускнікі, якія сёння паспяхова працуюць у паліграфіі, з удзячнасцю ўзгадвалі прафесійныя і жыццёвыя ўрокі нашых Настаўнікаў. Хачу яшчэ сказаць, што наш педагагічны калектыў за апошнія гады абнавіўся амаль напалову. Працуюць маладыя майстры, якія яшчэ зусім нядаўна самі былі навучэнцамі каледжа і асвойвалі прафесію пад кіраўніцтвам сваіх педагогаў. Яны вельмі гарманічна ўліліся ў калектыў дасведчаных майстроў і заваявалі давер навучэнцаў.

**— Раіса Іванаўна, што б вы пажадалі тым школьнікам, якія выбралі прафесію паліграфіста і хочуць у вас вучыцца?**

— Тым, хто паступае да нас вучыцца выпадкова або не па сваім жаданні, трэба памятаць, што прафесія паліграфіста нялёгкая. І хаця без гэтай прафесіі немагчыма абысціся ў наш час, яна рэдкая, а таму вельмі і вельмі складаная. Вучоба патрабуе намаганняў. Па-першае, будучым паліграфістам — друкарам, пераплётчыкам, тэхнічным рэдактарам і г. д. — трэба быць мастакамі, па-другое, трэба быць інтэлектуаламі: умець і, галоўнае, любіць чытаць. Калі гэтага няма, то вучыцца ў нас цяжка і нецікава. Такія навучэнцы не адчуюць смак прафесіі, яе выключнасць сярод астатніх. А той, хто адчуе прафесію з самых азоў, з задавальненнем аддасць ёй усё жыццё, усе свае веды і здольнасці. А такіх у каледжы, паверце, нямала. Праз нас прайшлі ўжо некалькі дынастый паліграфістаў, некалькі пакаленняў. 70 працэнтаў нашых навучэнцаў — гэта дзеці і нават унукі паліграфістаў. Такая акалічнасць вельмі важная і гаворыць толькі пра унікальнасць прафесіі.

Так што тым, хто усё ж такі абярэ гэты шлях, пажадаю шчаслівай дарогі да вяршынь прафесійнай культуры. Хочацца верыць, што яны з гонарам пранясуць званне паліграфіста праз усё жыццё і будуць высока трымаць марку роднага каледжа.

— **Дзякуй за размову**.

***І напрыканцы.***

***Кажуць, што з развіццём тэлебачання і Інтэрнета эпоха друкарскага мастацтва сыходзіць у мінулае. Але насамрэч статыстычныя даследаванні даводзяць, што перыядычны друк і асабліва кнігі карысталіся і працягваюць карыстацца папулярнасцю, попытам. Бо кніга, у першую чаргу на роднай мове, — гэта той падмурак, на якім трымаецца нацыя. І тут нам, беларусам, безумоўна, ёсць чым ганарыцца. Гэта наша літаратура — і класічная, і сучасная, гэта гісторыя нашага старажытнага кнігавыдання.***

Мікола МАЛЯЎКА

# БЕРАЖЫЦЕ ПЛАНЕТУ ЗЯМЛЯ

**К**ожную дакументальную кнігу бярэш у рукі з насцярогаю. Аўтары збіваюцца то на простае апісанне падзей і з'яў, то на «мастацкі» домысел — абстрактны, далёкі ад жыццёвай праўды.



Кніга Уладзіміра Ліпскага заінтрыгоўвае ўжо сваёй паэтычнай назваю — «Пакланіся травінцы». Падумаў бы, што гэта лірычная аповесць ці паэма, каб ніжэй не стаяў падзагаловак-падказка: экспедыцыі ў жыццё акадэміка Парфёнава.

Віктар Іванавіч Парфёнаў — «батанік нумар адзін», ганаровы дырэктар інстытута батанічных навук. Ён дасканала ведае прыроду нашай Беларусі, валодае яе тайнамі. Абхадзіў, аб'ездзіў усе куточкі зямлі, на якой мы жывём. У рукзаку перанёс у лабараторыю тысячы проб глебы і раслін. Пабываў у незлічоных экспедыцыях.

Аўтар прадумаў кампазіцыю кнігі: кожны яе раздел — пэўная экспедыцыя. У жыццё героя, яго дзяцінства, юнацтва і сталасць. У мінулае інстытута, які ён узначальваў дзесяткі гадоў. У гісторыю нашай краіны, яе мірныя і ваенныя гады. І, нарэшце, рабочыя экспедыцыі вучоных, батанікаў і біёлагаў, па родным краі, у лясное царства, поўныя прафесійных клопатаў і трывог, а часам і нечаканых прыгод, што ажыўляе аўтарскі аповед.

Пачынаецца кніга з бліц-інтэрв'ю — знаёмства пісьменніка з акадэмікам-батанікам. З кароткіх і шчырых адказаў вымалёўваецца вобраз героя: і знешні партрэт, і характар, і яго жыццёвае крэда. Пазней гэта самахарактарыстыка героя дапамагае чытачу зразумець яго паводзіны ў самых розных абставінах — мірных, ціхіх і трывожных, часам крытычных, калі вырашаецца лёс таго ці іншага чалавека.

Цікавыя лёсы маці героя, маладога бацькі, які загінуў на фінскай вайне, сястры Ані, іншых родных і блізкіх людзей. Аўтар, дзе паўней, дзе скупымі штрыхамі, накідвае іх партрэты, і яны не губляюцца на старонках кнігі, а дапамагаюць ярчэй высвеціць і раскрыць вобраз галоўнага героя.

Батанікі ўсяго свету даўно б'юць трывогу: знікаюць усё новыя і новыя віды жывёл, дрэў і раслін. Гэта адбываецца часцей за ўсё па волі чалавека, узброенага тэхнікай. Яшчэ ў 1981 годзе Віктар Іванавіч Парфёнаў стаў адным з ініцыятараў стварэння першай Чырвонай кнігі Беларусі, пад яго рэдакцыяй выйшла першая кніга шматтомнага выдання «Флора Беларусі». Ён адчувае адказ-

насць за скарбы роднай прыроды, дбаў і дбае, каб не паўтарыліся ў нас ні бяздумная меліярацыя, ні чарнобыльская трагедыя.

Прыгадваю радкі з даўняга верша «Чырвоная кніга», які мог бы прысвяціць акадэміку, каб ведаў пра яго раней.

Я думаў, што кніга — даведнік,
Прыроды партрэт.
А гэта —
Жыцця запаведнік,
Наш нерушны свет.
І я напісаў бы ў блакіце,
Каб ззяла здаля:
«У кнігу жыцця занясіце
Планету Зямля!»

Кніга «Пакланіся травінцы» да месца перасыпана паэтычнымі строфамі і вытрымкамі з прозы вядомых беларускіх і рускіх пісьменнікаў, выказваннямі вучоных, настаўнікаў і калег Віктара Іванавіча Парфёнава па працы ў інстытуце. У аўтарскіх адступленнях Уладзімір Ліпскі згадвае пра свой родны палескі кут, яго людзей і прыроду. І гэтыя цікавыя ўспаміны, як жывыя крыніцы, натуральна ўліваюцца ў агульную плынь аповеда.

Батаніка — навука цікавая, але складаная, патрабуе шмат увагі і ведаў, не любіць дылетантаў. Адчуваецца, аўтару аповесці прыйшлося прайсці кароткі курс гэтай навукі, прачытаць нямала кніг, падручнікаў і даведнікаў, пакапацца ў архівах і слоўніках, каб адчуць і сябе ў нейкай ступені батанікам, вольна карыстацца навуковымі звесткамі, картамі, тэрмінамі, назвамі. Чыста «батанічныя» старонкі ўражваюць сваёй дакладнасцю і глыбінёю, чытаюцца як сціслы рэферат навуковай працы.

Уладзімір Ліпскі справядліва зазначае: «Мне здаецца, сам Бог прыдумаў батанікаў, біёлагаў, надаў ім асобыя паўнамоцтвы, дапусціў іх у сваё зямное царства, каб яны вывучалі яго, былі асветнікамі і настаўнікамі для ўсіх людзей». Залатыя словы! Хочацца толькі дадаць: і ахоўнікамі, абаронцамі ўсёй нашай Зямлі.

Не заўважаеш, як перагортваеш апошнюю старонку. Яшчэ раз аднаўляеш у памяці асобныя раздзелы-экспедыцыі — і радуешся: дзякуючы аўтару ты пабагацеў на сустрэчу з яшчэ адным цудоўным чалавекам, вучоным і патрыётам сваёй краіны, паглыбіў веды пра навакольны свет, вастрэй зразумеў, як трэба берагчы на зямлі кожнае дрэўца, кожную кветачку, кожную травінку.



Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ШЫРЫНЯ ПРАБЛЕМАТЫКІ, БАГАЦЦЕ ІДЭЙ

Уклад Івана Навуменкі ў развіццё беларускай літаратуразнаўчай навукі XX стагоддзя грунтоўны і важкі, супастаўны ў гэтым сэнсе з тым, што створана ім у галіне літаратурнай творчасці. Калі яго мастацкая спадчына вызначаецца жанравай разнастайнасцю (апавяданні, аповесці, раманы), то літаратуразнаўчы набытак у сваю чаргу ўражвае шырынёй праблематыкі, багаццем ідэй, падыходаў, канцэпцый. Даследчыцкая ўвага І. Навуменкі была скіравана найперш на творчыя постаці класікаў нашай літаратуры. Яго фундаментальныя працы «Янка Купала: Духоўны воблік героя» (1967) і «Якуб Колас: Духоўны воблік героя» (1968) пазначылі сабой новы ўзровень развіцця купалазнаўства і коласазнаўства, далі магчымасць праз прызму характаралогіі ацаніць сапраўдныя маштабы здзейсненага народнымі песнярамі.

Варта адразу назваць тую фундаментальнейшую ўласцівасць, якой вызначалася накіраванасць даследчыцкай метадалогіі І. Навуменкі ў названых і іншых яго працах. Гэта гістарызм у падыходзе да разгляду літаратурных з’яў. Творчасць Купалы і Коласа трывала ўпісвалася ў кантэкст гістарычнага развіцця нацыянальнай літаратуры, іх творчая метадалогія супастаўлялася з тымі прынцыпамі мастацкага асваення рэчаіснасці, якія былі характэрны для пісьменнікаў папярэдніх культурна-гістарычных перыядаў, для вуснай народнай творчасці.

Каб паказаць, у чым сутнасць новага кроку ў развіцці беларускага слоўнага мастацтва, які зрабілі Колас і Купала, І. Навуменка вызначае як агульна-тыпалагічнае, што аб’ядноўвала іх паэтыку і светапогляд з нацыянальнай мастацкай традыцыяй, так і індывідуальна-адметнае, тое, што прыўнеслі ў літаратурны працэс менавіта яны. Адной з важнейшых заслуг Купалы і Коласа даследчык лічыць тое, што менавіта дзякуючы ім «у беларускай літаратуры паяўляецца псіхалагічна складаны, жыццёва і мастацка праўдзівы і паўнакроўны вобраз беларуса» і што менавіта з гэтага часу «можна весці гаворку аб нацыянальным тыпе, характары».

Галоўныя літаратуразнаўчыя кнігі І. Навуменкі якраз і прысвечаны раскрыццю таго, якім чынам выяўляецца ў творчасці класікаў вобраз чалавека ў паўнаце і шматстайнасці яго духоўных і псіхалагічных праяў. Увага даследчыка сканцэнтроўваецца на падрабязным аналізе паэтыкі, стылю, моўнага майстэрства пісьменнікаў, іх светапогляду і адметнасці паэтычнага бачання.

Такі падыход, у якім змястоўныя і фармальныя аспекты творчасці разглядаюцца ў іх цеснай спалучанасці і ўзаемаабумоўленасці, заключае ў сабе надзвычай перспектыўныя магчымасці. Сапраўды, паколькі выяўленне глыбіні і шматграннасці чалавечага характару ў творы дасягаецца з дапамогай вобразна-выяўленчых сродкаў, то і ў літаратуразнаўчым даследаванні гэтая сувязь павінна стаць аб’ектам першаступеннай увагі.

У савецкім літаратуразнаўстве 60—70-х гадоў XX ст. дадзеная канцэпцыя атрымлівала значнае пашырэнне, з’яўляючыся метадалагічнай асновай многіх прац, у якіх грунтоўна аналізавалася змястоўнае багацце мастацкай формы. Вядомы літаратуразнаў-

ца Уладзімір Дняпроў падкрэсліваў узаемазалежнасць чалавеказнаўчых і эстэтычных аспектаў, звяртаючы ўвагу на тое, што «высвятленне ісцін чалавека» ажыццяўляецца ў літаратуры «адначасова і ў бесперапыннай сувязі з высвятленнем ісцін мастацтва». Гэтую заканамернасць не можа не ўлічваць літаратуразнаўчая навука, калі яна імкнецца да раскрыцця сапраўднай прыроды літаратурнай творчасці. Як слушна заўважае расійскі даследчык, «у літаратуры вынік існуе не як штосьці гатовае, а толькі разам са шляхам, які да яго вядзе, «новыя звесткі аб чалавечай прыродзе» (Дастаеўскі) — толькі разам з мастацкімі прыёмамі, якімі яны здабываюцца, персанажы і характары — толькі разам са спосабамі іх выяўлення». Гэтую спецыфіку слоўнага мастацтва добра ўсведамляў І. Навуменка, разглядаючы творчы працэс як з'яву складаную, дыялектычна супярэчлівую, якую немагчыма звесці да «люстрана-адналінейнага, павярхоўнага адбіцця аб'ектыўнай рэчаіснасці».

Суб'ектыўны аспект мае вельмі істотнае значэнне ў творчым працэсе, паколькі адметнасць светабачання і жыццёвай пазіцыі аўтара ў многім прадвызначае паэтыку яго твораў. І. Навуменка ставіць у лік першаступенных задачу даследавання ўнутранага свету аўтара ў яго адносінах да мастацкіх інтэнцый. «Перш за ўсё, — заўважае ён, — не трэба забываць пра асобу самога мастака, пра яго духоўны склад, непаўторны чалавечы воблік, схільнасці, сімпатыі, антыпатыі». Суаднясенне — вядома, не наўпроставае — творчых пошукаў аўтара з духоўным воблікам яго герояў, на думку І. Навуменкі, дае магчымасць для істотнага пашырэння даследчыцкага поля. Такі падыход выяўляе сваю актуальнасць і ў сучасных умовах, калі назіраецца тэндэнцыя да пэўнага адасаблення таго, што звязана са светам аўтара, ад літаратурнага твора, які ўспрымаецца як *тэкст*, аўтаномная і замкнёная на сабе структура.

У літаратуразнаўчых даследаваннях І. Навуменкі якраз вялікая ўвага надаецца выяўленню светабачання, творчай манеры, мастацкага свету пісьменніка — усяму, што складае яго творчую індывідуальнасць, чым ён адрозніваецца ад іншых аўтараў. Параўнальна-тыпалагічны метад знайшоў у асобе І. Навуменкі аднаго з самых адданых прыхільнікаў. Як нам уяўляецца, у пэўным сэнсе якраз логіка дадзенага метаду прывяла даследчыка да ідэі стварэння дзвюх манаграфій — пра Купалу і Коласа, у якіх мастацкія светы класікаў разгортваюцца як бы ў паралельным вымярэнні.

Ні ў аднаго з купалазнаўцаў і коласазнаўцаў, мабыць, так раўналежна не падзелена ўвага паміж творчасцю абодвух класікаў, як у І. Навуменкі. Адны літаратуразнаўцы займаліся пераважна вывучэннем творчасці Купалы, другія — Коласа. І. Навуменка ж, па сутнасці, адзіны даследчык, які не толькі з аднолькавай грунтоўнасцю раскрыў у сваіх працах змястоўна-фармальную, мастацкую адметнасць спадчыны класікаў, але і распрацаваў пры гэтым метадалогію супастаўляльнага аналізу іх творчасці ў самым шырокім дыяпазоне. Ён не абмежаваўся канстатацыяй відавочнага факта супрацьпастаўленасці Купалы і Коласа як мастакоў, што адносяцца да розных тыпаў паэтычнага мыслення. Грунтуючыся на супастаўленні творчых манер і паэтык Купалы-лірыка і Коласа-эпіка, даследчык паказаў увасабленне іх творчых прынцыпаў у дынаміцы станаўлення. Пры гэтым ён звяртаў увагу не толькі на адрозненні, але і на тыпалагічныя сыходжанні, на пэўную ідэйна-эстэтычную блізкасць творчасці народных песняроў, абумоўленую шэрагам сацыяльных і культурна-гістарычных прычын.

Многія з'явы тагачаснай рэчаіснасці, як заўважае І. Навуменка, знайшлі аднолькава грунтоўнае выяўленне ў творах абодвух беларускіх класікаў. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу тым, што для іх быў агульным і аднолькава блізкім свет народнага жыцця, свет клопатаў і надзей беларускага селяніна-працаўніка. У гэтым аснова народнасці і дэмакратызму іх творчасці, якія затым сталі вызначальнымі прыкметамі нацыянальнай літаратуры на ўсім працягу яе развіцця да нашых дзён уключна. І. Навуменка асабліва падкрэслівае гэтую адметнасць нашай літаратуры: «Ні адна другая літаратура так моцна не прывязана да вёскі, да зямлі, да селяніна і кола яго пачуццяў, успрыманняў, уяўленняў — сацыяльных, этычных, эстэтычных, — як літаратура беларуская».

Задача даследчыка заключалася ў выяўленні індывідуальнай творчай адметнасці

Купалы і Коласа менавіта ў межах гэтай агульнай светапоглядна-мастацкай парадыгмы, у тым, каб паказаць, як з агульнай глебы ўздымаліся да вышынь мастацкай дасканаласці і асабовай непаўторнасці магутныя таленты, які шлях яны прайшлі ў сваім развіцці.

Як заўважае І. Навуменка, у творах Купалы і Коласа, асабліва першапачатковага перыяду, часта можна сустрэць аналагічныя тэмы, матывы, вобразы, малюнкі побыту і рэаліі прадметнага свету. Аднак жа гэта падабенства пры больш уважлівым аналізе выяўляе сваю адноснасць. Супастаўляючы канкрэтныя вершаваныя творы паэтаў, у якіх гаворка ідзе быццам бы «пра адно і тое ж» — адна і тая ж тэма, падобныя вобразы і нават сітуацыі, — даследчык паказвае, як па-рознаму пры гэтым выяўляюць сябе характэрныя для аўтараў спосабы мастацкага выражэння, уласцівыя ім тыпы светаадчування.

Варта звярнуць увагу і на методыку правядзення даследчыкам параўнальнага аналізу твораў. І. Навуменка не вылучае для параўнання асобныя цытаты з твораў Купалы і Коласа, а ўзнаўляе побач, на адной старонцы, вершы паэтаў цалкам. Гэта дазваляе больш наглядна прадставіць складаны працэс узаемадзеяння паміж паэтыкай і светапоглядам, суаднесці іх на ўзроўні *ц э л а с н а г а* ўспрымання. У дадзеным выпадку рэалізуюцца адразу два віды супастаўлення. Параўноўваюцца, па-першае, мастацкія сістэмы двух беларускіх класікаў. І такое параўнанне канкрэтызуецца, разгортваецца на аснове суаднясення ўнутры гэтых сістэм планаў зместу і выражэння. Такім чынам, аналіз, які выкарыстоўваецца даследчыкам пры супастаўлені творчых манер і стыляў класікаў, неаддзельны ад сінтэзу. Менавіта спалучэнне аналізу і сінтэзу дае магчымасць глыбокага пранікнення ва ўнутраны свет мастацкага твора, садзейнічае раскрыццю ўсёй паўнаты і шматстайнасці ўзаемадачыненняў мастака з рэчаіснасцю.

Івану Навуменку належыць, мабыць, найбольш дакладнае, сутнаснае вызначэнне мастацкай адметнасці Купалы і Коласа ў параўнальна-тыпалагічным аспекце. Характарызуючы талент Купалы ў аснове сваёй як лірычны, а коласаўскі — як эпічны, даследчык, грунтуючыся на ўважлівым аналізе паэтыкі іх твораў, разгортвае дадзенае параўнанне ў выглядзе стройнай дыхатамічнай мадэлі. Ім разглядаюцца суадносіны і ўзаемадзеянне такіх бакоў і ўласцівасцей творчасці класікаў, як *рамантычнае* і *рэалістычнае*, *гераічнае* і *паўсядзённае*, *суб'ектыўнае* і *аб'ектыўнае*, *умоўнае* і «*прадметнае*». Абапіраючыся на такі канцэптуальны падыход, І. Навуменка адзначае: «Паэтычнае мысленне Купалы вызначаецца рамантычнай маштабнасцю, палётам думкі, яго вобразы, малюнкі часта нясуць сімвалічную, філасофскую нагрузку. У Коласа, наадварот, пераважае канкрэтная карціна, характар, вобраз, у яго паэтычных творах шырока прадстаўлен матэрыяльны, рэчавы свет». Вывады і абагульненні даследчык высноўвае на падставе падрабязнага разгляду канкрэтнай увасобленасці мастацкага светапогляду кожнага з паэтаў у іх творах.

Прыкметы таго рамантычнага разладу паміж ідэалам і сапраўднасцю, які быў характэрны для светабачання Купалы, І. Навуменка знаходзіць перш за ўсё ў экспрэсіўнасці сродкаў паэтычнага выражэння, якія ён выкарыстоўвае, асаблівасцях яго кантраснай, прасякнутай рэзкімі проціпастаўленнямі і гіпербалізаванай вобразнасцю, паэтыкі. Колас, светаўспрыманне якога было ў большай ступені ўраўнаважаным, гарманізаваным, у сваіх творах, як гэта добра паказвае І. Навуменка, выяўляў праз павышаную зацікаўленасць да асобнага прадмета, рэчы, рэаліі свае адносіны да жыцця, свае этычныя і эстэтычныя погляды. У аснове такой аўтарскай пазіцыі, на думку І. Навуменкі, знаходзіцца ўспрыманне быцця ў яго цэласнасці і гарманічнасці. Ён асабліва падкрэслівае, што для стылю Коласа характэрны «мастацкі сінтэз, цэльнае, непасрэднае светаўспрыманне».

Раздумваючы над праблемай узаемазалежнасці ў творчасці пісьменніка стылявых і светапоглядных фактараў, І. Навуменка выказвае меркаванне аб тым, што «прычыны перавагі мастацкага сінтэзу над аналізам, відаць, у тым, што творчасць Коласа па духу вельмі блізкая да народнага светаўспрымання». Як нам думаецца, ніколькі не прымяншаючы народнасці паэзіі Купалы, дасслед-

чык змог вельмі дакладна і тонка вызначыць істотную адметнасць выяўлення народнага менталітэту і яго эстэтычных характарыстык у творчасці Коласа. Шматбакова даследуючы паэму Коласа «Новая зямля», І. Навуменка раскрывае сувязь гэтага шэдэўра беларускай паэзіі з народным светаўспрыманнем і светаадчуваннем. Гэтая сувязь, на яго думку, рэалізуецца перш за ўсё ў выяўленні «пачуццёвай радасці як асноўнай апоры жыцця». «Радасць жыцця як існавання — гэтай эпікурэйскай паэзіяй наскрозь прасякнута «Новая зямля», — робіць выснову І. Навуменка.

Цікавыя і перспектыўныя супастаўленні, аналогіі ажыццяўляліся вучоным пераважна ў межах нацыянальнай літаратуры. І. Навуменка пераканаўча паказаў, што кампаратывістычныя даследаванні, заснаваныя на параўнальна-тыпалагічным аналізе, даюць добры плён не толькі пры суаднясенні іншамоўных і іншанацыянальных з'яў, але і пры параўнанні з'яў унутрылітаратурных.

У той жа час думка даследчыка ў пошуку пэўных аналогій магла сягаць і ў сферы, значна аддаленыя ад нацыянальнай культурнай глебы. У гэтым можна пераканацца хоць бы на прыкладзе вышэйпрыведзенага суаднясення матыву коласаўскай паэзіі, што вызначаецца даследчыкам у якасці асноўнага ў паэме «Новая зямля», з эпікурэйскім светаўспрыманнем. Спыняючыся ж на натурфіласофскіх поглядах, што выявіліся ў «Сымону-музыку», І. Навуменка вельмі слушна заўважае, што «гётэўская ідэя бачання прыроды як гармоніі, якая мае сэнс і гаворыць мастаку на мове «жывых перажыванняў», дала адчувальны засеў у паэзіі Коласа». Гэта толькі некалькі прыкладаў выхаду даследчыка да іншанацыянальнага гісторыка-культурнага вопыту, якія тым не менш яскрава выяўляюць маштабнасць яго мыслення, абсяг яго духоўных і эстэтычных зацікаўленняў.

На даследчыцкую дзейнасць І. Навуменкі аказала, безумоўна, пэўнае ўздзеянне яго творчасць як пісьменніка. Выявілася гэта, як нам думаецца, перш за ўсё ў свабодзе і нязмушанасці выказвання ідэй, навуковых гіпотэз, выразнасці і грунтоўнасці выкладу літаратуразнаўчых канцэпцый. Шырыня погляду на свет, глыбокае разуменне чалавека і жыцця, уласцівыя Навуменку-пісьменніку, мабыць, не маглі не адбіцца і на характары яго літаратуразнаўчых штудый. І аўтары, творчасць якіх ён даследуе, і іх героі паўстаюць са старонак навуменкаўскіх літаратуразнаўчых кніг ва ўсёй глыбіні і непасрэднасці сваёй асабовай, чалавечай яўленасці. Спазнаць чалавека ва ўсіх праявах яго характару і абставінах жыцця — гэтай галоўнай мэтавай устаноўкай кіраваўся І. Навуменка і ў сваіх даследчыцкіх працах. І гэта ў многім вызначала агульную накіраванасць яго навуковых пошукаў, адметнасць яго літаратуразнаўчых канцэпцый.






# У ІМЯ ПРАЎДЫ ГІСТОРЫІ

***Падаляк, Т. У. Нашчадкі вогненных вёсак: дакументальныя нарысы, эсэ, успаміны / Таццяна Падаляк. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. — 192 с., іл.***

Шырокі чытацкі рэзананс выклікаў цыкл публікацый «Звязды», аб'яднаных агульнай назвай «Нашчадкі вогненных вёсак». Журналістка Таццяна Падаляк сабрала сведчанні людзей, якія на свае вочы бачылі зверствы фашысцкіх карнікаў на тэрыторыі акупіраванай у Вялікую Айчынную вайну Беларусі, альбо тых нашых сучаснікаў, хто расказаў пра жахі, трагедыі жыхароў спаленых вёсак, знаёмых, родзічаў, хто сапраўды абпалены полымем 1941—1944-га... Адна публікацыя нараджала другую. Разгледзеўшы шчырую зацікаўленасць газеты, сталага веку і зусім юныя аўтары, краязнаўцы, школьнікі, нераўнадушныя да памяці пра далёкія падзеі, запрасілі чытача ў падарожжа па часе.

Хіба можна без хвалявання чытаць распавед пра трагічны лёс Дальвы Лагойскага раёна: бяда напаткала яе жыхароў 19 чэрвеня 1944 года. Лічаныя тыдні, дні заставаліся да вызвалення Беларусі... Гэта была апошняя з 628 беларускіх «вогненных вёсак» Вялікай Айчыннай. Фашысты зажыва спалілі 44 чалавекі: 29 дзяцей, 13 жанчын, 2 мужчын. Цудам застаўся жыць Мікалай Гірыловіч (ён гаварыў: «Гасподзь пакінуў мне жыццё — каб было каму расказаць...»). «Дальва — сястра Хатыні» — так называецца яго кніга, у якой расказваецца пра лёс паселішча, пра тое, як у самы пярэдадзень вызвалення здарылася жудасная бяда. Публікацыі, якія Таццяна Падаляк рыхтавала на працягу года, адкрылі перад чытачом «Звязды» асабліва эмацыянальную геаграфію — геаграфію пакут і болю. Асабіста ў мяне склалася адмысловая папка газетных выразак. Час ад часу я вяртаўся да іх, маючы некаторы ўласны досвед у тэме, успамінаючы распавед пра спаленыя пухавіцкія вёскі: Бабы, Балоча (палілі два разы), Белькавічы (гітлераўцы спалілі вёску ў чэрвені 1943 г., загінула 6 жыхароў), Бор (загублена 235 жыхароў), Быцень (спалена ў маі 1944 года), Валасач (трагедыя здарылася ў маі 1943, загублена 104 жыхары), Вялікія Лукі, Дрычын (спалена часткова ў 1943 г.), Дудзічы, Ельнікі, Залог Пяцігодкі, Замосце, Зафранцузская Грэбля, Крыстамполле, Ліпск, Люці... А яшчэ — Беразянка, Прыстань, Падсобнае. Думаючы пра вядомыя з гісторыі Пухавіччыны трагедыі «сясцёр Хатыні», цяпер я зазіраю не толькі ў выразкі, але і на старонкі кнігі Таццяны Падаляк «Нашчадкі вогненных вёсак», якая пабачыла свет у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва». Поруч з тэкстамі — сучасныя і архіўныя фотаздымкі. Яны дадаюць эмацыянальнасці зместу, знаёмяць з дзецьмі, унукамі жыхароў спаленых вёсак, расказваюць пра тое, як праходзіла творчая акцыя «Звязды» і Дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу «Хатынь». Грамадская ініцыятыва, сама ўвага да тэмы паяднала многіх людзей. Прычым — не толькі на газетнай паласе. Вось што піша Таццяна Падаляк напрыканцы кнігі: «Акцыя «Нашчадкі вогненных вёсак», наладжаная рэдакцыяй «Звязды» і ДМК «Хатынь», праходзіла ў некалькі этапаў.

22 сакавіка 2006 года, у дзень трагедыі Хатыні, у мітынгу-рэквіеме ўдзельнічалі не толькі хатынцы — Уладзімір Яскевіч,

Соф’я Фіохіна, Віктар Жалабковіч. Тут быў і Мікалай Гірыловіч са знішчанай фашыстамі Дальвы, і Уладзімір Жаваронак з вёскі Літвічы. На Могілках спаленых вёсак нізка кланялася сваёй роднай вёсцы Боркі Вілейскага раёна Фаіна Анасовіч...

А 22 чэрвеня 2006 года ўдзельнікі акцыі прадстаўлялі фактычна ўсе рэгіёны Беларусі.

На адзіных у свеце Могілках спаленых вёсак успамінала сваіх землякоў Рэма Вячаславаўна Стахоўская — ёй адной удалося выратавацца са знішчанай вёскі Копанка Ельскага раёна. Яна прыехала разам з дочкамі, зяцямі і ўнукамі.

З вёскі Вялічкавічы Салігорскага раёна прыехаў Антон Паўлавіч Коўцік. Пасля вызвалення Беларусі ён помсціў за спаленых зажыва землякоў на фронце. Самая дарагая яго ўзнагарода — медаль «За адвагу».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паводле акцыі «Нашчадкі вогненных вёсак» у Хатыні адкрылася аднайменная экспазіцыя.

Кожны год 22 сакавіка, у дзень хатынскай трагедыі, збіраюцца людзі, якім цудам удалося вырвацца з вогнішча вайны.

Спаленыя разам з людзьмі вёскі — трагічны сімвал Беларусі, сведчанне нацысцкага генацыду супраць беларускага народа ў Другой сусветнай вайне.

Сведкі Праўды, якіх застаецца ўсё менш, — сумленны адказ на пытанні новага часу да мінулага. Яны не пакідаюць сумненняў аб Праўдзе вайны.

Праўдзе вайны няма і не можа быць альтэрнатывы.

Падмена паняццяў недапушчальная і небяспечная.

Жыццё памяці — гісторыя народа, праўда вайны ў якой папаўняецца гэтым выданнем, яшчэ адной дакладнай старонкай ад жывых Сведак Гісторыі.

Актыўная грамадзянская руплівасць, публіцыстычны запал журналісткі «Звязды» Таццяны Падаляк адзначаны высокай узнагародай — Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. А ўсім, хто нераўнадушны да болю сваіх прашчураў, выдатным падарункам стане выдадзеная па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь кніга «Нашчадкі вогненных вёсак», кніга, якую па праву можна назваць анталогіяй болю за сваю Айчыну. У дакументальнай хроніцы «Я з вогненнай вёскі...» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка (пабачыла свет у 1975 годзе) ёсць такія словы: «Паслухайце ж, што гаворыць, як памятае пра тое народ. Дзесяткі кіламетраў магнітафонных запісаў — расказы больш як трохсот непасрэдных сведак хатынскіх трагедый — склалі змест гэтай кнігі. Тысячы кіламетраў дарог — асфальтаваных, палявых, лясных — звязваюць іх, ахвяры фашысцкіх зверстваў. <...> На старонках гэтай кнігі сабраліся людзі, што выйшлі з агню, з-пад зямлі. І гэта — у самым рэальным, не пераносным сэнсе. Людзі з вогненных вёсак сабраліся тут, каб сведчыць, пытацца, судзіць, каб расказаць пра тое, пра што ведаць — страшна, а забыцца — небяспечна.

Сваю задачу мы бачылі ў тым, каб зберагчы, утрымаць, як «плазму», невыносную тэмпературу чалавечага болю, недаўменняў, гневу, якія не толькі ў словах, але і ў голасе, у вачах, на твары; утрымаць усё тое, што, як паветра, акружае чалавека, які расказаў нам, а цяпер, са старонак кнігі, звяртаецца да чытача — да вас звяртаецца».

Кніга Таццяны Падаляк «Нашчадкі вогненных вёсак», створаная таленавітай журналісткай з дапамогай сведкаў жудасных трагедый, — дастойны працяг зробленага пісьменнікамі ваеннага пакалення Алесем Адамовічам, Янкам Брылём, Уладзімірам Калеснікам.

***Кастусь ЛЕШНІЦА***



Вячаслаў ГРЫБАЙЛА

# «ЯК ВЫХОДЗЯЦЬ У ЛЮДЗІ…», або «НА ЎСЯКАГА МУДРАЦА ХАПАЕ ПРАСТАТЫ»

Прэм'ера спектакля «Мудрацы…» па п'есе Аляксандра Астроўскага «На ўсякага мудраца хапае прастаты» Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа апраўдала мой аптымізм не толькі надзвычайнай абвостранасцю сацыяльнай тэмы, але і стварэннем сцэнічнага твора якаснай нацыянальнай драматургіі.

Ніякага парадокса ў гэтым няма. Пастаноўшчык і сцэнограф спектакля — мастацкі кіраўнік тэатра Рыд Таліпаў — звярнуўся да п'есы класіка рускай драматургіі ў перакладзе выбітнага майстра нацыянальнай драматургіі Кандрата Крапівы, які сцвярджаў, што «свой тэатральны досвед» ён «набыў менавіта падчас працы над перакладамі». Сцэнічны твор коласаўцаў арганічна ўвабраў у сябе мудрасць двух братэрскіх народаў, вярнуў на сцэну мову вялікага беларускага байкапісца, тым самым спрыяючы «актыўнаму вяртанню да тэатральных традыцый». Якраз захаванне і творчае ўзбагачэнне нораваў, звычаяў і асноў народа, па выразе міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі на выніковай калегіі гэтага ведамства, «будзе спрыяць і актыўнай самаідэнтыфікацыі, павышэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў».



*Віктар Дашкевіч у ролі Ніла Федасеевіча Мамаева і Тадэвуш Кокштыс у ролі Круціцкага.*

Да таго ж, гэта досыць пераканаўчы спосаб знайсці кампраміснае рашэнне ў пошуку п'ес для пастановак у тэатрах, асабліва падчас дэфіцыту сучаснай беларускай драматургіі.

Новая сцэнічная праца коласаўцаў з'яўляецца, безумоўна, этапнай для тэатра. Выбар бездакорнай драматургіі далёка не выпадковы. Тэатральная лексіка Аляксандра Астроўскага надзвычай аб'ёмная і шматзначная. А сакавітасць і трапнасць мовы дапоўнена жывасцю нацыянальнага каларыту перакладу Кандрата Крапівы. Тым больш што шматмернасць сэнсавых пластоў спектакля дае магчымасць пастаноўшчыкам не толькі рашаць разнастайныя творчыя задачы, але і «злучыць» стагоддзяў «сувязную нітку». І, што самае галоўнае, стварыць яркі і эмацыянальна выразны твор аб кожным з нас, аб часе, у якім мы жывём.

Чым жа зацікавіла тэатр п'еса Аляксандра Астроўскага? Пра што спектакль коласаўцаў?

Перш за ўсё, драматургічны матэрыял прыцягнуў увагу рэжысёра сваёй пранізлівай адкрытасцю і дакладным мастацкім аналізам сучаснасці. Дарэчы ўспомніць, што калісьці, у трыццатыя гады, актуальнасць



*Раіса Грыбовіч у ролі Глумавай і Юрый Гапееў у ролі Глумава.*

п'есы так уразіла Кандрата Крапіву, што ён выкарыстаў класічны драматургічны прыём Аляксандра Астроўскага для стварэння шэдэўра беларускай сатырычнай камедыі «Хто смяецца апошнім».

Рыд Таліпаў, які прытрымліваецца традыцыі нацыянальнай сатырычнай камедыі, паглыбляе і пашырае дыяпазон асэнсавання рэчаіснасці. Камедыйныя персанажы рускага драматурга XIX ст. як бы «ўплаўляюцца» ў сатырычныя вобразы Кандрата Крапівы XX ст. і зноў адраджаюцца самім жыццём ужо ў нашым стагоддзі. Таму і ўзнікае натуральная пераемнасць пакаленняў і новы жанр сцэнічнага твора коласаўцаў — «сатырычны рэалізм».

А калі ўлічыць, што персанажы п'есы настолькі вядомыя і ўяўляюць сабой рэльефны зрэз сённяшняга жыцця, то цалкам відавочна і галоўная думка спектакля, якую з выключным пачуццём меры і дзіўным тактам даносіць да гледачоў пастановачны калектыў. Філасофскі і прагматычны аспекты галоўнай тэмы творчасці Рыда Таліпава — Чалавек і яго лёс — у дадзеным сцэнічным творы разглядаюцца рэжысёрам у кантэксце Часу і Грамадства. Тэатр мастацкімі сродкамі даследуе прычыны цяперашняй сітуацыі ў нашым жыцці, ні на хвіліну не выпускаючы з поля зроку грамадзянскую пазіцыю асобы ў дзяржаве. Рэжысёра цікавіць, што перашкаджае чалавеку заняць годнае месца ў грамадстве. Інакш кажучы, што аб'ядноўвае і раз'ядноўвае людзей сёння. Адгэтуль і публіцыстычны пафас відовішча, які выцякае з глыбока прадуманага псіхалагічнага разбору характараў персанажаў.

Да таго ж, пастаноўшчык прыняў да ўвагі і асаблівасці ўспрымання складанага кантэксту драматургіі сучасным гледачом, чые густы фарміруюцца, праграмуюцца і абязлічваюцца Інтэрнетам, камп'ютэрнымі гульнямі, эстрадай, прадукцыяй кіна-, тэле- радыё- і відэарынку, сродкамі масавай інфармацыі. Агульная танальнасць сцэнічнага твора была нязмушанай, лёгкай, вясёлай і жывой, а адсутнасць дыдактыкі і павучальнасці дае магчымасць нават непрактыкаванаму гледачу ўважліва сачыць за падзеямі, якія адбываюцца на сцэне, жыва адгукаючыся на гумарыстычныя пасажы і змену настрояў прадстаўнікоў тагачаснага маскоўскага бамонду.

Гэтаму спрыяе і прадуманы да дробязей тэатральны жывапіс спектакля, які стварае не толькі патрэбную атмасферу гульні, але і запоўнены «гаворачымі» сімваламі, якія дапамагаюць акцёрам ствараць найбольш выразны і эфектны вобраз. Галоўная асаблівасць сцэнаграфіі Рыда Таліпава бачыцца ў тым, што на сцэнічнай пляцоўцы няма ніводнай лішняй дэталі. Усё працуе на звышзадачу спектакля. Усе часткі сапраўды падабраныя і арганічна злучаныя паміж сабою.

На амаль пустой прасторы сцэнічнага круга, безабароннага перад шалёнымі «віхурамі» часу, стыхіямі эпох і навараў, размяшчаюцца элементы інтэр'ераў, у якіх дамінуюць гадзіннікі рознай канфігурацыі, якія вызначаюць тым самым сімвалічнае месца пасялення людзей. Чорны аксаміт вопраткі сцэны толькі падкрэслівае раз'яднанасць і разарванасць гэтага параўнальна невялікага «запаведніка» жыцця і разам з тым важнасць усяго таго, што будзе адбывацца на гэтым «лобным месцы». Стрэлкі на цыферблатах некаторых гадзіннікаў ужо даўно спыніліся. А некаторыя з іх нават напалову «сышлі» ў зямлю, «патанулі» ў пяску мінулага. Адчуванне такое, што яны нясмела і з дакорам «падглядваюць» за тым, што адбываецца на сцэне. Толькі вялізны пясочны гадзіннік паказвае на скарацечнасць і імклівасць часу.

Дэманструючы гэтыя хранографы, сцэнограф дае магчымасць гледачу больш востра адчуць бясплоднасць інтарэсаў і бессэнсоўнасць існавання персанажаў, якія так бяздумна прапальваюць час. Як бы яны

ні мітусіліся, гадзіннікі спыніліся, іх час сышоў. Так нараджаецца філасофскі вобраз страчанага часу. А глядач мае магчымасць суаднесці сваю жыццёвую пазіцыю і эмацыянальны пасыл са сцэнічнымі рэаліямі. Тым больш што рэжысёр і акцёры, «над выдумкай слязамі» абліваючыся, усім дзеяннем, якое адбываецца на сцэне, імкнуцца папярэдзіць цяперашняе племя «младое», «незнаёмае».

Найбольш дакладна сэнсавы кантэкст замацоўваецца пастаноўшчыкамі і ў гукавым вобразе спектакля, у аснове якога — фрагменты бойкіх скокаў з сімфанічнай фантазіі Міхася Глінкі «Камарынская» (музычнае афармленне Аляксандра Крыштафовіча). Адважнае спалучэнне розных рытмаў, характараў і настрояў музычных мініяцюр арганічна ўліваецца ў тэмпарытм сцэнічнага твора коласаўцаў, якое ўзмацняе ўспрыманне агульнай атмасферы дзеяння, надаючы адмысловую пікантнасць характарыстыкам дзеючых асоб, а таксама асобай манеры перамяшчэнняў персанажаў пры змене мізансцэн.

Такім чынам, перад намі — цэлы паноптыкум персанажаў, якія запаўняюць пустэчу свайго жыцця бессэнсоўнымі ўчынкамі, сапраўды гэтаксама, як пясок у гадзінніку перацякае ў пусты рэзервуар. Усе яны ненавідзяць адно аднаго, лічачы сябе разумнейшымі і мудрэйшымі за іншых, але ўсіх іх аб’ядноўваюць карыслівыя мэты і меркантыльныя інтарэсы.

Чаго варты, да прыкладу, Мамаеў (Віктар Дашкевіч). Самазабыўна ўпіваючыся сваёй значнасцю, цемрашал і ханжа, Ніл Федасеевіч імкнецца выправіць норавы кожнага чалавека паасобку. Акцёр пераканаўча перадае фанабэрыстасць і славалюбства, бессэнсоўнасць учынкаў і дурасць свайго персанажа. Удала знойдзены грым сівавалосага старога ў вялікіх бакенбардах з прыжмурам наіўнага немаўляці ў спалучэнні з запаволенай пластыкай персанажа дае магчымасць выканаўцу стварыць выразны вобраз Мамаева, які выклікае да сябе дваістыя адносіны: з аднаго боку — пагарду, а з іншага — жаль да бездапаможнага старога, які і жонку сваю пхне ў рукі пляменніка з-за боязі, што яна — дасведчаная жанчына ў самым росквіце — можа сысціся «з катаржным». Акрамя таго, акцёр як бы аддаляецца ад свайго персанажа, адначасова выяўляючы і сваё ўласнае ўспрыманне Мамаева. Катэгарычнасць характару і наіўнае аднабаковае паданне аб жыцці старога выклікае ў выканаўцы спачувальнае разуменне з гумарыстычным адценнем.

Бліскучае выкананне народным артыстам Беларусі Тадэвушам Кокштысам ролі Круціцкага не пакідае нікога абыякавым. Акцёр адкрываецца гледачу новымі гранямі таленту, якія дапамагаюць яму адшукаць найбольш яркія і маляўнічыя характарыстыкі для свайго персанажа. «Марш» сучаснага вайсковага кампазітара Валерыя Халілава, падабраны пастаноўшчыкамі адмыслова для музычнай тэмы Круціцкага, як нельга дарэчы адцяняе прыроду душэўнага складу састарэлага «жыўчыка» ў генеральскіх лампасах. Дынаміка вобраза пацвярджаецца «хвацкай» удаласцю мінуўшчыны гусара ў адносінах з Турусінай, паблажлівасцю ў зносінах з Мамаевым, фанабэрыяй і пампезнасцю, прадэманстраванымі Глумаву. Круціцкі стварае вакол сябе антураж з бюстаў вялікіх людзей і напраўду ўпэўнены, што ён — адзін з іх. Сведчаннем таму служыць цудоўна сыграная сцэна прыходу Глумава да генерала. Пранізлівае маўчанне Круціцкага і адчужаны ад усяго недвухсэнсоўны погляд, рашуча накіраваны на калонападобны пусты пастамент, настолькі выразны, што гледачу становіцца не па сабе ад прадчування толькі адной магчымасці наступнага дзеяння — неадкладнае аддзяленне галавы ад тулава трагікамічнага генерала і ўстанаўленне на прызначанае для яе месца. Як зачараваны назірае за старым усё разумеючы Глумаў, які стаіць побач з ім.



*Галіна Букаціна ў ролі Турусінай.*

Вытрымаўшы прыстойную паўзу і атрымаўшы асалоду ад зробленага на навакольных эфекту, стваральнік «Трактата аб шкодзе рэформ наогул» разумова адкладае аперацыю пад дэвізам «Я помнік сабе ўзвёў…», добразычліва паціскаючы руку Глумаву з пачуццём моцнага здзіўлення, што юнак аказаўся добрым рэдактарам. І пры ўсім гэтым выканаўца ўмудраецца перадаць сутнасць вобраза старога ваякі, які пры наяўнасці розуму пяцігадовага дзіцяці спрабуе здзейсніць грандыёзныя змены.

Выразны і грунтоўны вобраз франтаватага пустаслова і фразёра Гарадуліна ў выкананні маладога артыста Аляксандра Базука. Яго персанаж у свецкіх тусоўках называе сябе лібералам, так да канца і не разумеючы сэнсу гэтага слова — проста модна. У яго настолькі няма часу, што ён і думаць-то, уласна, не паспявае.

Характарную волю прадстаўніка «чацвёртай улады», нахабнага прайдзісвета і беспардоннага «графамана» Галутвіна сыграў Юры Цвірка. Жыццёвае крэда яго персанажа выяўляецца ў словах: «Я працую на заганах іншых». Нават у маленькай эпізадычнай ролі выканаўца імкнецца знайсці незвычайныя фарбы, што робіць выпуклым і псіхалагічна апраўданым вобраз яго персанажа, так дзіўна падобнага на сучасных папарацы.

Абаяльны вобраз шукальніка багатых спадчынніц, а іншымі словамі, перакананага альфонса, стварыў Максім Каржыцкі. Яго Курчаеў яшчэ не настолькі сапсаваны, каб актыўна супрацьстаяць інтрыгам. Плывучы па плыні, займаючы чакальную пазіцыю ў жыцці, ён характарызуе сябе як чалавек, які «ніякай дабрачыннасці» і «заган» не мае, а «проста звычайны чалавек». Пры гэтым малады валацуга лічыць, што «гэта дзіўна — шукаць дабрадзейнага чалавека» ў грамадстве.

Досыць грунтоўныя і красамоўныя вобразы слуг. Для кожнага з іх рэжысёр Рыд Таліпаў знаходзіць сваю творчую нішу, тым самым адцяняючы характары іх гаспадароў. Чалавек Мамаева (Ягор Дзяюн) нагадвае, хутчэй, прапаленага дзялка і прайдзісвета, які ўмела карыстаецца слабасцямі Мамаева і здабывае максімальную карысць для сябе, у той час як статуарнасць і стрыманасць чалавека Круціцкага (Уладзімір Сівіцкі) гаворыць аб поўным падабенстве характараў гаспадара і слугі.

Дзіўна каларытныя і гарманічныя жаночыя вобразы ў спектаклі «Мудрацы…». Сыграныя на адным дыханні, яны ўяўляюць сабой галерэю сучасных жаночых партрэтаў са своеасаблівым разуменнем значэння слова «мараль». Кожны вобраз па-свойму непаўторны і пераканаўчы. Выразныя сродкі і характарыстыкі персанажаў актрысы запазычылі з рэчаіснасці, якая іх акружае. І разам з тым у сваіх сцэнічных працах усе выканаўцы выявілі новыя рысы свайго іскрамётнага таленту.

Па задуме рэжысёра, вобраз Мамаевай шматгранны. Ён, па сутнасці, уяўляе тры якасці адной і той жа іпастасі: неўтаймаваны запал маладзіцы, невынішчальнае запатрабаванне гарачай жанчыны ў каханні, нястрымны клопат аб сваёй сваячцы ў спалучэнні з ілюзорным светам сучаснасці, якая сарамліва затуляе бурную маладосць мінулага. На сцэне ўсе гэтыя жаночыя ўласцівасці па волі драматурга персаніфікуюцца ў вобразах Машанькі (мінулае Мамаевай), самой Мамаевай (яе сучаснасць) і Турусінай (будучыня Мамаевай).

Актрыса Анжаліка Баркоўская віртуозна справілася з задачай пастаноўшчыка, стварыўшы дзіўна арганічны псіхалагічны партрэт жанчыны, у якім паказала найтанчэйшыя нюансы пачуццяў — ад расчаравання шлюбам па разліку і незапоўненасці жыцця да ўзгаральнай і акрыленай сілы кахання. У росквіце гадоў Клеапатра Львоўна зусім ужо страціла надзею пакахаць. Тым больш стары муж-зануда не даваў ёй волі і выбару. Для жанчыны гэта раўназначна страце свайго твару. Таму ў першых сцэнах твар Мамаевай літаральна пазбаўлены якіх-небудзь выразных рыс: выбеленыя вейкі і бровы, адсутнасць памады на вуснах, прутка сцягнутыя ў пучок валасы з прыкметнай сівізной і кружкі акуляраў, якія нядбайна сядзяць на носе, рабілі яго несамавітым, шэрым, казённым. Такая ж вуглаватая і пластыка персанажа. Але з якой паспешнасцю і настойлівасцю персанаж Анжалікі Баркоўскай успрымае жаданае за сапраўднае! Якія жыватворныя сілы змяняюць усё аблічча Мамаевай! Як ёй хочацца верыць у каханне юнака, які ўдвая маладзейшы за яе! Фантазіі маці Глумава, якая ўпэўніла Мамаеву ў апантаным каханні да яе свайго сына Ягора, далі свой плён. Тым больш што за гэта сама Глафіра Клімаўна шчодра ўзнагароджана замужняй дамай. Фактычна Мамаева купляе свайго ўміла-

ванага ў яго маці. У свеце карыслівасці і выгоды ўсе сродкі добрыя. Затое каханне акрыляе, робіць жанчыну прыгожай і рашучай. І… пазбаўляе розуму. Справакаваная маці маладога чалавека, Мамаева пераацэньвае сябе, не адчувае фальшу ў адносінах з Глумавым. З тэмпераментам галоднай тыгрыцы Клеапатра Львоўна накідваецца на сваю ахвяру, а авалодаўшы ёй, ніколі і нікому яе не саступіць. Нават выпадковае выяўленне дзённіка Ягора не астуджвае яе пачуццяў. Таму Мамаева і пакідае ў фінале за сабой права вярнуць умілаванага. І зусім не абавязкова пры гэтым думаць аб маральнасці. Філіграннасць і найтанчэйшае майстэрства, выяўленыя актрысай пры стварэнні да болю знаёмага кожнаму вобраза бізнесвумен бальзакаўскага ўзросту, якая пакутуе, з нерастрачанымі сіламі і аслепленая каханнем, выклікалі бурную рэакцыю, захапленне гледачоў.

Вобраз Машанькі ў выкананні таленавітай актрысы Ніны Обухавай дапаўняе характарыстыку Мамаевай, бязлітасна агаляючы праўдзівую матывацыю ўчынкаў прыгожых спадчынніц пры самотных цётачках. Ствараючы эксцэнтрычны, перапоўнены запалам і дурнымі жаданнямі пусціць у распыл сваю спадчыну вобраз, актрыса ўслед за рэжысёрскім пасылам выкрывае «болевыя» кропкі сучаснай «залатой моладзі» — вар'яцкае марнатраўства і ўтрыманства, бязглуздую ўпартасць і карысталюбства. Рамантыка пачуццяў, адухоўленасць першага пацалунка, стрыманасць, сціпласць і выхаванасць чужыя пляменніцы Турусінай. Курчаеў або Глумаў патрэбны Машаньцы як «ключ», які адкрые, нарэшце, «залатую клетку», і яна выпырхне на волю і зможа скарыстацца сваім пасагам. Выканаўца знаходзіць дакладныя выразныя пластычныя сродкі, каб выявіць псіхалагічную і фізіялагічную дамінанту характару свайго персанажа — маладая дзяўчына загадзя жадае прапальваць жыццё, як зараз гавораць, «па-сапраўднаму адвязацца і чадзець». Гэтыя асабістыя якасці Машанькі паходзяць з мінулага яе цёткі. Вобраз пляменніцы — рэтраспекцыя жыцця багатай удавы, што толькі даказвае «эфект бумеранга», цыклічнасць і абумоўленасць падобных разбуральных з'яў — усё ў жыцці паўтараецца.

Узаемаадносіны Турусінай па ходзе дзеяння з рознымі персанажамі спектакля наглядна паказваюць гледачу працэс канчатковага фарміравання характару жанчыны з асабістымі якасцямі папярэдніх гераінь — Мамаевай і Машанькі. Іншымі словамі, завяршэнне эвалюцыі былых уладалюбівых какотак і ператварэнне іх у асоб, якія пакутуюць ад усеагульнай амаральнасці. Рэжысёр Рыд Таліпаў і актрыса Галіна Букаціна знаходзяць адзіныя правільныя пастэльныя фарбы ў абмалёўцы натуры Турусінай. Пры гэтым паўтоны і намёкі нашмат больш відавочныя за прамую дэманстрацыю і насмешкі. Выканаўца ролі па-майстэрску знаходзіць спосаб сцэнічнага існавання сваёй гераіні, мякка і тонка, з далікатным гумарам выкрываючы яе праўдзівы твар. Турусіна ў старэчым узросце шукае абраз, за якім ёй хацелася б схавацца. Сэнс свайго жыцця і будучыні сваёй пляменніцы яна знаходзіць у паранармальных з'явах. Соф'я Ігнацьеўна стамілася браць на сябе адказнасць за тое, што адбываецца, усе яе ідэалы паваліліся: «Я ведаю адно, што на зямлі праўды няма, і з кожным днём усё больш у гэтым пераконваюся». Таму яна такая добрая да «ўбогіх вандроўнікаў», каражбітак і празорцаў, якія за невялікую ўзнагароду і ўзводзяць яе ў аблічча «святой пакутніцы». Здаецца, дробязь, а прыемна душу грэе. І толькі зрэдку ментарская інтанацыя ў дачыненні да пляменніцы змяняецца гуллівым і какетлівым тонам пані, якая час ад часу прыгадвае аб сваіх былых выхадках. Сам-насам яна не супраць скарыстацца ўвагай жанчыналюба Круціцкага, які па старой памяці далікатна і з уласцівай яму прамалінейнасцю юрлівага ката абследуе вызначаныя часткі яе тулава, якія не страцілі і па гэты дзень сваёй спакуслівасці. Зрэшты, апагеем крывадушнасці, якая давяршае партрэт «праведніцы»-ўдавы, можа служыць дзівосна тонка разыграная Галінай Букацінай і акцёрам Андрэем Качаном (Грыгорый, чалавек Турусінай) сцэнічная мініяцюра — усяго некалькі ледзьве ўлоўных жэстаў і рэплік, з якіх глядач разумее, што Турусіна дагэтуль не адмаўляе сабе ў жаночых задавальненнях і любоўных уцехах.

Каго толькі не сустрэнеш у багамольным доме Турусінай! «Пані, родам з купчых» спрабуе захоўваць «старасвецкія» традыцыі, веру ў цудоўныя знакі, прыкметы, варожбы, каб хоць чымсьці запоўніць нуду, пустэчу і бессэнсоўнасць баўлення часу. Натоўп «набожных» людзей, нахлебніц, а прасцей — дармаедак «тусуецца» вакол.

